WWW.NGO.UNIBEL.BY

чэрвень-ліпень '2002

# БЮЛЕТЭНЬ

## АСАМБЛЕІ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ НЯЎРАДАВЫХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ БЕЛАРУСІ

## НАЎPROCT ДА ЛЮДЗЕЙ
грамадзкія кампаніі

## НОВЫЯ ЦІМУРАЎЦЫ
"ЗРОБІМ ЛЕПШ!"

## ГРАНТЫ
І МАГЧЫМАСЬЦІ

## ВАС РАБУЮЦЬ
ШТО РАБІЦЬ?



# "ЗРОБІМ ЛЕПШ!"
## ГРАМАДЗКІЯ КАМПАНІІ

ТЭМА







# ГРАМАДЗКІЯ КАМПАНІІ - НАЎPROСТ ДА ЛЮДЗЕЙ

## блудны сын вяртаецца?

***Вацлаў Арэшка***

***Айчынны "трэці сэктар" перажывае новыя часы. Міты і стэрэатыпы, у ружовым палоне якіх мы жылі цягам другой паловы 90-х, расьсейваюцца і зьнікаюць гэтак жа імгненна, як былі створаныя. Адзін з такіх мітаў тычыцца ўзаемадзеяньня грамадзтва і грамадзкіх арганізацыяў. Як стваралася ілюзія ідыліі "беларускага каралеўства" і якім чынам грамадзкія арганізацыі могуць вярнуцца да рэаліяў, разважае Вацлаў Арэшка.***

### КАРАЛЕЎСТВА БЕЛАРУСЬ

У 1997-98 гг. Беларускі Гуманітарны Фонд "Наша Ніва" наладзіў у Польшчы шэраг фэстываляў беларускага мастацтва пад агульнаю назваю "Каралеўства Беларусь". Прыгожая назва запомнілася, а Каралеўства Беларусь стала пэўнай вехай ня толькі ў разьвіцьці беларускай незалежніцкай культуры, але і ўсёй беларускай дэмакратычнай супольнасьці.

Ідэя Каралеўства Беларусь - паралельнага грамадзтва, незалежнага ад "рынкавага сацыялізму" і "славянскага адзінства", ад "праваслаўнага атэізму" і абрыдлага афіцыёзу "ўсенародных сходаў" і "славянскіх базараў" вітала ў паветры. У Каралеўстве было ўсё сваё: мова (тарашкевіца), сьцяг і герб, культура, мастацтва, газэты, радыё, часопісы і кнігі, свае грамадзкія арганізацыі, партыі, нават "ценявы ўрад". Тады, пасьля Менскай вясны 1996 году, на ўздыме змаганьня з рэжымам, здавалася: яшчэ паўгода-год (ну можа пару гадоў) і ўсё - рэжым лясьне, і Каралеўства Беларусь цалкам зьменіць ЭРБЭ...

Кантактаў з апошняю паралельная Беларусь збольшага пазьбягала, грэбуючы здраднікамі. І дэмакратычны "трэці сэктар" разьвіваўся, часам як бы не зьвяртаючы ўвагі на існаваньне іншага, "недэмакратычнага" грамадзтва, адчуваючы сябе ня толькі лепшаю часткаю, а ўсім беларускім соцыюмам. Хто ня з намі - мусіў быў далучацца, альбо ня меў права на існаваньне ў будучай вольнай Беларусі. Хіба што падобна тады глядзела на сьвет і большасьць палітычных суб'ектаў. Тэндэнцыя на пэўную самадастатковасьць ды ізаляванасьць ад астатняй часткі грамадзтва была відавочнаю.



Але час мінаў, і, вяртаючыся зь ледзь не штодзённых мітынгаў і шэсьцяў у перапоўненым грамадзкім транспарце, многія кіраўнікі і актывісты НДА ўсё часьцей задумваліся над банальным: як знайсьці кватэру пад офіс, дзе адшукаць грошы на аргтэхніку і, у рэшце рэшт, як заплаціць "штатным" супрацоўнікам альбо няштатным "валянтэрам"...

Часам "Х" для "каралеўскага трэцяга сэктару" сталі прэзыдэнцкія выбары 2001. Але гэта была і выразная кропка ў прыгожай казцы пра падземнае крышталёвае Каралеўства Беларусь. Шэрае цывільнае грамадзтва ЭРБЕ, хаця й ня надта задаволенае панаваньнем свайго першага і адзінага, вяла рэагавала на падпольных эмісараў Каралеўства. Аказалася, што такія паняткі, як "трэці сэктар", НДА абсалютна і беспаваротна нічога ня значаць і не гавораць большасьці простых людзей, а шчырыя дэклярацыі й выдатныя кантакты з замежнымі калегамі ці спонсарамі не замяняюць прадстаўнікам арганізацыяў ані веданьня свайго народу, ані ўменьня працаваць на сваім месцы ды наладжваць кантакты са звычайнымі людзьмі - з выбаршчыкамі, з ва-

лянтэрамі, нават з журналістамі.

Адны з нас былі шакаваныя й расчараваныя гэтым. Поствыбарчы сындром не перажылі большасьць няўдалых кандыдатаў у прэзыдэнты ды некаторыя шчыльна зьвязаныя зь імі структуры. Але для іншых жыцьцё падчас выбараў стала добрай нагодай падумаць над адвечнымі беларускімі "куды ісьці й што рабіць".

Стала ясна, што хуткай і шчасьлівай рэвалюцыі, нават "бюракратычнай", у нас не атрымаецца. Трэба жыць і працаваць у той краіне, якую даў нам Бог і якую стварылі людзі - у тым ліку й мы самі. Трэба працаваць з гэтымі самымі людзьмі, нават калі яны й не разумеюць, што значыць "грамадзянская супольнасьць" ды збольшага не размаўляюць па-беларуску. Трэба, у рэшце рэшт, працаваць з той уладаю, якая зараз ёсьць. Так, мы выдатна ведаем, як выбіраліся і прэзыдэнт, і ягоная "палатка", разам з усім цывілізаваным сьветам не прызнаем іхнае легітымнасьці, але ёсьць жа іншыя структуры - ад ЖЭСаў да Савету Міністраў, якія займаюцца рэальнымі справамі: будуюць дамы, дарогі, заводы і г.д. З уладамі можна й трэба гутарыць, пацяху робячы сваімі партнэрамі й прыхільнікамі.

Досьвед перадвыбарчай працы, перадусім мабілізацыйнай кампаніі "Выбірай", якая праходзіла пад эгідаю Асамблеі НДА Беларусі, паказаў, што, каб дасягнуць заўважных у маштабах краіны вынікаў, варта працаваць агульнанацыянальнымі грамадзкімі кампаніямі - гэта значыць сэрыямі грамадзкіх чынаў, якія ладзяцца рознымі арганізацыямі, у розных рэгіёнах, але з агульнай мэтай і ўзаемаскаардынавана. Каб такія кампаніі былі эфэктыўнымі, патрэбныя нагоды, якія ўзрушваюць дастаткова шырокія колы грамадзкасьці ды зьяўляюцца моцнымі стымуламі для НДА розных рэгіёнаў і накірункаў. У Беларусі ня трэба шукаць ці прыдумваць такія нагоды - іх рэгулярна падкідвае грамадзтву сама дзяржава. Напрыклад, не пасьпела яшчэ прайсьці выбарчая гарачка, як будаўніцтва Менскай кальцавой аўтадарогі стала пагражаць існаваньню самага вядомага ў Беларусі й за яе межамі месца пахаваньня ахвяраў савецкага рэжыму - урочышча Курапаты.

## "ЗА ЎРАТАВАНЬНЕ МЭМАРЫЯЛУ КУРАПАТЫ"

21 верасьня будаўнікі ступілі на тэрыторыю Курапатаў, а ўжо 22-га юнакі з Маладога Фронту пачалі змаганьне за месца, якое яшчэ напачатку 1990-х было ўнесенае ў Дзяржаўны рэестар помнікаў. Да МФ пачалі далучацца Партыя Свабоды, Зубр, "дарослыя" фронтаўцы й проста неабыякавыя людзі.

29 верасьня Зваротам да грамадзкасьці пачала сваё існаваньне Грамадзкая Ініцыятыва "За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты".

Курапацкая Ініцыятыва адкрыла новую старонку ў грамадзкім жыцьці Беларусі XXI стагодзьдзя. Раней тэрмін "грамадзкая ініцыятыва" існаваў у нас збольшага як саманазва некаторых незарэгістраваных НДА, якія выкарыстоўвалі адсутнасьць прававой рэглямэнтацыі для "ініцыятываў", для таго, каб неяк абыходзіць забарону на "незарэгістраваную дзейнасьць". Новая ініцыятыва надала тэрміну сэнс праўдзівай ініцыятывы грамадзянаў, паўсталай дзеля абароны сваіх правоў і дасягненьня мэтаў, важных для грамадзтва. (Дагэтуль ёсьць спрэчным, як лепш называць падобныя ініцыятывы - "грамадзкія" ці ўсё ж "грамадзянскія", бо яны пабуджаюць ня толькі **грамадзкую**, але й **грамадзянскую** актыўнасьць.) Ініцыятыва "За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты" стварылася вокамгненна, без папярэдняга праекту, без штуршкоў "зьверху" і бяз доўгіх перамоваў пра статус і функцыі ўдзельнікаў. Безь ніякага бюджэту. Гэта сапраўды быў імпульс сумленьня й пачуцьця грамадзянскай адказнасьці за тое, што робіцца ў краіне. Ніхто не прымушаў моладзь днюваць і начаваць пад дажджом і сьнегам, ніхто не абавязваў прадстаўнікоў інтэлігенцыі, шэрагу НДА і палітычных партыяў стукацца ў дзьверы дзяржаўных офісаў, спрачацца з будаўнікамі, ладзіць "круглыя сталы", пісаць артыкулы й прыбіраць курапацкі лес... Усе былі аб'яднаныя адзінаю мэтаю - выратаваць Курапаты ад сучасных вандалаў.

Паступова ў ініцыятыве сфармаваўся пэўны актыў, разьмеркаваліся абавязкі: хто адказвае за сувязь з прэсай, хто за талокі, хто за навуковую дзейнасьць і г.д. Больш дакладна былі сфармуляваныя мэты існаваньня Ініцыятывы і распачатай празь яе грамадзкай кампаніі: ня толькі выратаваць Курапаты ад зьнішчэньня, але й стварыць умовы для пабудовы адпаведнага народнага мэмарыялу ахвярам камунізму, а таксама максымальна праінфармаваць грамадзтва пра канкрэтныя злачынствы і самую злачынную сутнасьць савецкага таталітарызму.

Ня ўсё атрымлівалася, не абыходзілася бяз спрэчак і недарэчнасьцяў. Але выканана было галоўнае - тэрыторыя Курапатаў засталася амаль непарушнаю, на ўзроўні краіны пастаўленае было пытаньне пра стварэньне помніку і пра ягоны характар, на працягу амаль паўгода прэса (пераважна незалежная) давала рэгулярную інфармацыю аб ходзе змаганьня за Курапаты.

Але ня менш важнымі былі й тыя вынікі, якія не былі непасрэдна зьвязаныя зь лёсам мэмарыялу. Іх варта пералічыць асобна:

1. Упершыню Грамадзкая Ініцыятыва, нікім не інсьпіраваная і не падтрыманая матэрыяльна, аб'яднала такую колькасьць удзельнікаў (каля 30 НДА плюс "неарганізаваныя" асобы), аказалася такой трывалаю (існуе й зараз - улетку 2002) і дасягнула істотных рэальных вынікаў (прыпыненьне работаў, дадатковыя археалягічныя дасьледаваньні, публікацыі і г.д. - да такіх вынікаў трэба таксама аднесьці афіцыйнае прызнаньне Пракуратуры РБ, упершыню за панаваньне Лукашэнкі, у тым, што ў Курапатах забівалі людзей органы НКВД, а таксама заява самога Лукашэнкі пра тое, што ў Курапатах "трэба паставіць помнік").

2. Грамадзкая Ініцыятыва, сьвядома ўнікаючы канфрантацыі, пайшла на кантакт з выканаўчымі ўладамі, будаўнічымі арганізацыямі і ўрэшце прымусіла іх да дыялёгу й нават да супрацоўніцтва.

3. Хіба ўпершыню агульная мэта сабрала пад адным "дахам" і змусіла да супрацоўніцтва розныя рухі і арганізацыі - ад праварадыкальнай Беларускай Партыі Свабоды да ў прынцыпе лаяльнага да рэжыму Беларускага Камітэту Міра.

4. Як сапраўды гераічны чын моладзі, гэтак і сьвядомыя намаганьні старэйшых актывістаў абароны мэмарыялу ініцыявалі беспрэцэдэнтны інтарэс і нават удзел дэмакратычна арыентаваных мэдыяў у курапацкай кампаніі.

Посьпех ініцыятывы "За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты" і арганізаванай ёй кампаніі натхніў актыўную частку грамадзтва. Ужо напачатку лета гэтага году паўстала ініцыятыва "За свабоду веравызнаньня" - супраць новага недэмакратычнага закону аб веравызнаньнях. Хаця паўстаньне ініцыятывы таксама было спантанным, справакаваным сытуацыяй у краіне, досьвед Курапацкай Ініцыятывы быў вельмі карысным для арганізатараў, асабліва ў галіне інфармаваньня насельніцтва, працы з мэдыямі. Першы заўважны вынік ініцыятывы "За свабоду веравызнаньня" быў відавочны ўжо літаральна праз тыдзень пасьля яе ўтварэньня: "палатка", а пасьля Савет Рэспублікі, нягледзячы на жорсткі супраціў лябістаў закону, адклалі яго прыняцьце ў другім чытаньні.

Кампанія абароны Курапатаў вызначыла накірунак, па якім ёсьць сэнс рухацца беларускім НДА і на які варта зьвярнуць увагу беларускім дэмакратычным партыям. Гэты накірунак можна коратка вызначыць як **вяртаньне ў грамадзтва**: арыентацыя на рэальна існае ў краіне грамадзтва, на яго рэальныя праблемы, чаканьні і балявыя кропкі. Гэта значыць таксама арыентацыю не на самаізаляцыю ад недасканалых грамадзтва й дзяржавы, а на актыўны пошук дыялёгу паўсюль, дзе ён можа быць магчымым і плённым. Як эфэктыўны сродак такога вяртаньня вызначаюцца **грамадзкія ініцыятывы і грамадзкія кампаніі**, якія трэба праводзіць з улікам досьведу сучасных інфармацыйных, сацыялягічных і палітычных тэхналёгіяў. Калі праблемы, якія патрабуюць вырашэньня, дастаткова істотныя і для саміх НДА, і для грамадзтва, гэта стварае моцную матывацыю дзейнасьці, што дае магчымасьць дасягаць сур'ёзных вынікаў адносна малымі выдаткамі, а таксама стварае ўмовы для новых сфэраў супрацоўніцтва па схемах "НДА - грамадзтва", "НДА - НДА". Добрым прыкладам такой супрацы стала маладзевая кампанія "Зробім лепш!".




## ЗРОБІМ ЛЕПШ!

Трэба прызнаць, што праблемы абароны Курапатаў і нават свабоды сумленьня й веравызнаньня - і гэта таксама варта ўлічыць надалей - не зьяўляюцца для большай часткі беларускага грамадзтва праблемамі першаснай важнасьці.

Шматлікія сацыялягічныя дасьледаваньні, як і эмпірычны досьвед, паказваюць, што насельніцтва ўсё ж болей хвалююць пытаньні сацыяльныя ды эканамічныя, прычым як глябальныя - нявыплата заробкаў, высокія цэны і інш., - так і лякальныя - брудны пад'езд, зруйнаваная дзіцячая пляцоўка. Але сябры грамадзкіх арганізацыяў на пытаньне абывателя, што вы можаце зрабіць не для грамадзтва наогул, а для мяне канкрэтна, могуць адказаць: "Дапамагчы вырашыць твае праблемы".

Піянэрам у гэтай справе выступіла Асамблея НДА, якая прапанавала моладзевым НДА Беларусі аб'яднацца ў правядзеньні агульнанацыянальнай грамадзкай кампаніі сацыяльнага накірунку. Асноўнаю мэтаю такой кампаніі пастаўлена была менавіта мэта наладзіць больш шчыльныя кантакты - прычым двухбаковыя - з грамадзкасьцю. Назва ("Зробім лепш!"), дата (30 чэрвеня, афіцыйны Дзень моладзі) і характар акцыі, скіраванай на вырашэньне канкрэтных лякальных праблемаў, вызначыліся на сустрэчах будучых удзельнікаў. Каб лепш зарыентавацца ў мясцовых праблемах, Выканаўчае бюро прапанавала правесьці нескладанае, але "па правілах", сацыялягічнае апытаньне, па выніках якога і мусіла адбыцца акцыя 30 чэрвеня.

"Зробім лепш!" адпавядала клясычным канонам правядзеньня грамадзкіх кампаніяў: агульная выразная мэта, дакладныя часавыя рамкі, выкарыстаньне сродкаў PR, выніковасьць. Безумоўна, у нашым варыянце былі свае асаблівасьці: зацікаўленасьць удзельнікаў - цягам кампаніі колькасьць гарадоў-удзельнікаў з 15 павялічылася да 22, - амаль поўная адсутнасьць фінансаваньня (Асамблея дапамагла ў вырабе фірмовых значкаў, улётак), фактычная адсутнасьць навыкаў пастаяннай і прадуктыўнай працы з СМІ і інш.

Мэтадычныя рэкамэндацыі па правядзеньні і "гарачы" аналіз кампаніі "Зробім лепш" прапануюцца чытачу ў гэтым нумары "Бюлетэню". Але ўжо зараз можна з упэўненасьцю сказаць - рух насустрач людзям дае плён. Прынамсі, для многіх арганізацыяў сам факт наладжваньня непасрэдных сувязяў з грамадзкасьцю стаў важным адкрыцьцём.

# "ЗРОБІМ ЛЕПШ!" У БЕЛАРУСКІХ УМОВАХ

## мэтодыкі правядзеньня грамадзкай кампаніі

**АДКУЛЬ ЗЬЯВІЛАСЯ ІДЭЯ КАМПАНІІ?**

У Беларусі па традыцыі грамадзяне з усімі сваімі праблемамі зьвяртаюцца да дзяржавы, хаця многія штодзённыя праблемы - у раёне, двары, доме - могуць дапамагчы вырашыць менавіта НДА. На гэта ўказвае досьвед Польшчы, Украіны, Расеі, дзе грамадзкія арганізацыі дапамагаюць насельніцтву вырашаць цэлы спэктар пытаньняў: ад прыборкі двара да збору грошай для хворых дзяцей.

Грамадзкія, ці недзяржаўныя, арганізацыі (НДА) - адзін з базавых інстытутаў дэмакратычнага грамадзтва. Яны традыцыйна займаюцца праблемамі, якія па тых ці іншых прычынах ня могуць вырашаць дзяржава і камэрцыйныя арганізацыі. Місія НДА - акумуляцыя і вырашэньне праблемаў (заказаў) грамадзянаў у сацыяльнай, экалягічнай, праваабарончай, культурніцкай і ў іншых сфэрах жыцьця грамадзтва.

На жаль, у нашай краіне грамадзяне амаль нічога ня ведаюць пра арганізацыі і іх магчымасьці, а самі НДА мала што ведаюць аб праблемах простых людзей. Сувязь паміж імі не ўсталяваная.

Таму ў сябраў моладзевых арганізацыяў зьявілася ідэя правесьці агульнанацыянальную кампанію "Зробім лепш!", падчас якой сябры і валянтэры з НДА дапамогуць простым людзям вырашыць канкрэтныя лякальныя праблемы ў іх доме, двары, раёне. З другога боку, людзі пазнаёмяцца з НДА, і праз знаёмства навучацца выкарыстоўваць сілы НДА ў вырашэньні лякальных праблемаў.

Такім чынам, асноўная мэта кампаніі - дапамога ў вырашэньні лякальных праблемаў, стварэньне аптымістычнага настрою ў жыхароў, стымуляваньне грамадзкай ініцыятывы, усталяваньне моладзевымі арганізацыямі кантактаў з грамадзтвам праз канкрэтную акцыю.

**ЯК І КАЛІ**

Моладзевая кампанія "Зробім лепш!" будзе праходзіць у некалькі этапаў:

1. Правядзеньне сацыялягічнага апытаньня сярод жыхароў дамоў, раёнаў з мэтай высьвятленьня лякальных праблемаў для складаньня "пашпарту праблемаў", для ўсталяваньня ўзаемасувязі "грамадзяне / НДА";
2. Падрыхтоўка да акцыі: распрацоўка сцэнару акцыі, акумуляцыя рэсурсаў, правядзеньне перамоваў з раённымі ўладамі;
3. Правядзеньне акцыі.

Акцыі будуць самымі разнастайнымі па форме: прыборка тэрыторыі, рамонт дзіцячых пляцовак і лавак, высаджваньне кветак і дрэваў, укручваньне лямпачак. Выбар формаў будзе залежаць ад таго, *якія праблемы самыя актуальныя для жыхароў*.

Дзеля стварэньня ўсеагульнага "дваровага" сьвята, якія былі так папулярныя сярод гараджанаў некалькі дзесяцігодзьдзяў таму, акцыя будзе аформленая шарыкамі, будзе граць музыка, будуць ладзіцца конкурсы, танцы і да т.п.

Падчас акцыі жыхарам таксама будуць раздавацца значкі, плякаты з сымболікай акцыі, улёткі, дзе будуць пазначаныя паслугі, якія аказвае дадзеная НДА жыхарам гораду, і кантакты арганізацыі. Будуць разыгрывацца прызы.




**НЕКАТОРЫЯ ЗАЎВАГІ:**

1. Усталяваньне кантактаў з уладамі дазволіць вам апэляваць да таго, што акцыя дазволеная. У адваротным выпадку варта падняць пытаньне "недазволенасьці" ў прэсе і паспрабаваць правесьці акцыю без дазволу, але без канфрантацыі з уладаю. У гэтым выпадку лепш адмовіцца ад акцыі, чым выклікаць сутычкі і рэпрэсіі.
2. *Падчас самой акцыі могуць раздавацца ў якасьці прызоў* значкі, паштоўкі, майкі, балёнікі з сымболікай акцыі і NGO-удзельнікаў. Для раздачы пажадана мець буклеты і інфармацыйныя ўлёткі. Ня варта раздаваць надта дарагія матэрыялы - яны ня будуць ценіцца і збольшага прападуць.

***Гэта важна!***

У падрыхтоўцы акцыі трэба ўлічваць яе сацыяльную (у шырокім сэнсе) накіраванасьць - яна можа мець і экалягічны, і харытатыўны, і культурніцкі "ўхіл".

Важна таксама, каб "непрыярытэтныя" для акцыі мэтавыя групы заўважылі акцыю і не ўспрынялі яе як чужую (дзеля інтарэсаў адной групы насельніцтва).

Трэба, каб *першая* акцыя "Зробім лепш!" была ўспрынята грамадзтвам як карысная, добрая для людзей справа.

**АЦЭНКА ЭФЭКТЫЎНАСЬЦІ АКЦЫІ**

- колькасьць грамадзянаў, якія ўзялі ўдзел у акцыі: пад улік бяруцца толькі мясцовыя жыхары (ня-сябры арганізацыі);
- уражаньні грамадзянаў ад акцыі: фіксуйце, як рэагуюць жыхары на вашую акцыю: станоўча, адмоўна, абыякава;
- індэкс цытаваньня (колькі і як пісалі / паказвалі / расказвалі ў СМІ пра акцыю);
- колькасьць арганізацыяў-удзельнікаў: безумоўна, колькасьць павінна пераходзіць у якасьць. Чым больш вы зможаце прыцягнуць да ўдзелу арганізацыяў, тым лепей;
- самаацэнка: вельмі важна, як вы самі ацэніце акцыю.

**ШТО ПАСЬЛЯ 30 ЧЭРВЕНЯ?**

Кампанія "Зробім лепш!" - не аднаразовая. Плянуецца зрабіць яе пастаяннай - праблемы маюць схільнасьць зьяўляцца зноў, - і "спэцыялізаванай".





АСНОЎНЫЯ ЭТАПЫ ПРАВЯДЗЕНЬНЯ АКЦЫІ **"ЗРОБІМ ЛЕПШ!"**

| ПЭРЫЯД | ДАТА | ЭТАП |
|---|---|---|
| ***Падрыхтоўчы пэрыяд*** | ***1-5 чэрвеня*** | Улік чалавечых і матэрыяльных рэсурсаў |
| | | Прызначэньне штабу і адказных за правядзеньне ўсёй акцыі і яе этапаў |
| | ***6-15 чэрвеня*** | Вызначэньне раёну правядзеньня акцыі |
| | | Правядзеньне сацыялягічнага апытаньня |
| | | Вызначэньне характару акцыі |
| | | Правядзеньне перамоваў зь мясцовымі ўладамі (райвыканкам, ЖЭС і да т.п.) |
| | | Складаньне пляну-сцэнару акцыі |
| | | Інфармаваньне мясцовых жыхароў пра акцыю (шляхам абвестак і абзвону) |
| | | Інфармаваньне мясцовых мэдыяў пра акцыю (сустрэча з рэдактарамі, карэспандэнтамі) |
| | ***16-24 чэрвеня*** | Знаёмства ўдзельнікаў са сцэнарам |
| | | Падрыхтоўка матэрыяльнай часткі акцыі і групы выкананьня |
| | | Падрыхтоўка рэклямнай прадукцыі (буклеты, улёткі, значкі) |
| ***Арганізацыя інфармацыйнай хвалі*** | ***25-29 чэрвеня*** | Арганізацыя інфармацыйнай хвалі (абзвон, абвесткі, улёткі (не псаваць пад'ездаў, навакольля), абвесткі / публікацыі ў прэсе |
| | | Запрашэньне (асабіста) на акцыю журналістаў, прадстаўнікоў мясцовай улады |
| | | Нагадваньне мясцовым жыхарам пра акцыю (шляхам абвестак і абзвону) |
| | ***29 чэрвеня*** | Апошняя нарада штабу |
| Акцыя | ***30 чэрвеня*** | ***Правядзеньне акцыі*** |
| ***Выніковы пэрыяд*** | ***1 ліпеня*** | Складаньне выніковага інфармацыйнага пакета: прэс-рэліз, інтэрвію, - правядзеньне прэс-канфэрэцыі па выніках акцыі |
| | | Папярэдняе падвядзеньне вынікаў (уласная рэфлексія) |
| | ***2-3 ліпеня*** | Апытаньне жыхароў (абзвон, "ад дзьвярэй да дзьвярэй") |
| | | Падвядзеньне канчатковых вынікаў, аналіз плюсаў і мінусаў |
| | ***3-7 ліпеня*** | Правядзеньне супольнай "міжарганізацыйнай" сустрэчы (лепш пікнік, чым "круглы стол") |
| | | Плянаваньне наступных супольных акцыяў |

**СТРУКТУРА ВАШАГА ШТАБУ**

У падрыхтоўчы пэрыяд мусіць быць сфармаваны Штаб акцыі. У яго ўваходзяць: кіраўнік, адказны за сувязь з прэсаю, адказны за сацыялягічнае апытаньне і яго апрацоўку.

Зь сябраў арганізацыяў-удзельнікаў фармуюцца некалькі групаў:

1. Асноўная група - валянтэры, якія абыходзяць кватэры, арганізоўваюць гульні, міні-віктарыны для дзяцей з прызамі і раздачай рэклямных матэрыялаў.

Група неназойліва даводзіць людзям мэту акцыі і яе выканаўцаў.

2. Культурніцкая група, якая ладзіць "лятучы" канцэрт, лялечны спэктакаль ці што-небудзь падобнае.

3. Інфармацыйная група, якая гутарыць з прэсаю і начальствам, пры неабходнасьці ўладжвае канфлікты.

У дапамогу прэс-сакратару варта выдзеліць колькі чалавек!

Добра, каб падчас акцыі быў мадэратар (вядучы) акцыі (не абавязкова кіраўнік), які абвяшчае пра пачатак і канец, распавядае пра ўдзельнікаў, выканаўцаў культ-праграмы. Няблага, калі ён мае акторскія здольнасьці і заўважна апрануты.

У абавязкі кіраўніка могуць уваходзіць:

1. перамовы з патэнцыйнымі арганізацыямі-ўдзельнікамі акцыі (пасьля - удзельнікамі акцыі);
2. разьмеркаваньне адказнасьці па падрыхтоўцы і правядзеньні акцыі паміж арганізацыямі і групамі;
3. агульная каардынацыя падрыхтоўкі і правядзеньня акцыі (адпаведнасьць графіку і абавязкам);
4. адказнасьць за матэрыяльны бок;
5. сувязь з Выканаўчым бюро Асамблеі.

**САЦЫЯЛЯГІЧНАЕ АПЫТАНЬНЕ**

***Парады арганізатару апытаньня***

Віншуем Вас, калега! Вы атрымалі пасаду, якая на прафэсійным слэнгу сацыёлягаў завецца "кіраўнік апытальнай сеткі".

Асноўныя абавязкі,. зьвязаныя з гэтай пасадай - клопаты пра бясьпеку анкецёраў, клопаты пра тое, каб анкецёры былі забясьпечаныя ўсім неабходным (анкетамі, маршрутнымі лістамі, мелі свой участак працы і да т.п.), адсочваньне, каб яны выконвалі патрабаваньні, зьвязаныя з забесьпячэньнем рэпрэзэнтатыўнасьці (уласьцівасьць выбаркі

адлюстроўваць асаблівасьці ўсёй цікавай для Вас групы).

**КАНКРЭТНА ВАМ ДАВЯДЗЕЦЦА**

1. Адабраць групу анкецёраў. Адбіраючы групу анкецёраў, майце на ўвазе, што традыцыйна апранутым (!!!) і прычасаным людзям прасьцей знайсьці кантакт з рэспандэнтамі.

2. Правесьці арганізацыйны сход. На гэтым сходзе раздайце кожнаму з анкецёраў асобнік інструкцыі, некалькі асобнікаў маршрутнага ліста і дастатковую колькасьць анкетаў на расейскай і беларускай мовах. Акрамя таго, кожны павінен мець ясна сфармуляванае заданьне - каго і дзе ён павінен апытваць. Папрасіце анкецёраў азнаёміцца з раздадзенымі матэрыяламі і задаць па іх пытаньні. Праінфармуйце іх пра тое, што падчас апытаньня будзе арганізавана дзяжурства, а таксама пра тое, у якіх выпадках варта зьвязвацца зь дзяжурным.

3. Арганізацыя дзяжурства: падчас працы анкецёр павінен мець магчымасьць зьвязацца з кіраўніком сеткі ці іншым чалавекам, які дапаможа яму выйсьці са складанай сытуацыі, справіцца зь якой анкецёр сам ня можа. Звычайна гэта ўсялякія непаразуменьні з рэспандэнтамі, у выніку якіх анкецёра даводзіцца вызваляць зь міліцыі, ці наадварот, зьвяртацца ў міліцыю па дапамогу. Дзяжурнаму таксама даводзіцца вырашаць спрэчкі паміж анкецёрамі за ўчасткі працы.

4. Сфармаваць выбарку і падзяліць паміж анкецёрамі заданьні ("участкі працы"). Памятайце, што ўся выбарка павінна адпавядаць некальким крытэрам. Па-першае, рэспандэнты (тыя, хто ўвойдзе ў выбарку) павінны жыць на той тэрыторыі, зь якой вы зьбіраецеся працаваць падчас акцыі. Па-другое, яны павінны прапарцыянальна прадстаўляць усе значымыя групы. Крытэрам для выдзяленьня гэтых групаў будуць асаблівасьці людзей, якія могуць паўплываць на жаданьне ўзяць удзел у акцыі, паставіцца да яе тым ці іншым чынам. Прынамсі, паклапаціцеся пра тое, каб была апытаная дастатковая колькасьць жанчынаў і мужчынаў (адпаведна 52% на 48%), старых, маладых і сярэдняга ўзросту (адпаведна дэмаграфічнаму становішчу ў вашым горадзе). Акрамя таго, у апытаньні павінны ўзяць удзел людзі з усімі тыпамі адукацыі; людзі, якія працуюць на асноўных прадпрыемствах вашага гораду (і якія жывуць у абраным раёне). Паклапаціцеся пра тое, каб у выбарку ўвайшлі як тыя, хто працуе ў дзяржсэктары, так і тыя, хто працуе ў прыватным сэктары.

Агульны памер выбаркі - ня менш за 100 чалавек.

5. Арганізаваць апрацоўку сабраных дадзеных. Паклапаціцеся пра тое, каб захаваць усе сабраныя анкеты і маршрутныя лісты.

**ІНСТРУКЦЫЯ АНКЕЦЁРУ**

Будзьце вельмі ветлівым. Павітайцеся і папрасіце прабачэньня за непакой. Растлумачце, што праводзіце апытаньне, пакажыце анкету, пасьведчаньне, спытайцеся, ці можа хтонебудзь з жыхароў кватэры дапамагчы вам запоўніць анкету. Акрамя тэксту, што знаходзіцца ў шапцы анкеты, можаце паведаміць рэспандэнту ў агульных рысах, што ў вас за арганізацыя, навошта вы хочаце ладзіць гэтую акцыю.

Калі рэспандэнт пачне вагацца, можаце дадаць, што апытаньне ня тычыцца палітыкі, што яно ананімнае (у анкеце ня ўказваецца прозьвішча ці адрас рэспандэнта) і ня ўтрымлівае пытаньня аб памерах даходаў рэспандэнта, што пытаньні дадатковага разьдзелу не абавязковыя.

Калі, нягледзячы на гэта, рэспандэнты ўсё адно ня згодныя браць удзел у апытаньні, ветліва запытайцеся, ці ня варта вам падысьці ў іншы час, і прапануйце яму вашыя інфармацыйныя матэрыялы. Не губляйце часу і ня псуйце сабе імідж, занадта назойліва ўпрошваючы рэспандэнта ўзяць удзел у апытаньні ці адказваючы на яго лаянкі. Будзьце стрыманымі і ветлівымі.

Пасьля таго, як атрымаеце згоду рэспандэнта на ўдзел у апытаньні, запытайцеся, на якой мове яму лепей чытаць і адказваць на пытаньні: расейскай ці беларускай. Увогуле, выбіраючы мову, на якой вам працаваць з рэспандэнтам, памятайце: вы не павінныя выхоўваць рэспандэнта, вашая мэта - дабіцца найбольш яскраснага разуменьня пытаньняў, найбольш дакладнай і адпаведнай думкам рэспандэнта фармулёўкі адказаў, і пакінуць пасьля сябе прыемнае ўражаньне.

Калі апытваеце рэспандэнта, заўсёды будзьце гатовыя перафармуляваць пытаньне ў больш зразумелай форме, папрасіць рэспандэнта ўдакладніць адказ. Запісаўшы канчатковую фармулёўку, прачытайце яе рэспандэнту і запытайцеся, ці ўсё правільна, ці хоча ён дадаць нешта.

Пасьля таго, як рэспандэнт адкажа на пытаньне №11, скажыце, што Вы вельмі ўдзячныя яму за дапамогу, і запытайцеся, можа быць, ён адкажа і на пытаньні дадатковага разьдзелу.

Напрыканцы ветліва разьвітайцеся, падзякуйце за дапамогу, прапануйце інфармацыйныя матэрыялы.

**ПАРАДЫ ЮРЫСТА**

***Акцыя***

1. Калі вы ўжо вызначылі канкрэтны выгляд акцыі, можна паведаміць у мясцовы выканкам аб правядзеньні "суботніка", канцэрту, спартовага сьвята ў парку. Гаворка ідзе не пра запыт дазволу, а проста пра паведамленьне ці ліст у адвольнай форме. Зноў жа раім дзейнічаць ад імя фізычнай асобы ці ад імя зарэгістраванай арганізацыі, якой гэта дазваляе статут.

Лепей за ўсё зьвяртацца ў выканкам ці ЖЭС не пісьмова, а праводзіць перамовы асабіста з кіраўніком. Да гэтай справы можна прыцягнуць мясцовыя органы самакіраваньня (Камітэт грамадзкага самакіраваньня, дамкам).

2. Друкаваныя матэрыялы, якія будуць распаўсюджвацца падчас акцыі, павінны мець выходныя дадзеныя. Гэта значыць, што калі на ўлётцы альбо буклеце пазначаны наклад і друкарня, распаўсюдніка нельга прыцягнуць да адміністратыўнай адказнасьці. Пра гэта трэба паведаміць усім удзельнікам акцыі.

3. Акцыя павінна мець падкрэсьлена непалітычны характар. Гэта не пікет, шэсьце альбо дэманстрацыя, для правядзеньня якіх трэба мець асобны дазвол.

4. Таму, калі вы адчуваеце нэгатыўныя адносіны адміністрацыі да вашай акцыі, абавязкова трэба запрасіць на яе як мага болей журналістаў, у тым ліку зь дзяржаўных СМІ.





# ВЕСТКІ З ДВАРОЎ ПЕРАМОГІ

## ЗРОБІМ ЛЕПШ!

***30 чэрвеня 2002 году прайшоў заключны этап моладзевай кампаніі "Зробім лепш!", ініцыяванай Асамблеяй дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў Беларусі. Выбітная ў сваім родзе і адна зь першых пасьля "Выбірай" шырокамаштабная кампанія "трэцяга сэктару", яна стала спробай вырашыць канкрэтныя праблемы грамадзтва. Якія – чытайце ніжэй кроніку агульнакраёвай моладзевай кампаніі "Зробім лепш!".***

### 28 чэрвеня

***Барысаў.*** Моладзевая кааліцыя "Акцэнт" складам блізу 15 чалавек добраўпарадкавала двор і пад'езд па вул. 8 сакавіка.

***Менск.*** Па выніках праведзенай "прамой лініі", зладжанай сумесна з газэтай "Вечерний Минск", каля 15 сябраў "Маладой Грамады" добраўпарадкавалі тэрыторыю дзіцячага садку па вул. Асаналіева. На футбольным полі валянтэры памянялі гуму, ля агароджы падстрыглі кусты.

### 1 чэрвеня

***Асіповічы.*** Сябры Таварыства беларускай мовы, Клюбу выбаршчыкаў, Моладзі АГП, ініцыятывы "Каралеўства беларускае" ўладкоўвалі дзіцячую пляцоўку ў Камсамольскім парку. Каля дваццаці чалавек з 11.00 да 17.00 рамантавалі і фарбавалі дзіцячыя турнікі, арэлі, прыбіралі сьмецьце.

***Бабруйск.*** Сябры моладзевай ініцыятывы "Спадчына" сумесна з Моладзьдзю А Г П добраўпарадкавалі будынак і ваколіцы Хатняга Дому дзіцяці.

***Берасьце.*** Сябры моладзевай ініцыятывы "Дзедзіч" добраўпарадкавалі адзін з двароў па вул. Машэрава: фарбавалі лавы, турнікі, прыбіралі лесьвічныя пляцоўкі, дах, укручвалі лямпачкі і інш. Для дзяцей былі зладжаныя адмысловыя эстафэты, конкурсы.

***Віцебск.*** Сябры ГА "Гісторыка", Моладзевага цэнтру грамадзянскай супольнасьці "Верас", Цэнтру моладзевых ініцыятываў "Контур", Беларускай асацыяцыі маладых хрысьціянскіх жанчынаў, Хрысьціянскай супольнасьці дарослых і маладых, грамадзкай арганізацыі "Эўрапейская пэрспэктыва", "Новое время", сябры "Маладога фронту" добраўпарадкавалі вуліцу Янкі Купалы ў цэнтры гораду. Валянтэры прыводзілі ў належны стан памятныя шыльды, усталяваныя на будынках у гонар выбітных беларускіх дзеячоў культуры, высаджвалі кветнікі ў дварах дамоў і каля праезду, добраўпарадкавалі тэрыторыю мясцовага заапарку.




***Германавічы (Шаркаўшчына).*** Актывісты культурна-асьветніцкага цэнтру імя Язэпа Драздовіча і ГА "Ульляна" прыбралі могілкі, на якіх пахаваныя загінуўшыя ў 20-х гадах беларускія вайскоўцы.

***Гомель***. "Зробім лепш бераг Сожу!" - пад такім дэвізам сябры "Талакі", "Гарту", АСДЕМО, сябры праграмы "Беларускія выведнікі" аб'яднаньня "Гомельская ІМКА", клубу ЮНЭСКА "Дружба", гомельскай групы Міжнароднай амністыі, NEMO правялі талаку па добраўпарадкаваньні берагу Сожа на адрэзку Лебядзінае возера - Ільлінскі спуск. Удзельнікі пасеклі

дрэвы, прыбралі сьмецьце, расчысьцілі крыніцы. Адным з вынікаў акцыі ўдзельнікі хацелі б бачыць уключэньне гэтага адрэзку ў турыстычны маршрут.

***Горадня.*** Каля 20 актывістаў кампаніі добраўпарадкавалі тэрыторыі двух дзіцячых дамоў. Па ўборцы для дзяцей былі зарганізаваныя адмысловыя конкурсы, віктарыны, спаборніцтвы, удзельнікі якіх атрымалі каштоўныя прызы. Плянуецца, што моладзевыя арганізацыі



Слонім

возьмуць пад сваю апеку дадзеныя дзіцячыя ўстановы.

***Горкі.*** Сябры арганізацыў "Любава", ЗБС, Школы маладых журналістаў, Горацкага інфармацыйнага цэнтру правялі сьвяточныя мерапрыемствы ў Расьнянскім доме вэтэранаў. Падчас сьвята вэтэранам былі перададзеныя рэчы, сабраныя гараджанамі. На сьвяце прысутнічалі прадстаўнікі мясцовых уладаў.

***Кобрынь.*** Пры падтрымцы моладзевай ініцыятывы "Абракадабра" ў гарадзкім парку адбыўся канцэрт, на якім валянтэры кампаніі распаўсюджвалі атрыбутыку кампаніі, звароты да моладзі быць больш актыўнымі ў грамадзкім жыцьці.

***Крычаў.*** Больш за 20 чалавек-сябраў Моладзі АГП, Маладых сацыял-дэмакратаў, Маладога Фронту, Крычаўскага экалягічнага таварыства і аб'яднаньня "Скрыжаваньне" з дапамогай выратавальнікаў ОСВОДа добраўпарадкавалі мясцовы пляж ля рэчкі Крычаўка.

***Мазыр.*** Сябры моладзевых ініцыятываў "Моладзі АГП", "Крэда", "Гарт", "Амелія" на працягу некалькіх гадзінаў прыбіралі гарадзкі пляж.

***Мачулішчы.*** Сябры дабрачыннай арганізацыі "Подснежник" разам з музыкамі гуртоў "Тяни-Толкай" і "Чехoff" зарганізавалі "дваровае сьвята". Тым часам, як дарослыя добраўпарадкавалі дзіцячую пяцоўку, дзеці бралі ўдзел у конкурсах і віктарынах, эстафэтах, зладжаных пэдагогамі арганізацыі. У акцыі бралі ўдзел спэцбрыгады мачулішчанскай міліцыі, а таксама прадстаўнікі мясцовай адміністрацыі. Напярэдадні валянтэрамі арганізацыі была добраўпарадкавана яшчэ адна пляцоўка ў пасёлку.

***Менск.*** Сябры Маладога Фронту прыбралі бераг Сьвіслачы ў мікрараёне Серабранка. Звыш дзясятка маладафронтаўцаў чысьцілі бераг ад сьмецьця, што некранута ляжала там па некалькі год.

***Навагрудак.*** Больш за дзясятак сябраў Маладога Фронту правялі экалягічную акцыю падчас фэсту сярэднявечнай культуры. Маладыя людзі прыбіралі сьмецьце ў палатачным гарадку, гарадку з рыцарскіх палатак, цэнтры гораду і г.д.

***Ворша.*** Цягам усёй нядзелі сябры Маладога Фронту, ЗБС, "Зьвязу" і "Гісторыкі" прыбіралі і добраўпарадкавалі помнік вялікаму земляку Уладзімеру Караткевічу, а таксама мылі памятныя дошкі, усталяваныя на дамах Воршы ў гонар вядомых землякоў.

***Слонім.*** Сябры ГА "Ветразь" і "Вятрак" добраўпарадкавалі дзіцячую пляцоўку ў адным з двароў мястэчка. У акцыі бралі актыўны ўдзел рабочыя "Прадпрыемства ацяпляльных кацельняў і цеплавых сетак".

### 1 чэрвеня

***Масты.*** Дзесяць актывістаў Маладога Фронту, "Зубра" і маладыя кансэрватары добраўпарадкавалі пад'езды жылых дамоў па вуліцы Будаўнікоў.

### 2 ліпеня

***Магілёў.*** Сябры Маладога Фронту, "Агменю",



Мазыр

суполкі скаўтаў, Асацыяцыі выдаўцоў школьнае прэсы - разам больш за 30 чалавек - упарадкавалі гарадзкі пляж на Дняпры й зрабілі там валейбольную пляцоўку. Дапамогу ў правядзеньні акцыі аказалі мясцовыя камунальныя службы.

### 4 ліпеня

***Наваполацак.*** Адбылася акцыя па прыборцы і рамонце дзіцячай пляцоўкі ў гарадзкім парку культуры і адпачынку. У акцыі ўзялі ўдзел Наваполацкі Цэнтар моладзевых ініцыятываў "Сварог", ГА "Ўсяслаў Чарадзей", грамадзкая ініцыятыва "Пятая лапа", гісторыка-культурны клюб "Княжыч", клюб "Чорны Война". Падчас акцыі былі адрамантаваныя арэлі, пафарбаваны дзіцячы гарадок, прыбранае сьмецьце, скошаная трава.





# НОВЫЯ ЦІМУРАЎЦЫ

## "ЗРОБІМ ЛЕПШ!" У ПРЭСЕ

**Кампанія "Зробім лепш!" была прадстаўленая ў 20 агульнакраёвых і рэгіянальных дзяржаўных і недзяржаўных газэтах. Інфармацыю і рэпартажы пра моладзевую кампанію давалі рэгіянальныя і цэнтральныя FM-станцыі, у тым ліку "Радио ВА", "Радио Рокс-Минск", "Юнистар", "Русское Радио в Беларуси", рэпартажы пра правядзеньне кампаніі давалі ТБ-станцыі, у тым ліку "Общенациональное телевидение", "Столичное телевидение", "Первый музыкальный канал". У гэтай падборцы вы можаце пазнаёміцца толькі зь невялікай часткай прэсавай апіны.**



### НОВЫЕ ТИМУРОВЦЫ

***Аня Мызенко***

Они говорят по-белорусски, молоды и инициативны. Они решили изменить жизнь общества к лучшему, и тем самым заявить о себе. И действительно о третьем секторе, в частности об общественных организациях мало кто знает, поэтому, когда вдруг к вам в двор приходят молодые люди и начинают чинить скамейки, вы, скорее всего, их примите за работников ЖЭСа, в противном случае в вашу душу закрадутся сомнения по поводу "бесплатного сыра".

30 июня в День молодежи общественные молодежные организации республики провели акцию "Зробім лепш!", инициированную незарегистрированной пока Ассамблеей демократических негосударсвенных организаций Беларуси. Цель акции - сломать стереотип политизированности негосударственных молодежных организаций и решить некоторые бытовые проблемы людей. В акции приняли участие белорусские музыканты, а также представители 70 организаций. В целом по Беларуси удалось сделать 22 добрых дела. Несмотря на локальный характер акции - это положительные ростки, возмоно, благодаря им хотя бы некоторые начнут более бережно относится к месту, где они живут и, может, со временем разовые акции превратятся в массовые и систематические. Гражданское самосознание надо воспитывать. Само собой ничего не происходит.

4-11/07/2002

БЕЛОРУССКАЯ ДЕЛОВАЯ ГАЗЕТА

### НАС ЖДЕТ "ДВОРОВЫЙ ПРАЗДНИК"

***Дмитрий ДРИГАЙЛО***

30 июня, в День молодежи, в 14 городах Беларуси пройдет молодежная кампания "Зробім лепш!".

Ее инициатором выступила Ассамблея неправительственных организаций, которая сейчас проходит регистрацию. Цель кампании довольно незатейлива: "Помощь населению в решении локальных проблем, создание оптимистического настроения у жителей белорусских городов и поселков".

О желании участвовать в этой акции заявили более 30 молодежных общественных организаций и инициатив.

На протяжении полутора недель члены молодежных организаций будут интересоваться у жителей городов и местечек, какие проблемы местного значения беспокоят их больше всего. Уяснив, "где болит", активисты кампании "Зробім лепш!" попытаются 30 июня устранить одну или несколько проблем.

Вспоминается, что около года назад в стране также стартовала коалиционная молодежная кампания. Она называлась "Выбирай!", и основной целью было привлечение молодежи к участию в президентских выборах. В этом году выборов не предвидится, и задачи у кампании иные. Ее координатор Алена Волынец отметила: "Главная задача - силами членов общественных организаций помочь гражданам избавиться от ежедневных неудобств, которые мешают жить, но до решения которых из-за недостатка времени не доходят руки ни у жильцов, ни у местных властей. Сломанные скамейки, разбитые лампочки, разломанные детские площадки - все сталкиваются с этим каждый день. В таких случаях могут помочь именно общественные организации, миссия которых - решение проблем граждан в социальной, экологической, культурной и других сферах".

Планируется, что 30 июня в Гомеле, Могилеве, Минске, Мачулищах, Кобрине, Слониме, Бресте, Борисове, Витебске, Жодино, Новогрудке, Орше, Горках и Новополоцке будут проведены самые разные по форме акции - уборка парков, берегов рек, ремонт площадок в детских садах и во дворах, высаживание цветов и деревьев... Кампания пройдет абсолютно легально, по договоренности и совместно с ЖЭСами и районными администрациями, хотя никакой оплаты последователи тимуровцев не получат - все основано на принципе волонтерства.

Алена Волынец в беседе с корреспондентом "БДГ" отметила, что 30 июня будет "всеобщий дворовый праздник". "Этот жанр был популя-

рен среди горожан десятилетия тому назад. Сейчас тоже будут воздушные шарики, музыка, конкурсы для детей и взрослых", - сказала она.

Кампания была разработана с учетом опыта аналогичных зарубежных акций. Например, "Почистим свой мир", "Против рака - вместе" и т.п. стали популярными в России, Польше, Чехии и других странах.

19/06/2002

## КАМПАНИЯ, ПРИЯТНАЯ ВО ВСЕХ ОТНОШЕНИЯХ

***Дмитрий ДРИГАЙЛО***

30 июня в 19 городах страны пройдет молодежная кампания "Зробім лепш!" В рамках подготовки к ней члены общественного объединения "Маладая Грамада" организовали телефонную "прямую линию". По ее итогам было решено, что организация возьмет под опеку один из детских садов столицы.

За два часа "прямой линии" было принято около 25 звонков из разных районов Минска. Характерно, что перечень проблем, с которыми сталкиваются горожане, состоит из нескольких пунктов: разрушенные и искореженные детские площадки, сломанные скамейки, мусор во дворах и т.д.

"В основном нам звонили старые люди и молодые родители, - рассказала одна из активистов "Маладой Грамады" Татьяна Халецкая. - Горожан на самом деле очень беспокоит, как выглядит их двор, насколько он благоустроен. Нас впечатлило, что большинство дозвонившихся очень недовольны тем, как к их проблемам относятся ЖЭСы и ЖРЭУ. Последние чаще всего просто игнорируют эти проблемы и считают их мелкими жизненными неудобствами. Но для многих, особенно для людей пожилых, из таких неудобств складывается жизнь".

"Прямая линия" уже дала конкретные результаты. Члены "Маладой Грамады" возьмут под свою опеку один из детских садов по улице Асаналиева, сотрудники которого попросили помочь благоустроить большую детскую площадку и всю территорию учреждения. Что касается других звонков, то "Маладая Грамада" готовит обращения к руководителям коммунальных служб Минска (из районов которых были звонки) с предложением совместно устранить отмеченные жителями проблемы.

Подобные опросы проходят сейчас и в других городах страны, которые присоединились к молодежной кампании "Зробім лепш!", инициированной Ассамблеей демократических неправительственных организаций Беларуси. Кампания пройдет 30 июня, в День молодежи. Участвовать в ней будут и известные белорусские музыканты - группы N.R.M., "Чехоff" и "Тяни-Толкай".

27/06/2002



## МОЛОДЕЖЬ РЕШИЛА НАВЕСТИ ПОРЯДОК В СТРАНЕ

***На выходных молодые люди в 22-х городах Беларуси занялись уборкой, покраской и ремонтом***

***Ольга Шестакова***

Когда что-то ломается у нас во дворе или доме, мы по привычке идем в ЖЭС, а потом частенько неделями ждем помощи и так же привычно ругаем государство. Молодые люди, организовавшие кампанию "Зробім лепш!", предложили другой вариант: доверить решение "локальных проблем" вроде сломанной лавочки или замусоренного двора негосударственным общественным организациям. Это, мол, их прямая обязанность - узнавать насущные проблемы населения и решать их.

В кампании, организованной незарегистрированной пока Ассамблеей демократических негосударственных организаций, поучаствовали 22 города и около 70 молодежных инициатив. Например, в Новогрудке время акции как раз совпало с рыцарским фестивалем, так что местным активистам пришлось оба выходных убирать мусор за рыцарями и несколькими тысячами их гостей. Специально для такой толпы пришлось закупить около 50 совков и палок для сбора мусора и 500 больших пакетов, но даже этого не хватило на всю фестивальную грязь.

В Минске "рабіць лепш" решили серьезнее: провели "прямую линию" с горожанами. Главными насущными проблемами минчан являются сломанные лавочки и ужасное состояние детских площадок. Был еще звонок от бабушки, которая попросила помочь ей выбросить на свалку старый холодильник, и просьба от детского садика по улице Асаналиева, где сломаны скамейки и качели на детской площадке. В результате над детским садиком было взято шефство, а холодильник на днях пообещали вынести.

Но самая показательная часть кампании прошла в Мачулищах. Благотворительное объединение "Подснежник" решило построить в одном из дворов детскую площадку. Сначала жители ближайших домов думали, что это очнулось ЖЭУ, и даже ругались: где вы, мол, раньше были. А когда узнали, что все делается своими силами, пришли в "Подснежник" с предложением сделать сразу две площадки. Людям повезло: весь подготовительный этап помогли сделать военные из расположенных в Мачулищах и Минске воинских частей. Они рыли канавы, ставили качели и вкапывали бревна, благоустроили игровую площадку. Помогло и родное ЖЭУ №5, выделило скамейки, краску, лопаты.

А вот доделывать вторую площадку явились белорусские музыканты. Ребята из групп "Тяни-Толкай" и "Чехоff" приехали вместе с организаторами из Ассамблеи. Им тут же вручили в руки лопаты и показали, что с ними делать: нужно было соорудить ряд из наполовину закопанных автомобильных шин, разбить клумбы, вкопать пеньки. Получилось это на удивление неплохо, и работники гитары и микрофона отлынивали от работы, только чтобы раздать автографы.

2/07/2002



## "ОБЛАГОРОДИМ НАШ ДВОР!" - призывают участники акции

***Служба новостей "БК"***

В рамках общенациональной молодежной кампании "Зробім лепш!" 30 июня текущего года была проведена акция по благоустройству двора у дома №39 по проспекту Машерова.

Участники этого мероприятия (студенты вузов, учащиеся ПТУ и школ, представители молодежных объединений) провели во дворе с детьми подвижные игры-эстафеты, конкурс рисунка на асфальте, познавательную викторину. А затем в течении трех часов организаторы вместе с детьми, которым этот двор родной, занимались его уборкой.

В результате был убран мусор с крыш подъездов, на лестничных площадках заменены перегоревшие лампочки и сломанные выключатели.

По словам организаторов акции, подобные мероприятия будут проводиться и в других дворах города.

3/07/2002

RADIO

### Радио "Юнистар", "Русское Радио", "Радио Рокс"

***Завтра, 20 июня, на протяжении двух часов в Минске будет работать "прямая линия" молодежной кампании "Зробім лепш!". Позвонив на нее, жители столицы смогут поделиться теми локальными проблемами, с которыми сталкиваются ежедневно. По итогам звонков в Минске будут определены несколько дворов, куда участники кампании приедут 30 июня, чтобы помочь жителям решить их проблемы. Напомним, молодежная кампания "Зробім лепш!", инициированная Асамблеей демократических неправительственных организаций, пройдет 30 июня, в День молодежи, в 17 городах страны.***

***19/06/2002***

***Известные белорусские музыканты заявили про свое намерение участвовать в молодежной кампании "Зробім лепш!", которая пройдет 30 июня в 19 городах Беларуси. Кампания проходит под патронажем Ассамблеи демократических неправительственных организаций Беларуси. Лявон Вольский, солист группы N.R.M. сказал, что не может вспомнить, чтобы на протяжении последних десяти лет в Беларуси проводилась такая широкомасштабная кампания, как "Зробім лепш!" Напомним, что основная цель кампании - помочь жителям городов решить локальные проблемы, с которыми они сталкиваются ежедневно. "Зробім лепш!" мне тем более импонирует, потому что добровольность в ней совмещается с очень конструктивной идеей - сделать что-то хорошее жителям своего города, поселка," - говорит Лявон Вольский.***

***22/06/2002***

***Ряд известных белорусских музыкантов заявили про свое намерение участвовать в молодежной кампании "Зробім лепш!", которая пройдет 30 июня в 19 городах Беларуси. Кампания проходит под патронажем Ассамблеи демократических неправительственных организаций Беларуси. Напомню, что основная цель кампании - помочь жителям городов решить локальные проблемы, с которыми они сталкиваются ежедневно. Кроме группы N.R.M. в молодежной кампании "Зробім лепш!" примут участие минские команды "Чехоff" и "Тяни-Толкай".***

***24/06/2002***

***Настоящий V.I.P.-десант "Зробім лепш!" высадится в Мачулищах (Минский р-н) 30 июня в рамках одноименной молодежной кампании. Помочь благотворительной организации "Подснежник" благоустроить 2 детские площадки приедут Лявон Вольский (группа N.R.M.), Роман Орлов (группа "Чехоff"), группа "Тяни-Толкай" в полном составе. Напомним, что молодежная кампания "Зробім лепш!" пройдет 30 июня, в День молодежи, в 19 городах Беларуси под эгидой Ассамблеи демократических неправительственных организаций Беларуси.***

***28/06/2002***

***Сегодня и завтра в более чем 20 городах Беларуси пройдут основные мероприятия в рамках молодежной кампании "Зробім лепш!". А фактический старт капании был дан вчера в Борисове и столице. На протяжении трех часов жители 12 домов Борисова стали свидетелями того, как около 20 волонтеров кампании "Зробім лепш!" убирали подъезды домов на одной из центральных***

RADIO

Вечерний Минск

## ЕСЛИ ВКАЛЫВАТЬ - ТАК С ДУШОЙ!

*Ольга Языкович*

Как вы знаете, 30 июня был наш с вами праздник - День молодежи. Кто-то по этому случаю тусовался в парке Челюскинцев, где Мингорисполком с утра до вечера проводил увеселительяные мероприятия, кто-то выезжал на природу, ну а кто-то ходил в ночной клуб с стриптизом. А бригада парней и девушек из организации "Маладая грамада" решила отметить праздник особым способом - ударно вкалывая на территории детского садика N 480.



Если помните, была в нашей газете заметка: мол, некоторые оппозиционные молодежные организации готовят акцию "Зробім лепш" по благоустройству города и все желающие могут сделать "заказ" на юную рабсилу. Сотрудницы детского сада позвонили по указанному номеру и попросили приехать к ним. Работы пообещали много: надо постричь кусты, заменить прогнившее бревно, на котором дети занимаются физкультурой, а еще перестелить на футбольной площадке резиновое покрытие. "Заказ" приняла дежурившая в тот момент на телефоне Татьяна Халецкая, член "Маладой грамады"...

Когда в назначенный час я зашла на территорию садика, тринадцать добровольцев уже трудились вовсю. Парни перетаскивали листы рездора, которыми покрыто футбольное поле (между прочим, весит один такой "коврик" 40 килограммов). Работали с душой, явно получая от этого удовольствие. Укладывали листы аккуратнейшим образом, шов к шву, одновременно следя, чтобы ножки скамеек точно входили в вырезанные дырки. Руки у них были грязные, поэтому забавно было наблюдать, как один парень пытался извлечь из кармана вдруг зазвонивший сотовый телефон. Девчонок я сперва и не заметила: они сконцентрировались в кустах и деловито щелкали гигантскими ножницами - подрезали ветки. Заведующая детским садиком Светлана Гребенчикова с умилением прижимала к груди руки: "Надо же, как повезло! Такие приятные молодые люди, так хорошо работают!" Улыбка не сходила с ее лица. Когда я спросила, чем детский сад собирается рассчитываться за труд добровольцев, она добродушно ответила: "А стол уже накрыт. Чай, кофе, пирожные, бутерброды. Мы всем коллективом с утра старались..."

Попить кофе вместе с ребятами мне не удалось. Они явно вознамерились трудиться до сумерек. Поэтому пришлось их покинуть.

На снимке: Татьяна Халецкая, предводительница трудившейся в садике бригады.

05/07/2002

## Асіповіцкі край

***30 чэрвеня прайшла агульнанацыянальная маладзёжная кампанія па добраўпарадкаванні паселішчаў, якая мела назву:***

## "ЗРОБІМ ЛЕПШ"

*Мікалай Тамашоў*

У апошні дзень чэрвеня дзіцячая пляцоўка, што месціцца ў парку імя Ленінскага камсамола, выглядала незвычайна: купкі маладых людзей падчас правядзення акцыі "Зробім лепш!" фарбавалі тамтэйшыя арэлі-каруселі. Менавіта такім чынам шэраг грамадскіх аб'яднанняў горада вырашыў адзначыць Дзень моладзі.

Цікава было паназіраць за рэакцыяй прахожых на ўбачанае. Большасць, на жаль, абыякава праходзіла міма, хіба акінуўшы здзіўленым позіркам незразумелую падзею, аднак досыць было і тых, хто праяўляў да ўбачанага сапраўдную цікавасць.

- Чаму вы працуеце, сёння ж свята?
- пытаюцца некаторыя.
- Каб свята было кожны дзень, - чуецца ў адказ.

Такі высакародны матыў не можа пакінуць раўнадушным нікога. Нехта далучаецца да работы адразу, нехта абяцае рабіць гэта пазней, калі справіцца з неадкладнымі ўласнымі справамі. Жанчына-настаўніца шкадуе, што не мае магчымасці далучыцца да працуючых. Папракае арганізатараў за адсутнасць рэкламнай падтрымкі акцыю. Тыя апраўдваюцца: маўляў, 300 улётак размясцілі па гораду...

Падыходжу нарэшце да юнакоў, якія працуюць разам. У кожнага на грудзях значок "Зробім лепш". Пытаюся, хто прымусіў іх прыйсці працаваць у святочны дзень. У адказ гучыць здзіўленае: "Ніхто. Самі прыйшлі. Сябры паклікалі".

- А навошта вам гэта?
- Хочам зрабіць лепш: каб было прыгожа, каб дзеці радаваліся.
- Але ж зноў паламаюць, накідаюць смецця?
- А мы яшчэ прыйдзем і зноў зробім лепш...

Такія адказы асабіста спадабаліся, таму і сам папрасіў пэндзаль і фарбу. Фарбаваць металічныя трубы - занятак аднастайны і нецікавы, але моладзь трымалася годна і з імпэтам рабіла не адну гадзіну запар. Паступова пляцоўка рабілася яркай, прыгожай. І радавалася сэрца, калі глядзеў на маладых людзей і вынікі іх працы... шкада, скончыць задуманае перашкодзіў дождж, які лінуў каля 16 гадзін. Аднак няма сумнення: юнакі і дзяўчаты, якія ўжо адчулі, што іх намаганні могуць несці сапраўдны плён, давядуць пачатую справу да канца. І напэўна, гэта і ёсць галоўны вынік акцыі "Зробім лепш".

Застаецца дадаць, што грошы на правядзенне касметычнага рамонту дзіцячай пляцоўкі сабралі асіповіцкія прадпрымальнікі.

Вось так і пачынаецца ініцыятыва знізу: збіраюцца неабыякавыя і робяць лепш. Гэта атрымалася ў Асіповічах - дык чаму б не паспрабаваць палепшыць такім жа чынам выгляд і іншых паселішчаў раёна?

***Ад рэдакцыі газеты "Асіповіцкі край":*** і ўсё ж нельга пагадзіцца з аўтарам у яго спадзяванні на тое, што грамадская ініцыятыва цалкам зможа выправіць недахопы ў рабоце жыллёва-камунальных служб. Узгадваючы пра той самы парк імя Ленінскага камсамола, хацелася б выказаць надзею, што камунальнікі таксама "зробяць лепш" і ўсталююць, напрыклад, каля яго шматлікіх лаў такія патрэбныя ў мясцінах адпачынку урны для смецця.

6/07/2002

## Жодзінскія навіны

## БЛАГОДАРНОСТЬ

Администрация детского сада №4 благодарит МОО "Новая Касталия" и минскую организацию "Обратная связь" за проведение акции "Молодежь - детям" в нашем дошкольном учреждении.

Особая благодарность организаторам этой акции: Александру Пересыпкину, Татьяне Михайловой и Сергею Кручинику. Огромное спасибо Жене Юрис и Жене Солоновичу за неповторимые рисунки на верандах детского сада; Тане Иосько, Вике Синяк, Наташе Пукиной и Анатолию Павловичу Яскевичу - за оформление площадки для изучения правил дорожного движения; Р.Х. Низамову - директору ОАО "Строймехсервис", и родителям детей, посещающих д/с №4, - за предоставленную краску для оформления; а также очень благодарны всем, кто принял участие в этом добром начинании.

12/07/2002

RADIO

***улиц города. Это был подарок борисовчанам к 900-летнему юбилею города, который празднуется в эти дни.***

***29/6/2002***

***Волонтеры молодежной кампании "Зробім лепш!", инициированной Ассамблеей демократических неправительственных организаций, принимают самое активное участие в проходящем в древнем Новогрудке рыцарском фестивале. Волонтеры пока затрудняются ответить, сколько килограммов мусора предстоит убрать с полей Новогрудского фестиваля, но по их словам, подготовились они основательно: около полусотни приспособлений для уборки мусора, около полутысячи специальных пакетов и другие приспособления.***

***30/6/002***

***Сегодня, в День молодежи, в 20 городах Беларуси состоится заключительный этап молодежной кампании "Зробім лепш!", инициированной Ассамблеей демократических неправительственных организаций Беларуси. Напомню, цель акции - решить локальные проблемы жителей городов и поселков. Многочисленной обещает стать минская часть кампании. Активисты "Згуртавання беларускіх студэнтаў" сегодня днем ждут всех в парке Челюскинцев, где пройдет акция "Зробім лепш! студэнцкае жыцьцё". Специальные студенческие билеты, конкурсы и призы уже ждут своих героев. Более серьезной станет акция в Лошицком парке, где волонтеры проводят уборку берега Свислочи. А в городском поселке Мачулищи около полудня известные белорусские музыканты и телеведущие примут участие в благоустройстве 2 детских площадок. Организаторы приглашают всех желающих присоединятся к волонтерам "Зробім лепш!".***

***30/6/2002***

***Сегодня были подведены итоги молодежной кампании "Зробім лепш!", которая на протяжении двух недель проходила в 22 городах Беларуси и финишировала 30 июня. Напомню, кампания была инициирована Ассамблеей демократических неправительственных организаций Беларуси. Ее участниками стали тысячи волонтеров из более чем семидесяти молодежных организаций и инициатив, а также простые горожане. Как заметила сегодня, подводя итоги, координатор акции Алёна Валынец, кампания "Зробім лепш!" - уникальная для Беларуси. На протяжении десяти дней волонтеры спрашивали у местных жителей, какие локальные проблемы для них актуальны. Огромное количество членов общественных молодежных организаций в один день вышли на реконструкцию и уборку детских площадок, благоустройство дворов, очистили берега ряда рек. Масштабы акции, количество участников, плодотворное сотрудничество с местными властями, и в первую очередь конкретный результат кампании дает право организаторам говорить, что "Зробіць лепш!" удалось. При этом организаторы кампании сообщили, что акция 30 июня - первая из подобных. Планируется, что уже осенью кампания "Зробім лепш!" стартует снова. По словам Алены Волынец, изменятся формы работы, но цель останется прежней: общественные организации - для общества.***

***02/07/2002***

RADIO

# ТРЭЦІ І ЧАЦЬВЕРТАЯ

## партнэраў трэба ведаць у твар

**Узаемаадносіны недзяржаўных арганізацыяў і сродкаў масавай інфармацыі цяжка назваць ідэальнымі. Хіба што будзем недалёкімі ад ісьціны, калі скажам, што на пытаньне "Чаму не атрымліваецца канструктыўны дыялёг?" сябры грамадзкіх арганізацыяў, пакрыўджана насупіўшыся, пачнуць рэфлексаваць на тэму "Недзяржаўныя СМІ зусім не выяўляюць да нас цікавасьці", а журналісты паблажліва ўсьміхнуцца і пачнуць упікаць грамадзкія арганізацыі ў няздатнасьці "даць хоць што-небудзь, аддалена падобнае да інфармацыйнае нагоды". Будаваць разам тое, што называецца "грамадзянская супольнасьць", пакуль што не атрымліваецца. Відавочна, што на сёньняшні дзень НДА ў параўнаньні з тымі ж партыямі амаль цалкам выпалі з поля інтарэсаў беларускай прэсы, адсюль і ўражаньне палітманапалізацыі СМІ. Недзяржаўныя арганізацыі пакуль ня ў стане быць добрай інфармацыйнай альтэрнатывай партыям. Пакуль.**

**Досьвед правядзеньня грамадзкіх кампаніяў – "Выбірай", "За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты", нарэшце, "Зробім лепш!" – сьведчыць, што нават пры напаўпрафэсійным падыходзе ("не боги горшки обжигали") грамадзкія арганізацыі могуць даваць тыя самыя інфармацыйныя нагоды, што лягуць у падмурак навіны, а пасьля зьявяцца ў выглядзе інфармацыі ў СМІ.**

**Але пры спробах пабудаваць нейкія стратэгічныя пляны супрацы варта паставіць самім сабе лягічнае пытаньне: што прадстаўнікі "трэцяга сэктару" ведаюць пра "чацьвертую ўладу", свайго стратэгічнага партнэра?**

**Ніжэй мы падаем вытрымкі з матэрыялу, падрыхтаванага Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў (НІСЭПД), які можа праліць сьвятло на сучасны стан і пэрспэктывы разьвіцьця СМІ ў нашай краіне. Нацыянальнае апытаньне было зладжанае ў красавіку 2002 году ў рамках праекту "Падвышэньне ролі незалежных сацыяльных дасьледаваньняў і экспэртных сетак у Беларусі". Былі апытаныя 1464 рэспандэнты (межавая памылка рэпрэзэнтатыўнасьці не перавышае 0,03).**

Сярод крыніцаў інфармацыі пра грамадзка-палітычнае і сацыяльна-эканамічнае жыцьцё ў беларусаў упэўнена і прадказальна лідаруе тэлевізія (81,3 %) як самая дасягальная і масавая (адказы даваліся на адкрытае пытаньне). На другім месцы - друкаваная прэса (62.5%), якая па папулярнасьці ў паўтара разы апярэдзіла радыё (42.7%). А вось значнасьць міжасабовых зносінаў (4.5%) як крыніцы інфармацыі ў сучасную эпоху масавых камунікацыяў рэзка ўпала; інтэрнэт (2.0%) пакуль яшчэ не зрабіўся дасягальным для шырокіх слаёў грамадзкасьці. Найбольшым даверам сярод крыніцаў інфармацыі ў беларусаў таксама карыстаюцца тэлебачаньне (28.6%), прэса (13.8%) і радыё (8.1%).

Што тычыцца тэлевізійных каналаў, за выключэньнем заўважнага (на 10%) падзеньня аўдыторыі БТ, захоўваюцца раней адзначаныя тэндэнцыі: папулярнасьць ГРТ павольна расьце, рэйтынг НТВ пасьля сыходу старой каманды павольна падае, а ў РТР застаецца дастаткова стабільным (табл. 1). Зьніжэньне цікавасьці да БТ, якое сталі меней глядзець у сталіцы, рэгіянальных цэнтрах і вялікіх гарадах, апрача ўжо адзначанага палітычнага зацішша, магчыма, тлумачыцца і некаторымі зьменамі яго твару. Хоць на тэлеканале фактычна засталіся тыя ж людзі, якія працягваюць выконваць функцыі афіцыйнага агітпрапу, па выбарах перастаў выходзіць шэраг адыёзных, але выклікаўшых вялікую цікавасьць грамадзкасьці праграмаў. На зьмену ім прыйшлі праграмы, пра якія нават цяжка сказаць "адыёзныя" - яны папросту шэрыя і не выклікаюць элемэнтарнай цікавасьці.

У адрозьненьне ад БТ, падзеньне рэйтынгу дзяржаўнага беларускага радыё пачалося даўно і, па ўсім, будзе працягвацца (табл. 2). Аўдыторыю ў яго, а таксама ў расейскіх радыёстанцыяў патроху адваёўваюць FM-станцыі, якіх штогод робіцца ўсё болей. Мінімум палітыкі, максымум карыснай інфармацыі, забавак і музыкі, а таксама сучасная падача матэрыялаў - вось складнікі сёньняшняга посьпеху FM.

ТАБЛІЦА №2
**ЯКІЯ РАДЫЁСТАНЦЫІ ВЫ СЛУХАЕЦЕ?**
*(магчымы больш за адзін адказ)*

| Варыянты адказу | 06'97* | 07'00 | 08'01 | 04'02 |
|---|---|---|---|---|
| Беларускае радыё | 55.0 | 53.8 | 49.0 | 43.3 |
| Мясцовае радыё | -** | 34.2 | 37.9 | 32.4 |
| FM-станцыі | - | 33.1 | 35.6 | 42.3 |
| Расейскія радыёстанцыі | - | 30.2 | 31.0 | 22.5 |
| Беларуская служба Радыё "Свабода" | 2.4 | 7.1 | 11.3 | 8.9 |
| Іншыя заходнія радыёстанцыі | - | 4.6 | 3.6 | 1.4 |
| Расейская служба Радыё "Свабода" | 3.0 | 4.2 | 6.9 | 4.4 |
| Іншыя радыёстанцыі | - | 3.3 | 4.2 | 2.7 |

** У дадзеным апытаньні гэтае пытаньне гучала інакш: "Якія радыёстанцыі Вы слухаеце рэгулярна?"*
*** Няма дадзеных*

На рынку друкаваных мас-мэдыя беларускія недзяржаўныя выданьні ўжо даўно складаюць рэальную канкурэнцыю дзяржаўным. І па накладах, і па ўплыве. У параўнаньні зь мінулым апытаньнем, якое праходзіла адразу па прэзыдэнцкіх выбарах, можна адзначыць некаторае зьніжэньне грамадзкай цікавасьці да незалежнай прэсы, апрача хіба што "Комсомольской правды в Белоруссии", якая працягвае дэманстраваць зайздросны рост свайго рэйтынгу (табл. 3). Гэта цалкам заканамерна, бо падчас масавых палітычных кампаніяў людзі, натуральна, чытаюць болей (што і было адзначана ў кастрычніку мінулага году, калі вырасьлі наклады амаль ва ўсіх недзяржаўных газэтаў). А пасьля іх завяршэньня, з усталяваньнем пэўнай стабільнасьці на палітычным алімпе, заўжды зьніжаецца патрэба ў інфармацыі на дадзеную тэму.

З улікам таго, наколькі значна і па ўмовах існаваньня, і па матэрыяльна-фінансавых магчымасьцях, і па зьмесьце адрозьніваюцца незалежныя і дзяржаўныя СМІ, разгледзім дынаміку даверу нашых суграмадзянаў да іх (табл. 4). І тут можна ўбачыць карціну, якую ўмоўна можна назваць крызай даверу. Амаль за пяць год колькасьць тых, хто не давярае і недзяржаўным, і дзяржаўным СМІ, значна павялічылася. Пры гэтым ровень даверу насельніцтва да дзяржаўнай прэсы, нязначна зьніжаючыся, застаецца ў цэлым досыць стабільным увесь гэты час. Адпаведна, новых прыхільнікаў у афіцыйнай прэсы не зьяўляецца.

Што да незалежных СМІ, то тут пасьля некаторага падзеньня роўню даверу чытачоў і слухачоў шэрагі тых, хто давярае, зноў пачалі пакрысе расьці. У выніку сёньня можна з пэўнай нацяжкай сказаць, што насельніцтва ў цэлым ставіцца да двух такіх розных сэгмэнтаў беларускай прэсы прыкладна аднолькава.

Чаму так атрымалася? Чаму адбылося такое, так бы мовіць, расчараваньне ў прэсе? Што да дзяржаўных СМІ, то тут усё больш-менш зразумела. Калі яны робяцца часткай агітацыйна-прапагандысцкай машыны, то распавядаюць пра жыцьцё ў краіне такім чынам, як патрэбна ўладам, а ня так, як гэта ёсьць насамрэч. Ня дзіва, што толькі 11.5% рэспандэнтаў лічаць, што інфармацыя з афіцыйных крыніцаў цалкам адпавядае рэальнаму жыцьцю (66.7% адказалі, што адпавядае часткова, і 16.1% - цалкам не адпавядае).

Чаму тады на фоне пагаршэньня эканамічнай сытуацыі ў краіне, рэзкага падзеньня рэйтынгу прэзыдэнта і росту колькасьці яго перакананых супраціўнікаў такімі ж хуткімі тэмпамі не расьце давер да незалежнай прэсы, якая ўсе апошнія гады спрабавала данесьці да людзей альтэрнатыўны пункт погляду? Даўно

ТАБЛІЦА №1
**ЯКІЯ ТЭЛЕКАНАЛЫ ВЫ ГЛЯДЗІЦЕ?**
***(магчымы больш за адзін адказ)***

| Варыянты адказу | 06'97* | 08'00 | 08'01 | 04'02 |
|---|---|---|---|---|
| ОРТ | 90.7 | 89.8 | 93.1 | 95.1 |
| РТР | 58.1 | 77.1 | 80.7 | 77.0 |
| Беларускае тэлебачаньне | 66.4 | 71.9 | 77.1 | 67.7 |
| НТВ | 27.7 | 56.1 | 54.9 | 50.5 |
| Мясцовае тэлебачаньне (абласное, гарадзкое) | -** | 37.2 | 39.0 | 32.4 |
| ТВ-6 | 4.8 | - | - | 12.3 |
| Кабэльнае тэлебачаньне | - | - | - | 9.3 |
| Спадарожнікавае тэлебачаньне | 1.3 | 10.0 | 9.7 | 5.3 |
| Іншае | - | 7.6 | 7.4 | 4.9 |

**У дадзеным апытаньні гэтае пытаньне гучала інакш: "Перадачы якіх каналаў Вы глядзіце рэгулярна?"*
***Няма дадзеных*

**ТАБЛІЦА №3**
**Якія газэты Вы чытаеце? (%)**
*(магчымы больш за адзін адказ)*

| Варыянты адказу | 06'97* | 07'00 | 10'01 | 04'02 |
|---|---|---|---|---|
| Мясцовая газэта ("Вечерний Минск", "Брестский курьер" і да т.п.) | 43.1 | 42.3 | -** | 48.8 |
| "Комсомольская правда в Белоруссии" | 4.1 | 21.0 | 35.6 | 39.4 |
| "Советская Белоруссия" | 23.2 | 29.4 | 37.7 | 34.8 |
| "АиФ в Белоруссии" | 22.0 | 25.6 | 40.5 | 31.5 |
| "Белорусская Деловая Газета" | 2.5 | 7.4 | 12.1 | 11.7 |
| "Народная воля" | 5.5 | 9.8 | 12.8 | 10.5 |
| "Свободные новости" | 4.9 | 6.1 | 10.4 | 7.1 |
| "Известия в Беларуси" | -** | 6.4 | 10.7 | 6.2 |
| "Белорусская газета" | 2.5 | 4.4 | 8.4 | 5.3 |
| "Белорусский рынок" | 2.2 | 4.7 | 6.6 | 4.4 |
| "Наша свабода" | - | 2.6 | 5.5 | 3.3 |
| "Беларускі час" | - | - | 5.2 | 2.6 |
| "День" | - | - | 3.0 | 1.8 |
| "Рабочы" | 2.0 | 2.4 | 2.4 | 1.6 |
| "Беларуская маладзежная" | - | - | - | 0.9 |
| Belarus Today | - | - | - | 0.5 |
| Іншыя | 21.9 | 16.6 | 21.9 | 17.8 |

* *У дадзеным апытаньні гэтае пытаньне гучала інакш: "Якія газэты Вы чытаеце рэгулярна?"*
***Ва ўказаных апытаньнях дадзеныя газэты не ўзгадваліся*

вядома, што перакананыя супрацоўнікі і прыхільнікі А.Лукашэнкі па прынцыповых пытаньнях займаюць супрацьлеглыя пазыцыі. У іх адносінах да прэсы, за невялікім, але вельмі важным выключэньнем, назіраецца тая ж карціна.

Сярод прыхільнікаў А.Лукашэнкі дзяржаўнай прэсе давяраюць 82.2% (не давяраюць 6.6%), а недзяржаўнай прэсе, адпаведна, 11.2% і 70.4%. А вось сярод супрацоўнікаў Лукашэнкі склалася некалькі іншая карціна: дзяржаўнай прэсе давяраюць 11.3% (не давяраюць 72.8%), недзяржаўнай давяраюць 42.9% і не давяраюць 40%! Апошнія суадносіны ня проста парушаюць ужо звыклую карціну "люстраванасьці" пазыцыяў прыхільнікаў і супрацоўнікаў, але і ўказваюць на тое, што "сваёй", здавалася б, дэмакратычнай прэсе не давярае дэмакратычна скіраваны выбарац.

**ТАБЛІЦА №4**
**ДЫНАМІКА ДАВЕРУ ДА СРОДКАЎ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ, %**

| Варыянт адказу | 11'97 | 09'98 | 06'99 | 04'00 | 10'01 | 04.02 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дзяржаўныя СМІ: | | | | | | |
| - давяраюць | **43.7** | 41.8 | 39.8 | 38.5 | 40.4 | **38.7** |
| - не давяраюць | **21.0** | 26.0 | 31.0 | 31.6 | 42.4 | **43.1** |
| Недзяржаўныя СМІ: | | | | | | |
| - давяраюць | **25.4** | 19.6 | 19.5 | 25.7 | 31.7 | **32.2** |
| - не давяраюць | **24.1** | 32.6 | 34.9 | 31.9 | 42.1 | **43.9** |

І тут варта адзначыць, што сярод незалежных газэтаў сёньня найбольш чытаюць тыя, якія адрозьніваюцца ці сьвядомым пазьбяганьнем палітычнай тэматыкі (як "АиФ в Белоруссии"), ці асьвятляюць яе досыць стрымана і ў невялікіх маштабах (як "КП в Белоруссии"). З гэтага зусім не вынікае, што незалежныя газэты зусім не павінныя пісаць пра палітыку - ад гэтага ім нікуды не падзецца, бо яны папросту згубяць свайго пастаяннага чытача. Проста рабіць гэта трэба, памятаючы пра тое, што падобная інфармацыя мусіць у першую чаргу адпавядаць вядомым і заўжды актуальным крытэрам: аб'ектыўнасьць, апэратыўнасьць і абавязкова ўсебаковасьць, г.зн. адлюстроўваць пункты погляду ўсіх зацікаўленых бакоў. Гэтага часам не хапае беларускай незалежнай прэсе. Менавіта гэтага чакаюць ад яе чытачы, якія не адчуваюць асаблівага дэфіцыту ў тэматычнай (палітычнай ці эканамічнай) інфармацыі, але якія адзначаюць, што ім не хапае інфармацыі аб'ектыўнай і праўдзівай (пра гэта заявіла чвэртка апытаных). Хто зможа вырашыць гэтую задачу лепей і хутчэй за астатніх, той і даб'ецца посьпеху.

*Паводле штомесячнага электроннага Бюлетэню Цэнтру дакумэнтацыі Незалежнага інстытуту сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў "Инфофокус", травень 2002*








# CLEAN UP THE WORLD

## акцыя, сьветапогляд, стыль жыцьця - цяпер і на Украіне

**Пётар Тышка,**
*старшыня праўленьня арганізацыі Fundacja Nasza Ziemia, каардынатара акцыі Clean Up the World у Польшчы („Sprzatanie swiata")*

***У верасьні мінулага году Украіна далучылася да сусьветнага руху Clean Up the World. У акцыі "Чыстая Украіна - Чыстая зямля" ўзяла ўдзел больш як 75 тысячаў удзельнікаў у больш як 8.150 гарадах і вёсках - ад Львоўшчыны да Луганшчыны, ад Чарнігаўшчыны да Крыму. Акцыя асьвятлялася ва ўсіх сродках масавай інфармацыі. Пашыранасьць акцыі зьдзівіла нават арганізатараў.***

Экаасьветніцкая грамадзкая акцыя ***Clean Up the World*** нарадзілася ў Аўстраліі ў 1989 годзе, калі аўстралійскі марак Ян Кэрнан, абураны засьмечваньнем акіянаў, заклікаў сіднэйцаў да ачысткі Сіднэйскай затокі. У адзін дзень разам са спадаром выйшлі працаваць 40 тыс. асобаў.
Зараз акцыя ладзіцца ў ста дваццаці краінах сьвету пад патранатам Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў. У Польшчы такая акцыя пачалася ў 1994 годзе па ініцыятыве Міры Станіслаўскай-Мейштовіч, якая жыве ў Аўстраліі. Штогод у польскай акцыі бярэ ўдзел каля двух мільёнаў валянтэраў.

Падчас акцыі ***Clean Up the World*** жыхары разам выходзяць на супольную працу па ачыстцы навакольнага асяродзьдзя. Ініцыятарамі акцыі на месцах выступаюць органы мясцовага кіраваньня, прадпрыемствы, прыродаахоўчыя таварыствы і арганізацыі, школы, ВНУ, партыі, цэрквы. Падчас акцыі многія школьнікі арганізуюць конкурсы малюнку, вершаў, празаічных твораў на экалягічную тэматыку.

Самае важнае, што ўдзельнікі вучацца штодзённа дбаць пра навакольле. Вучацца таксама салідарнасьці і супрацы з дэмакратычнай мясцовай уладай. Акцыя дае магчымасьць правядзеньня экалягічнай асьветы і прапаганды парадку ды сэлекцыйнага збору пабытовых адходаў. Акцыя стварае спрыяльную атмасфэру для вырашэньня праблемы перапрацоўкі адходаў на дзяржаўным роўні. Правядзеньне ***Clean Up the World*** у Аўстраліі, Польшчы, іншых краінах дэманструе, што такая мадэль грамадзкай актыўнасьці зьдзяйсьняецца ў розных умовах.

Ідэя акцыі "Чиста Україна - Чиста земля" была плодам партнэрскай працы ўкраінскага гораду Жоўква, польскай гміны Памехувэк і ***Fundacja Nasza Ziemia***. Гэтую ідэю ўвасобіла ў жыцьцё Львоўскае рэгіянальнае аддзяленьне Асацыяцыі гарадоў Украіны, пры добразычлівым стаўленьні агульнаўкраінскага кіраўніцтва Асацыяцыі. На месцах акцыю зарганізоўвалі сябры АГУ, школы, экалягічныя арганізацыі, асабліва Таварыства абароны прыроды. ***Fundacja Nasza Ziemia*** перадала арганізатарам досьвед правядзеньня акцыі ў Польшчы і дапамагла атрымаць гранты. Акцыю падтрымаў міністар экалёгіі і прыродных рэсурсаў спадар Курыкін.

## ЯК ЗАРГАНІЗАВАЦЬ І ЗЛАДЗІЦЬ АКЦЫЮ агульныя парады

Кожны добры арганізатар разумее, што для пасьпяховага правядзеньня працы неабходна як мага дакладней яе сплянаваць. Напачатку трэба вызначыць мэту і шляхі яе дасягненьня.

### Нашто?

Гэтай акцыяй мы хочам:
- згуртаваць людзей вакол ідэі аховы навакольля;
- навучыць дзяцей дбаць пра навакольле;
- перадаць дзецям досьвед салідарнасьці ў працы;
- супольна працаваць зь мясцовымі ўладамі і местачкоўцамі;
- прыцягнуць увагу мясцовых масмэдыяў, ураду, прамысловасьці, уладаў да праблемы неабходнасьці арганізаванага збору вялікай колькасьці выкідаў, іх перапрацоўкі і правільнага захаваньня.

### З кім?

Відавочна, з энтузіястамі акцыі "Чиста Україна - чиста Земля", не зважаючы на век. Ініцыятыўная група стварае арганізацыйны камітэт, ці штаб акцыі. Асноўныя функцыі камітэту:
- прыцягнуць да акцыі кіраўнікоў мясцовых уладаў, камунальных службаў, дырэктараў школаў, эколягаў;
- наладзіць кантакты зь мясцовымі службамі, што займаюцца вывазам сьмецьця;
- знайсьці фундатараў, якія б забясьпечылі падарункі, узнагароды;
- наладзіць кантакты з СМІ, каб найлепей давесьці мэту, тэрміны, месца правядзеньня акцыі.

Па вялікім рахунку, кожны з нас можа быць арганізатарам і актыўным удзельнікам акцыі "Чиста Україна - чиста Земля" ў сваёй мясцовасьці.

### Якім чынам?

Разумнае і пэрспэктыўнае плянаваньне - гэта палова посьпеху. Перад плянаваньнем заўжды неабход-

ТЭМА

на вызначыць:
• месца акцыі;
• колькасьць удзельнікаў;
• колькасьць арганізатараў і кіраўнікоў;
• прыстасаваньні, якія неабходныя для прыборкі (мяхі, рукавіцы, скрынкі і інш.).
Спачатку ладзяцца інфармацыйна-навучальныя акцыі. Тут шырокае поле дзейнасьці: афішы, плякаты, праграмы мясцовага радыё, тэлевізіі, публікацыі ў газэтах, конкурсы малюнкаў, фатаздымкаў, алімпіяды паміж школамі, студыямі, складаньне фатаграфічнай дакумэнтацыі (мапаў) дзікіх, неарганізаваных звалак сьмецьця.

## Дзе і як?

Сьпіс месцаў прыборкі доўгі. Можна прыбіраць гарады і вёскі, горы і раўніны, на вадзе і пад вадою, гістарычныя помнікі, запаведнікі і паркі. Але мы заўжды павінныя памятаць пра тое, што далей рабіць з гэтым сьмецьцем.

## А потым, пасьля працы?

Забава! Спосабаў таксама багата. Баўцеся на самадзейных канцэртах, арганізуйце конкурсы, "сьметнікавыя" дыскатэкі, балі-маскарады.

## КАНКРЭТНЫЯ РЭКАМЭНДАЦЫІ па арганізацыі акцыі "Чиста Україна - чиста Земля"

Посьпех акцыі залежыць ад удалага плянаваньня, ад таго, ці адпавядае яно мясцовым асаблівасьцям.

Плянуючы акцыю, трэба папярэдне ўзгадніць:
- месца правядзеньня, аб'ём працы;
- колькасьць удзельнікаў;
- асобаў-кіраўнікоў самой прыборкі;
- прыблізную колькасьць сьмецьця, якую трэба вывезьці;
- супрацу зь мясцовымі ўладамі;
- супрацу зь мясцовымі фірмамі, якія вывозяць сьмецьце і займаюцца яго перапрацоўкай;
- рэгістрацыю ўдзельнікаў;
- крыніцу фінансаваньня акцыі;
- забесьпячэньне неабходнымі прыстасаваньнямі і матэрыяламі;
- формы папулярызацыі акцыі;
- супрацу з СМІ;
- сцэнар правядзеньня акцыі;
- арганізацыю пікніка пасьля працы.

## Дзе прыбіраем?

Аргкамітэт павінен выбраць для правядзеньня акцыі столькі месцаў, каб мець мажлівасьць каардынаваць усю працу. Пры падборы месца, дзе мусіць адбывацца акцыя, трэба ўзяць пад увагу:
- ступень забруджанасьці гэтага месца;
- віды забруджваньня (няшкодныя);
- дасягальнасьць (для ўдзельнікаў акцыі, для сьмецьцевых машынаў, калі што якое - хуткая дапамога мусіць дасягнуць гэтага месца без праблемаў);
- аддаленасьць ад месца пражываньня людзей (большасьць з ахвотаю прыбярэ недалёкі ад дому ўчастак, але аддаленыя мясьціны таксама патрабуюць увагі, таму камітэт павінен зарганізаваць транспарт для ахвочых прыбраць у аддаленых мясьцінах);
- умовы бясьпекі (вуліцы з рухам, адстойнікі вады, лініі электраперадач, насыпы, месцы захаваньня таксычных і радыёактыўных адходаў);
- закрытыя тэрыторыі (вайсковыя палігоны, прыватныя і прамысловыя тэрыторыі, на якіх ня трэба плянаваць акцыю).

## Крыніца фінансаваньня акцыі

Правядзеньне акцыі павінна адбывацца на грамадзкіх пачатках.
Але для інфармаваньня і папулярызацыі (друк плякатаў, буклетаў, інфармацыі для СМІ, пералік удзельнікаў), а таксама для працы арганізацыйнага камітэту (камунікацыйныя выдаткі, транспарт і да т.п.) патрэбнае фінансаваньне. Таму прапануем зьвярнуцца да мясцовых упраўленьняў экалёгіі і прыродных рэсурсаў з просьбай прафінансаваць акцыю.

Трэба дбаць пра фінансавую падтрымку ад фірмаў, арганізацыяў, мясцовых уладаў. Атрыманыя фінансы (калі іх будзе дастаткова) можна пусьціць на закуп мяхоў для сьмецьця, рукавіцаў (калі ня будзе магчымасьці атрымаць іх бясплатна), на ўзнагароды ў конкурсах (калі такія будуць зарганізаваныя), на прадукты для пікніка, арганізаванага для ўдзельнікаў па заканчэньні акцыі. Лёга і назву фірмаў трэба зьмясьціць на друкаваных матэрыялах, а таксама даць інфармацыю пра іх прэсе.

## РАЗАМ ЗЬ БЕЛАРУСЬСЮ

***Напачатку ліпеня дзевяць беларускіх экалягічных арганізацыяў аб'ядналіся ў кааліцыю "Чысты дом - чыстая Беларусь", каб 20-22 верасьня 2002 году зладзіць агульнакраёвую акцыю ў рамках глябальнай кампаніі "Clean up the World". Ідэйным натхняльнікам беларускай кааліцыі стала Fundacja Nasza Ziemia (Варшава).***

Плянуецца, што беларуская акцыя пройдзе паралельна з замежнымі. Традыцыйна ў верасьні ладзяцца акцыі па добраўпарадкаваньні, ачысцы лясных масываў, рэчак і азёраў, асьветніцкія акцыі і інш.
У склад ініцыятыўнай групы ўвайшлі прадстаўнікі экалягічных арганізацыяў і ініцыятываў з розных рэгіёнаў Беларусі. Каардынатарам кааліцыі абраны Уладзімер Зуеў, прэзыдэнт ЭКАА "Неруш" (Баранавічы).

## Пагадненьне зь мясцовымі ўладамі

Для пасьпяховага правядзеньня акцыі "Чиста Україна - чиста Земля" неабходная сумесная праца зь мясцовымі ўладамі, з асобамі, адказнымі за падтрыманьне парадку ў гарадах і вёсках. Трэба памятаць, што ўлады не абавязаныя падтрымліваць акцыю, але іхная дапамога грае вялікую ролю ў пасьпяховасьці акцыі. Арганізатары павінны паведаміць уладам аб правядзеньні акцыі, нават калі тыя не зьбіраюцца браць у ёй удзел. Дапамога ад уладаў можа быць у форме дазволу на ўступленьне (уезд) удзельнікаў на тэрыторыю паркаў, запаведнікаў, лясоў ці на доступ да сьмецьцевых звалак.

Арганізатары павінны скантактавацца зь мясцовай міліцыяй і паведаміць пра свае пляны.

Пры наладжваньні такіх кантактаў трэба: напісаць афіцыйны ліст, зьвярнуцца з просьбай аб падтрымцы і практычных парадах для арганізацыі акцыі і г.д.

## Кантакты зь мясцовымі СМІ

Пасьпяховасьць акцыі будзе залежаць ад апэратыўнасьці, дакладнасьці інфармацыі, а таксама спосабу яе падачы ў СМІ.

Варта пастарацца добра адпрацаваць інфармацыйныя матэрыялы для агульнакраёвых і рэгіянальных СМІ.

Надрукаваная імі інфармацыя, пададзеная ў цікавай, інтрыгуючай, небанальнай форме, выкліча зацікаўленасьць акцыяй.

У такіх акцыях выкарыстоўваюць мясцовыя патрыятычныя матывы, прывязаныя да месца нараджэньня, пражываньня, працы, элемэнт забавы, фэсту. Аргкамітэт можа мець свой інфармацыйны бюлетэнь, які б з энтузіязмам пісаў пра падрыхтоўку да акцыі і яе распаўсюд сярод грамадзянаў і ў СМІ.

Інфармуючы пра акцыю, варта падаць яе праграму, у якой указаць такія дадзеныя:
- дата акцыі;
- месца правядзеньня (апісаньне тэрыторыі, якую трэба прыбраць);
- пагадзінны расклад прыборкі;
- час і месца правядзеньня пікніка / забаў пасьля сумеснай працы.

## Што далей?

Ідэя прыборкі сьмецьця не павінна зводзіцца да аднаразовых акцыяў, а мусіць зрабіцца падставай для давядзеньня людзям праблемы "цыклічнасьць адходаў = адсутнасьць адходаў".

Большасьць з нас прызвычаілася да таго, што мы купляем вырабы, якія




выкідаем пасьля іх выкарыстаньня. Гэта таксама тычыцца прадуктаў у шматразовым упакаваньні. Мы не задумваемся, што робіцца з тым сьмецьцем далей. Не задумваемся пра тое, што нашае сьмецьце - гэта вялікія горы гарадзкіх сьмецьцязвалак, якія сталі экалягічнай праблемай грамадзтва.

Самае першае, што можна зрабіць у такім выпадку, - абмежаваць колькасьць выкінутага сьмецьця.

Няхай людзі задумаюцца над пытаньнямі:
- Што робіцца са сьмецьцем і іншымі адходамі, якія выкідаем?
- Ці цяперашнія спосабы пазбаўленьня ад сьмецьця ёсьць пасьпяховымі і ці змогуць яны быць рэалізаваныя ў будучыні?
- Як уплываюць на навакольле і здароўе гэтыя спосабы?
- Як можна зьменшыць колькасьць сьмецьця і адходаў?
- Як можна перапрацоўваць ці паўторна выкарыстоўваць матэрыялы, якія, як правіла, выкідаем?
- Што можа зрабіць кожны з нас, каб выправіць сытуацыю?

Не вагайцеся са зваротам па інфармацыю і дапамогу да мясцовых уладаў, грамадзкіх арганізацыяў і суполак. Умоваю доўгатрывалых зьменаў ёсьць супраца розных чыньнікаў, таму варта ўдасканальваць мэтады і спосабы супольных дзеяньняў. Уявіце, як будзе выглядаць ачышчаная вамі тэрыторыя пасьля акцыі. Ці ня зробіцца яна за колькі месяцаў такой, як была?

Памятайце пра тое, які ўнёсак можа зрабіць кожны з нас. Пастарайцеся абмежаваць колькасьць сьмецьця, якое выкідаеце.

Існуе шмат розных спосабаў, якімі кожны можа кіравацца дзеля выпраўленьня сытуацыі. Напрыклад:
- Аддавайце перавагу прадметам шматразовага, а не аднаразовага ўжытку (сурвэткі, лёзы, пляшкі, пакецікі для прадуктаў);
- У крамах і на рынках бярыце торбачкі шматразовага ўжытку (нават бясплатныя);
- Патрабуйце, каб мясцовыя крамы і вытворцы прапанавалі прадукты, упакаваньне якіх зроблена з паўторнай сыравіны, што вырабляецца ў вашай мясцовасьці;
- Купляйце прадукцыю, аптымальна ўпакаваную;
- Купляйце лепей адзін вялікі, чым шмат малых пакункаў прадуктаў паўторнага ўжытку (напрыклад, пральныя парашкі, шампуні, сродкі для мыцьця посуду і г.д.);
- Купляйце тавары ў ёмістасьцях, якія можна паўторна напаўняць.

***Паводле: www.cleanukr.org.ua***

# ROCK VOLIEB

## шоў-бізнэс на варце дэмакратыі

У 1998 годзе ў Славакіі ў выніку перамогі дэмакратычных сілаў на парлямэнцкіх выбарах быў скінуты аўтарытарны рэжым Уладзімера Мацiяра. Сам па сабе прыход да ўлады дэмакратычнага, праэўрапейскага ўраду ў адной з постсавецкіх краінаў безумоўна стаў вельмі значным дасягненьнем. Аднак ня толькі гэты факт зрабіў славацкія выбары 1998 году выбітнымі. Упершыню на постсавецкай прасторы намаганьнямі грамадзкіх, пераважна моладзевых арганізацыяў была праведзеная маштабная, непалітычная грамадзкая мабілізацыйная кампанія, якая называлася Rock volieb '98. Яе актывісты не агітавалі за таго ці іншага кандыдата і не выступалі ад імя нейкай партыі. Іх задачай было ў цікавай і зразумелай форме пераканаць славацкую моладзь у неабходнасьці ўзяць удзел у выбарах, паколькі ад голасу кожнага маладога чалавека залежала як яго асабістая будучыня, так і будучыня ўсёй краіны.

Вынік быў ашаламляльны: 80 % маладых людзей ва ўзросьце ад 18 да 21 году прыйшлі прагаласаваць (у 1994 годзе такіх было толькі 20 %). Але і гэты факт, якім маглі ганарыцца арганізатары кампаніі, застаўся б пераважна ўнутраным дасягненьнем Славакіі, калі б не міжнародны розгалас, які атрымала Rock volieb '98. Шмат якія постсавецкія краіны ўсё яшчэ цярпелі ад аўтарытарных рэжымаў большай ці меншай жорсткасьці. Досьвед Славаччыны даваў дэмакратычным сілам гэтых краінаў надзею і стымул да актыўнага дзеяньня. Славацкія актывісты, большасьці зь якіх было крыху болей за 20 гадоў, ператварыліся ў сапраўдных экспэртаў, да якіх прыслухоўваліся дэмакратычныя дзеячы з Харватыі, Украіны, Югаславіі, Беларусі... Яны ня толькі дзяліліся сваімі практычнымі ведамі, але заражалі энэргіяй і аптымізмам.

Перамога дэмакратычнай апазыцыі ў Харватыі, зьвяржэньне рэжыму Мілошавіча ў Югаславіі сталі, безумоўна, вынікам грамадзкіх кампаніяў. Здавалася, перамога дэмакратыі была канчатковай. Аднак за выбарчай рыторыкай прыйшоў час рэформаў, часам вельмі непапулярных і складаных. Сьвяточны настрой выбаршчыкаў зьмяніўся расчараваньнем і апатыяй. На гэтай хвалі нявер'я да ўлады ў Славаччыне на маючых адбыцца ў верасьні парлямэнцкіх выбарах могуць праўрацца прыхільнікі ізаляцыі краіны і адкату да савецкіх часоў. Краіна зноў стаіць на раздарожжы, і толькі моладзь, на думку арганізатараў Rock volieb 2002, можа выбраць адзіны правільны, дэмакратычны шлях яе разьвіцьця. Для гэтага неабходна, каб маладыя людзі зноў паверылі ў вырашальнасьць кожнага голасу на выбарах і ў тое, што гэты голас будзе пачуты тымі, каму будзе даверана ўлада.




***Пра ўрокі Rock volieb '98, праблемы сучаснай Славаччыны і новую грамадзкую кампанію ў сваім артыкуле распавядае Марэк Капуста, адзін зь лідэраў руху Rock volieb.***

У 1997 годзе валянтэры Корпусу Міра паспрабавалі ўявіць сабе, як амэрыканская ініцыятыва, Rock the Vote, можа спрацаваць у Славакіі з тым, каб заахвоціць маладых людзей узяць удзел у выбарах. У хуткім часе гэтая ідэя пачала ўвасабляцца ў жыцьцё групай маладых лідэраў, што былі задзейнічаныя ў мабілізацыйнай кампаніі і кампаніі назіраньня за выбарамі ў рэгіёнах. У межах кампаніі Rock volieb у 16 гарадах прайшлі рок-канцэрты, на якіх маладыя валянтэры раздавалі спэцыльныя кашулькі са слоганам "Volim, teda som" ("Я галасую, таму існую") і выбарчую інфармацыю. У стылі MTV былі зьнятыя тэлевізійныя кліпы, героямі якіх былі вядомыя музыкі і спартоўцы. Rock volieb здолеў дабіцца таго, што гэтыя кліпы ратываліся на MTV Europe і прыватных славацкіх тэлеканалах да 10 разоў на дзень.

Гэта павінна было спрацаваць. За некалькі дзён да парлямэнцкіх выбараў рок-канцэрт, які праходзіў на цэнтральнай плошчы Брацiслава, шмат разоў перакрываўся крыкам шматтысячнага натоўпу маладых людзей "Мы пойдзем галасаваць!". Восемдзесят адсоткаў ад 380 тысячаў выбаршчыкаў ва ўзросьце ад 18 да 21 году выканалі гэтае сваё абяцаньне ў параўнаньні з 20 % у 1994 годзе. Іх падтрымка дэмакратычнай апазыцыі дапамагла скінуць аўтарытарны рэжым Уладзімера Мацiяра (Vladimir Maciar) і прывесьці да ўлады кааліцыю, што выступала за рэформы.

У гэтым годзе парлямэнцкія выбары застаюць Славакію на раздарожжы. Папулізм і ізаляцыяналізм на гады адкінуў краіну ад дэмакратычнага прагрэсу і рэінтэграцыі з Эўропай. Пытаньне ў тым, ці здолее Rock volieb прымусіць расчараваных і апатычных выбаршчыкаў зрабіць правільны выбар?

## БУДУЧЫНЯ ПАСТАЎЛЕНАЯ НА КАРТУ

З 1998 г. эканамічныя і палітычныя рэформы, якія праводзіліся арыентаваным на Захад урадам на чале з прэм'ер-міністрам Мікулашам Дзурындам (Mikulas Dzurinda), мелі на мэце лібэралізаваць былы аўтарытарны рэжым Мацiяра. Яны былі распрацаваныя і накіраваныя на інтэграцыю Славакіі ў Эўрапейскі Зьвяз і трансатлянтычныя структуры. Аднак лібэралізацыя моцна ўдарыла па сэгмэнтах славацкага грамадзтва, што выклікала рост незадаволенасьці рэформамі ды інтэграцыйнымі намаганьнямі і прынесла ў грамадзтва хутчэй барацьбу, чым спадзяваньні на лепшае.

Масла ў полымя падлівалі карупцыйныя скандалы з удзелам ураду, што падагравала і без таго моцную грамадзкую незадаволенасьць. Паводле дадзеных Славацкай Інфармацыйнай Агенцыі, колькасьць людзей, якія лічылі, што іх краіна "рухаецца ў няправільным накірунку", вырасла з 34 % у студзені 1999 г. да 66 % у верасьні 2001 г. Сацыялягічнае дасьледаваньне, праведзенае агенцыяй "Фокус" у студзені 2002 г., паказала: 63 % славакаў вераць, што іх жыцьцё было прасьцейшае пры камунізме.

Грамадзкая незадаволенасьць дасягнула таго ж узроўню, што і ў 1998 годзе. Аднак палітычны ляндшафт сёньня выглядае зусім інакш. Сытуацыя ўжо далёка ня чорна-белая, як гэта было 4 гады таму. Славацкі прарэфармісцкі ўрад можа пацярпець паразу ад папулістаў ці антырэфармісцкіх партыяў, як гэта адбылося ў Румыніі, Баўгарыі і Польшчы падчас апошніх выбараў.

На гэтым фоне перад грамадзкімі адукацыйнымі групамі стаіць складаная задача праінфармаваць і мабілізаваць выбаршчыкаў на верасьнёўскія выбары.

Масавая незадаволенасьць і апатыя памнажаецца на верагоднасьць таго, што падманутыя чаканьні ад выбараў 1998 году могуць парадзіць беспрэцэдэнтны цынізм. І хаця грамадзтва ў прынцыпе падтрымлівае ідэю ўступленьня Славакіі ў НАТА і інтэграцыю ў Эўразьвяз, нельга выключаць магчымасьць таго, што ў выніку выбараў 2002 г. створыцца ўрад, які будзе несумяшчальным з каштоўнасьцямі НАТА і ЭЗ. Усё гэта разам узмацняе пагрозу адкату краіны да ізаляцыі.

Rock volieb '02 сталася больш чым моладзевай мабілізацыйнай кампаніяй. Цяпер гэта магчымасьць для краіны працягнуць распачатыя раней дэмакратычныя працэсы.

## ROCK VOLIEB У ДЗЕЯНЬНІ

Больш чым праз 3 гады пасьля 1998 г. грамадзтва па-ранейшаму *разглядае Rock volieb як каталізатар, які ператва*рыў моладзь ва ўплывовую палітычную сілу. Кампанія мае чысты імідж і дастаткова маркетынгавых якасьцяў, што робяць яе вартай самага дарагога этэрнага часу і месца ў друкаваных мас-мэдыях, а таксама дазваляюць прыцягнуць спонсараў і грамадзкія ахвяраваньні.

*У 2002 годзе задачы кампаніі некалькі зьмяніліся.* Шырокая кааліцыя будзе працаваць з дакладна вызначанымі мэтавымі групамі і засяроджвацца на палітычных праграмах у большай ступені, чым на эмоцыях, а таксама папулярызаваць інтэграцыйныя памкненьні Славакіі праз інфармаваньне аб тым, што пастаўлена на карту. Усё гэта павінна значна павысіць актыўнасьць выбаршчыкаў.

Кааліцыя прытрымліваецца погляду, што глыбока расчараваны электарат у меншай ступені схільны да зьменаў і патрабуе іншых, больш гнуткіх падыходаў да ўцягненьня ў палітычныя працэсы.

Кааліцыйная кампанія Rock volieb '02, якая была распрацаваная і скаардынаваная Pontis Foundation, - па сутнасьці непартыйная, скіраваная на выбаршчыкаў да 25 гадоў, г.зн. на 250 000 тых, хто будзе галасаваць упершыню. Як кароткатэрміновая гэтая мэта зразумелая: павялічыць колькасьць маладых людзей, якія ўдзельнічаюць у парлямэнцкіх выбарах 2002 г. у Славакіі.

*Як Pontis Foundation, так і шматлікія іншыя структуры разу*меюць, наколькі важна, каб актыўнасьць выбаршчыкаў, асабліва сярод маладых людзей, была максымальна высокай. Па-першае, гэта дапаможа спраўдзіць, што "воля *народу" сапраўды была выказаная падчас выбараў.* Па-другое, тое, як прагаласуюць маладыя людзі, пакажа накірунак, у якім будзе разьвівацца краіна ў бліжэйшай будучыні. Нарэшце, вядома, што нізкая палітычная актыўнасьць грамадзянаў, як і іх няўдзел у выбарах, спараджаюць нэгатыўныя тэндэнцыі ў грамадзтве, якія часта вядуць да экстрэмізму на палітычнай сцэне.

Праграма Rock volieb '02 прадугледжвае актыўнае ўцягненьне маладых людзей Славакіі ў фармаваньне доўгатэрміновай палітычнай будучыні краіны. Кампанія таксама павінна прывіць лідэрам краіны пачуцьцё адказнасьці за выкананьне волі моладзі ў адказ.

## ROCK VOLIEB '02

Кампанія Rock volieb '02 скіравана на стварэньне крытычнай масы інстытуцыяў і асобаў, адказных за непасрэдную



працу з маладымі людзьмі. Зразумелыя слоганы, каляровыя брашуры і мэдыя-падтрымка ўсё ж такі ня здолеюць заняць месца людзей, якія твар у твар размаўляюць зь іншымі маладымі людзьмі. Зыходзячы з гэтага, Rock volieb '02 актыўна супрацоўнічае з НА, мясцовымі клюбамі, знакамітасьцямі, прадстаўнікамі мэдыяў, моладзевымі групамі, рок-гуртамі і валянтэрамі, каб яны далучыліся да кааліцыі ў якасьці партнэраў.

Гэтыя групы даюць натхненьне, матывуюць ідэі, кантакты і прамую дапамогу ў агульных намаганьнях. Усе яны аб'яднаныя адным - жаданьнем пераканаць маладых людзей у неабходнасьці іх удзелу ў выбарах. Усе яны разумеюць, што павінны заставацца па-за партыйнымі агітацыйнымі кампаніямі і быць здольнымі прыдумаць і зарганізаваць такія акцыі, якія сапраўды прывядуць маладых людзей на выбарчыя ўчасткі.

Да кампаніі Rock volieb '02 будуць прыцягнутыя актывісты руху OTPOR! зь Югаславіі, якія дапамаглі зьвергнуць рэжым Мілошавіча, а таксама студэнцкія лідэры Аксамітнай рэвалюцыі 1989 г. у былой Чэхаславакіі.

## РЭКЛЯМА Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МАС-МЭДЫЯХ І PR

Ужо шмат разоў Rock volieb паказала, што яе здольнасьць прэзэнтаваць сваю асноўную ідэю ў фармаце высокаякаснай мэдыя-прадукцыі з прыцягненьнем вядомых артыстаў і спартоўцаў адкрывае сапраўды шырокія магчымасьці. Мэдыя бясплатна прадастаўляюць свой этэрны час ці зьмяншаюць кошты на рэкляму. У 1998 г. толькі з адным прыватным тэлеканалам удалося дамовіцца на этэрны час, роўны па кошце 2 млн. даляраў. Моцныя рэсурсы гэтага каналу (TV Markiza) былі падзеленыя паміж сябрамі кааліцыі Rock volieb, якія дзякуючы гэтаму здолелі эфэктыўна інфармаваць грамадзтва пра кампанію.

Сёньня Rock volieb '02 таксама вядзе перамовы з творчымі студыямі і прадусарамі ў Славаччыне і за мяжой для таго, каб і ў гэтым годзе максымальна выкарыстаць мэдыя-рэсурс у мэтах кампаніі. Важна, каб ідэі і якасьць прадукцыі задаволілі даволі высокія патрабаваньні арганізатараў кампаніі пры мінімальных коштах.

Rock volieb працягвае супрацоўнічаць з MTV Europe і іншымі арганізацыямі, уцягнутымі ў міжнародную праграму "Rock the Vote".

Rock volieb '02 пазыцыянуе маладых людзей як уплывовую палітычную сілу, галоўнага агента сацыяльных зьменаў у гісторыі 21 стагодзьдзя. Мэдыя-стратэгія кампаніі прадугледжвае набыцьцё аўтарскіх правоў на ўсю відэапрадукцыю, якая будзе дэманстравацца на дзяржаўнай тэлевізіі, прыватных тэлеканалах, а таксама распаўсюджвацца на відэакасэтах, што будуць выкарыстоўвацца падчас дэбатаў у школах.

## УРОКІ ROCK VOLIEB '98

**Думаць нацыянальна, дзейнічаць лякальна**
Кампанія павінна мець агульнанацыянальную стратэгію, якая адпавядае патрэбам краіны, аднак змадэлявана такім чынам, што можа праводзіцца на лякальным узроўні з улікам мясцовых асаблівасьцяў і мадыфікацыяў. Партнэрскія арганізацыі і валянтэры надаюць кампаніі вельмі важныя для яе пасьпяховасьці лякальную пэрспэктыву і ўзаконенасьць.

**Супрацоўніцтва**
Не спрабуйце матываваць ды інфармаваць усю краіну з адной крыніцы. Партнэрскія арганізацыі - НА, лякальныя клюбы, мастакі ды артысты, мясцовыя знакамітасьці, моладзевыя групы, музычныя гурты і валянтэры - гэта крыніца энтузіязму, натхненьня, матывацыі, ідэяў, кантактаў, арганізацыйных магчымасьцяў і, нарэшце, грошай для правядзеньня якаснай падзеі. Добра зарганізаваны партнэр, які мае разгалінаваныя кантакты, можа сапраўды вельмі дапамагчы, асабліва калі гэты партнэр і сам пляневаў правесьці падобную акцыю. Партнэрства зробіць увесь працэс больш эканамічным і эфэктыўным.

**Сьлёган і лёга кампаніі павінны быць зразумелымі і простымі**
Для стварэньня сьлёгану і лёга кампаніі можна і трэба выкарыстоўваць прафэсіяналаў. Сьлёган і лёга - гэта асноўныя, стартавыя пункты кампаніі. Гэта вобразы, якія альбо ўвойдуць у сьвядомасьць кожнага, альбо не.

**Кампанія павінна быць вясёлай**
Закранаючы вельмі сур'ёзныя праблемы, любая грамадзкая кампанія, каб стаць пасьпяховай, павінна ўтрымліваць лёгкія для ўспрыняцьця моманты. Культурніцкія падзеі, стыкеры, майкі - усё гэта можа быць вельмі карысным, калі падрыхтавана адпаведным чынам. Такія падзеі дапамагаюць актывістам размаўляць з мэтавымі групамі кампаніі на іх мове і працаваць такім чынам, каб прыцягнуць увагу СМІ і іншых моладзевых групаў. Знакамітасьці таксама зьяўляюцца цудоўным каналам для перадачы пасылу кампаніі, калі яны, вядома ж, разумеюць і вераць у сваю місію і задачы. Прыцягніце дзяцей у якасьці валянтэраў для раздачы інфармацыйнай прадукцыі і стыкераў. Ім сапраўды вельмі падабаецца гэта рабіць, а іх шчырая радасьць не павінна пакінуць раўнадушнымі дарослых адрасатаў.

**Каналы перадачы пасланьня кампаніі (message) павінны быць разнастайнымі**
Некаторыя людзі толькі глядзяць тэлебачаньне, некаторыя слухаюць радыё, некаторыя аддаюць перавагу газэтам, некаторыя наведваюць выключна музычныя шоў. Лепей, калі людзі даведваюцца пра вашую дзейнасьць з розных крыніцаў. Тады складаецца ўражаньне, што кампанія паўсюль.

**Актыўна выкарыстоўвайце сродкі масавай інфармацыі**
Сродкі масавай інфармацыі памнажаюць эфэкт пасланьня. Не забывайцеся праводзіць прэсавую канфэрэнцыю перад кожнай маштабнай ці важнай акцыяй. Знаходзьце розныя шляхі ўцягненьня мэдыяў непасрэдна ў саму падзею.





**Грамадзкая кампанія павінна мець непартыйны характар**
Гэта было адным з найважнейшых правілаў кампаніі Rock volieb. Маладыя людзі вельмі добра адчуваюць любога кшталту маніпуляцыі, арганізаваныя рацыянальна. Яны больш староўча рэагуюць на дзейнасьць групаў, якія не атаясамліваюцца з палітычнымі партыямі. Непартыйныя праекты могуць працягвацца і быць адлюстраванымі ў сродках масавай інфармацыі нават тады, калі палітычная кампанія спыняецца напярэдадні дня галасаваньня.

**Прыцягвайце да працы экспэртаў**
Экспэрты - гэта ня проста фантастычна карысны рэсурс для кампаніі. Яны да таго ж могуць вызначаць ключавыя для вашых мэтавых групаў тэмы і трансфармаваць іх у зразумелыя, "чапляючыя" пасланьні. Супольная праца з экспэртамі, асабліва з сацыёлягамі, палітолягамі, піаршчыкамі, маркетолягамі і рэклямшчыкамі дапаможа вам стварыць эфэктыўны, дынамічны і якасны прадукт.

**Выкарыстоўвайце прадукцыю толькі высокай якасьці**
Выбітная ідэя - гэта яшчэ ня ўсё. Дзеля таго, каб прыцягнуць максымум увагі, постэры, стыкеры, тэлевізійныя кліпы і радыёролікі павінны быць высокаякасным, прафэсійна зробленым прадуктам. Кантакты і здольнасьць весьці перамовы дазволілі Rock volieb атрымаць нацыянальную і міжнародную вядомасьць, аднак гэта стала магчымым таму, што кампанія здолела прапанаваць прафэсійны прадукт, адпаведны патрабаваньням і фармату нацыянальных мас-мэдыяў і MTV-Europe.

**Выкарыстоўвайце афіцыйныя дамовы**
Гэта сэканоміць вам шмат грошай і часу. За 5 хвілінаў свайго знаходжаньня на сцэне адна недысцыплінаваная рок-зорка можа зьвесьці на нуль агульныя намаганьні ўсіх арганізатараў акцыі. Тое самае тычыцца няўважлівых субкантракцёраў ці арганізацыяў. З дапамогай юрыстаў падрыхтуйце афіцыйныя дамовы, у якіх будуць указаныя правы і абавязкі кожнага з бакоў. Гэтыя дамовы павінны быць добра распрацаваныя і напісаныя зразумелай моваў. Досьвед Rock volieb паказаў, што фармальныя кантракты асабліва эфэктыўныя пры працы з артыстамі і знакамітасьцямі. Яны дапамогуць вам уплываць на тое, што яны будуць казаць са сцэны.

**Надзвычай важна правільна разьлічыць час**
Кампанія Rock volieb распрацоўвалася на працягу году, тым ня менш яе арганізатары знаходзіліся пад пастаянным прэсынгам. Таксама важна адзначыць, што грошы паступілі на банкаўскі рахунак Rock volieb толькі праз 6 месяцаў пасьля таго, як заяўкі былі ўпершыню дасланыя ў міжнародныя арганізацыі. Шэсьць тыдняў да выбараў - гэта час, калі асноўныя фінансавыя і чалавечыя рэсурсы павінны быць інвэставаныя ў кампанію. Арганізоўваць дарагія мерапрыемствы за 3 месяцы да выбараў - гэта марнаваньне грошай і часу. Фінальны канцэрт кампаніі Rock volieb адбыўся тады, калі палітычныя партыі ўжо ня мелі права весьці агітацыйную працу - за 48 гадзінаў да выбараў. Гэта дало ашаламляльныя вынікі: нашае пасланьне загучала яшчэ гучней і яшчэ больш пераканаўча, пазытыўны момант, створаны падчас канцэрту, расьцягнуўся на ўвесь час выбараў, а сродкі масавай інфармацыі вельмі доўга і актыўна асьвятлялі дадзеную падзею, паколькі пасьля спыненьня палітычнай кампаніі ў іх засталося мала тэмаў для рэпартажаў.

## ПАДЗЕІ ROCK VOLIEB '02

У межах кампаніі Rock volieb '02 за некалькі месяцаў да парлямэнцкіх выбараў па ўсёй Славаччыне будуць праведзеныя дзясяткі канцэртаў і акцыяў, арыентаваных на моладзь. Гэтыя падзеі дазволяць давесьці да моладзі патрэбную інфармацыю, раздаць інфармацыйныя і агітацыйныя матэрыялы. Вядомыя асобы і музыкі будуць таксама заклікаць моладзь узяць удзел у выбарах. Rock volieb '02 пабудаваная на пераканаьні, што калі адрасаваць маладым людзям выбарчы пасыл у тыя моманты, калі яны добра бавяць час, то працэдура галасаваньня будзе асацыявацца з моднай і "крутой" (у добрым сэнсе гэтага слова) справай.

*Аўтобусны тур Rock volieb '02 уключае ў сябе:*
- наведваньне 20 гарадоў на працягу 40 дзён да выбараў;
- прыватныя, непасрэдныя кантакты з маладымі выбаршчыкамі;
- арганізацыя розных акцыяў і дзейнасьці супольна зь мясцовымі партнэрскімі арганізацыямі;
- спалучэньне забаўляльных і культурніцкіх мерапрыемстваў з адукацыйнай дзейнасьцю, якая павінна стымуляваць пераtварэньне моладзі ва ўплывовую палітычную сілу.

## КАМПАНІЯ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

Мэта кампаніі ў інтэрнэце (www.rockvolieb.sk) - дайсьці да маладога выбаршчыка індывідуальна, і ўсё ж такі ідэнтыфікуючы яго з пэўнай групай - сябрамі, калегамі і царкоўнай супольнасьцю. На вэб-старонцы будзе прадстаўлены "cool staff", які будзе дэманстраваць, што палітыка і палітыкі могуць быць цікавымі. Наведнікі таксама змогуць атрымаць важную інфармацыю пра тое, як, дзе і чаму трэба галасаваць.

Арганізатары Rock volieb пераканаy: каб дасягнуць маладых выбаршчыкаў, трэба размаўляць зь імі на адной мове. Гэта азначае, што фармат, у якім будзе даносіцца важная інфармацыя пра палітыку і палітыкаў, павінен быць лёгкім, забаўляльным ды інавацыйным.

Моладзь уяўляе сабой лепшую надзею на будучыню. Моладзь думае найбольш прагрэсіўна, яна натуральна прасьцей успрымае новыя ідэі і новыя шляхі мысьленьня, якія дапамогуць справіцца з тымі палітычнымі і эканамічнымі выклікамі, што чакаюць нас наперадзе.

***Марэк Капуста,***
***каардынатар праграмы Rock volieb '02***
*(Паводле "NGO News")*

# ГРАНТЫ І МАГЧЫМАСЬЦІ

**Міжнародны цэнтар некамэрцыйнага права (International Center for Non-Profit Law)**

у рамках праграмы дасьледчых стыпэндыяў прымае заяўкі ад навукоўцаў і практыкаў з краінаў Цэнтральнай і Усходняй Эўропы з мэтай аказаньня падтрымкі дасьледніцкім праектам, якія будуць садзейнічаць росту і разьвіцьцю грамадзянскай супольнасьці ў названым рэгіёне.

**Падрабязнасьці:**
Tel: +36 1 318 69 23
Fax: +36 1 266 14 79
www.icnl.hu

Праграма грантаў на 2002 г. фундацыі

**Charity Know How**

прадастаўляе малыя гранты (да 15,000 фунтаў) для правядзеньня праектаў па абмене досьведам і практычнымі навыкамі паміж НА з розных краінаў Цэнтральнай і Усходняй Эўропы і новых незалежных дзяржаваў. Новая праграма Глябальных Грантаў таксама скіравана на ўсталяваньне сувязяў паміж арганізацыямі гэтага рэгіёну і Азіяй, Афрыкай ды Лацінскай Амэрыкай.

Тэрмін падачы заявак - **да 27 жніўня 2002.**

**Падрабязнасьці:**
enquiries@allavida.org
www.allavida.org

**Міжнародны Цэнтар правоў чалавека і дэмакратычнага разьвіцьця (International Centre for Human Rights and Democratic Development)**

штогод прадастаўляе ўзнагароду John Humphrey Award арганізацыі ці чалавеку зь любой краіны ці рэгіёну сьвету за выбітныя дасягненьні ў прамоцыі правоў чалавека і дэмакратычнага разьвіцьця.

**Падрабязнасьці:**
Tel: +1 514 783 60 73
Fax: +1 514 283 37 92
ichrdd@ichrdd.ca
www.ichrdd.ca

**Балканская Фундацыя Дзяцей і Моладзі (The Balkan Children and Youth Foundation),**

якая знаходзіцца ў Скоп'і (Македонія), - гэта арганізацыя, што паўстала ў выніку інтэнсіўнага дыялёгу і дасьледаваньняў розных грамадзкіх, прыватных і няўрадавых арганізацыяў. Фундацыя імкнецца да актыўнага супрацоўніцтва з моладзевымі ініцыятывамі зь іншых частак Эўропы і сьвету.

**Падрабязнасьці:**
Balkan Children and Youth Foundation
11 Oktomvri No. 9, 6th floor
1000 Skopje, Macedonia
Tel: +389 2 122 704
Fax: +389 2 122 705
bcyf@balkanyouth.org
www.balkanyouth.org

**The Fulbright Scholar Program for Faculty and Professionals**

прадастаўляе фінансавую дапамогу для правядзеньня навуковых дасьледаваньняў, лекцыйнай і навукова-выкладчыцкай дзейнасьці балтыйскім краінам, новым незалежным дзяржавам і краінам Цэнтральнай і Усходняй Эўропы. Дапамога прадастаўляецца на тэрмін ад 2 да 10 месяцаў і разьлічаная на шырокі спэктар дысцыплінаў.

Тэрмін падачы заявак - **да 1 жніўня 2002.**

**Падрабязнасьці:**
apprequest@cies.iie.org
www.cies.org

Фонд

**National Endowments for Democracy**

абвесьціў праграму стыпэндыяў Reagan_Fascell Democracy Fellows Program, мэтай якой зьяўляецца падтрымка актывістаў НА, навукоўцаў і журналістаў з усіх краінаў сьвету ў іх імкненьні паглыбіць сваё разуменьне дэмакратыі і ўзмацніць свае здольнасьці па папулярызацыі ідэяў дэмакратычных зьменаў.

Асабліва да ўдзелу ў праграме запрашаюцца актывісты грамадзкіх арганізацыяў, якія сваёй практычнай дзейнасьцю спрыяюць працэсу дэмакратызацыі Беларусі і распаўсюду дэмакратычных каштоўнасьцяў у беларускім грамадзтве.

Тэрмін падачы заявак - **да 17 верасьня 2002 г.**

**Падрабязнасьці:**
Fax: +1 202 223 60 42
fellowships@ned.org
www.ned.org

Рубрыка падрыхтавана на аснове матэрыялаў "NGO News" (a Regional Newsletter for CEE and NIS Non-Governmental Organizations), што выдаецца Freedom House (Будапэшт).





# МАЛЫЯ ГРАНТЫ АД COTTONWOOD FOUNDATION

***Працягваецца праграма малых грантаў ад Cottonwood Foundation. Гранты памерам да $1000 прадастаўляюцца такім грамадзкім арганізацыям, для якіх гэтая сума можа сапраўды забясьпечыць сур'ёзныя зьмены.***

***Cottonwood Foundation*** - гэта дабрачынная арганізацыя, заснаваная ў ЗША ў 1992 годзе. З гэтага часу ёй было выдзелена 210 грантаў на суму болей як $175,000. Фонд выдае гранты памерам ад $500 да $1,000 невялікім грамадзкім арганізацыям з усіх краінаў сьвету. У сярэднім падтрымліваецца адна зь 10 дасланых заявак на грант.

### *Як вырашыць, ці варта падаваць заяўку на грант у Cottonwood Foundation?*

Фонд мае ў сваім распараджэньні вельмі абмежаваны бюджэт, і таму прадастаўляе гранты толькі тым арганізацыям, чые заяўкі адпавядаюць усім чатыром крытэрам, пададзеным ніжэй:
- абарона навакольнага асяродзьдзя;
- распаўсюджваньне і разьвіцьцё культурнай разнастайнасьці;
- забесьпячэньне асноўных патрэбаў людзей;
- выкарыстаньне ў сваёй працы валянтэраў.

У 2002 годзе будзе падтрымана каля 40 праектаў.

### *Прыкладныя віды дзейнасьці, якія могуць быць прафінансаваныя:*

- пасадка дрэваў, азеляненьне;
- набыцьцё зямлі;
- будаўніцтва;
- набыцьцё інструмэнтаў, абсталяваньня, насеньня, жывёлаў;
- правядзеньне трэнінгаў;
- узнаўленьне экасыстэмаў;
- набыцьцё альтэрнатыўных сыстэмаў выпрацоўкі электраэнэргіі.

Таксама фінансуюцца праекты на агульную падтрымку дзейнасьці, асабліва для арганізацыяў з малымі бюджэтамі.

### *Тэрміны падачы і разгляду заявак на гранты*

Заяўкі на гранты прымаюцца на працягу ўсяго 2002 году. На працягу 6 месяцаў з моманту атрыманьня заяўкі на грант заяўляльнік атрымае паведамленьне, ці быў падтрыманы яго праект.

### *Працэдура падачы заяўкі на грант*

Падаваць заяўкі на грант могуць як зарэгістраваныя, так і незарэгістраваныя грамадзкія арганізацыі.

Тэкст заяўкі на грант павінен быць напісаны на ангельскай мове. Таксама неабходна запоўніць Cottonwood Foundation Payment Form. Як форму заяўкі на грант, так і Cottonwood Foundation Payment Form можна знайсьці на вэб-старонцы фонду: www.cottonwoodfdn.org

Арыгінал заяўкі на грант, завераны подпісам кіраўніка арганізацыі, неабходна даслаць у фонд па пошце.

### *Гэта важна*

- Калі заяўка падаецца новай арганізацыяй, то неабходна прадаставіць плянуемыя крыніцы фінансаваньня з прыкладным агульным бюджэтам і тыпы выдаткаў, якія былі зробленыя ў першы і другі фіскальныя гады (калі магчыма).
- Фонд не фінансуе рэлігійныя і палітычныя арганізацыі, дзяржаўныя і бізнэс структуры, прыватных асобаў і ўнівэрсытэты.

***Паштовы адрас: Cottonwood Foundation, Box 10803, White Bear Lake, MN 55110 USA***
***Tel. (+651) 426 87 97***
***Fax: (+651) 426 03 20***
***cottonwood@igc.org***
***www.cottonwoodfdn.org***

# Рэлігія ці ідэалёгія

## сталі прадметам новага закону аб свабодзе сумленьня?

Алесь Вернік

На жаль, такі падыход сёньня вызначае палітыку ў сфэры дзяржаўна-царкоўных стасункаў. Улада зыходзіць з таго, што першасным абавязкам дзяржавы ёсьць клопат пра "агульную карысьць", г.зн. рэглямэнтаваньне ўсіх сфэраў жыцьця, у тым ліку і рэлігійнай.

Каб зразумець, якія баталіі адбываюцца сёньня ў зьвязку з прыняцьцем Палатай прадстаўнікоў у другім чытаньні Закону "Аб свабодзе сумленьня і рэлігійных аб'яднаньнях", варта зірнуць у сівую гісторыю. На жаль, не ў гісторыю Вялікага княства Літоўскага, традыцыі якога для сучаснай улады беззваротна згубленыя, а ў гісторыю Расейскай імпэрыі, парадыгму якой нам хочуць навязаць.

Спробы падначаліць сабе царкву, зрабіць яе ідэалягічным інструмэнтам у руках дзяржавы былі заўжды. Досьвед такога "супрацоўніцтва" мы можам знайсьці ў Расеі якога стагодзьдзя, дзе цягам двухсот гадоў праваслаўнай царквой кіраваў імпэратар, яе дзейнасьць рэглямэнтавалася законамі дзяржавы, а гіерархія прызначалася Сынодам (дзяржаўнай установай па справах праваслаўнай царквы). У сваю чаргу, пазбаўленая ўсіх правоў Расейская праваслаўная царква (РПЦ) у абмен атрымала прывілеі асноўнай дзяржаўнай ідэалёгіі і "другога саслоўя". Але самым важным для праваслаўнай гіерархіі сталася адміністратыўна-крымінальная абарона царквы ад іншаслоўя і іншаверцаў. Дзяржава абараняла сваю ідэалёгію ад любых замахаў. Так, напрыклад, за пераход з праваслаўя ў іншыя хрысьціянскія канфэсіі "вінаватаму" пагражала да 10 гадоў катаргі, а таму, хто "схіліў" праваслаўнага да адступленьня - увогуле 25 год (гл. Звод законаў Расейскай імпэрыі (1825)). Ня мае сэнсу пералічваць усе тэрміны, якія абяцалі іншадумцам за казаньні веры, за распаўсюд літаратуры, за рэлігійныя зборы і іншае.

***Нягледзячы на тое, што семдзесят з гакам год мы будавалі мітычнае "безрэлігійнае грамадзтва", дамінуючая рэлігія ў краіне Саветаў усё ж такі прысутнічала. І ня проста прысутнічала, а сапраўды дамінавала, падаўляла любое выяўленьне іншай веры. Адмаўляючы існаваньне Бога, атэізм засноўваецца на ўласнай сыстэме вераваньняў, яго асноўная адрознасьць ад іншых рэлігіяў у тым, што ўсе вераць у існаваньне Бога, а атэісты вераць у тое, што Бога няма. І там і там прысутнічае вера, якая ляжыць у аснове любой рэлігіі. Таму для мяне як чалавека, які верыць, рэлігійная арыентацыя прэзыдэнта Лукашэнкі - "праваслаўны атэіст" - гучыць гэтак жа бязглузда, як "штангіст-дыстрофік", "прыгожы выраад" ці "жывы труп".***

Сёньня, калі беларускія ўлады знаходзяцца ў ідэалягічным крызісе і ня ў стане прапанаваць народу зразумелую нацыянальную ідэю, ім патрэбная падпорка, на ролю якой натрэніраваная ў гэтых справах праваслаўная гіерархія ідэальна падыходзіць. Тым больш, што многія яшчэ давяраюць царкве, чаго ня скажаш аб прадстаўніках дзяржаўнай улады. Адзінай перашкодай на шляху адзяржаўленьня рэлігійных адносінаў ёсьць Закон "Аб свабодзе сумленьня і рэлігійных арганізацыях" 1992 году - Канстытуцыя 1994 году, якая дэкляравала раўнапраўе рэлігіяў, пасьпяхова ліквідаваная рэфэрэндумам 1996 году.

Калі Канстытуцыя 1994 году абвяшчала роўнасьць усіх рэлігіяў - "Усе рэлігіі і веравызнаньні роўныя перад законам. Наданьне якіх-небудзь перавагаў або абмежаваньняў адной рэлігіі або веравызнаньня ў адносінах да іншых не дапускаецца" (арт. 16), - то новая рэдакцыя ўжо не такая катэгарычная: "Рэлігіі і веравызнаньні роўныя перад законам. Узаемаадносіны дзяржавы і рэлігійных арганізацыяў рэгулююцца законам з улікам іх уплыву на фармаваньне духоўных, культурных і дзяржаўных традыцыяў беларускага народу" (той жа арт. 16). Як той казаў, адчуйце розьніцу.

Падмурак забароны на свабоднае веравызнаньне быў закладзены даўно, трэба было толькі прывесьці ў адпаведнасьць профільны закон. З 1997-га над ім працавалі спэцыялісты Камітэту па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў сумесна з Цэнтрам заканадаўчай дзейнасьці пры Прэзыдэнце. У выніку ў іх атрымалася дзіўнае дзіця-вырад: спроба з хлопчыка зрабіць дзяўчынку была амаль пасьпяховай. У новым Законе няма ніводнага артыкула, які б ня быў зьменены. І як зьменены! Калі новы Закон "Аб свабодзе сумленьня і рэлігійных аб'яднаньнях" уступіць у сілу, самы час будзе ініцыяваць зьмены Крымінальнага Кодэксу - спатрэбяцца артыкулы, выкінутыя Лютаўскай рэвалюцыяй са Зводаў законаў Расейскай імпэрыі.

Закатаваныя барацьбой з празэлітызмам, чыноўнікі Камітэту адкрыта прызнаюць тое, што новы закон ім патрэбны гэтак жа моцна, як некалі Гітлеру - Фаў-2. Бяз супэрзброі "защитить историческое присутствие православия" не атрымаецца. Але так і не зразумела: дзеля чаго, абараняючы інтарэсы замежнай РПЦ, трэба груба парушаць правы ўласных грамадзянаў?

Асновы рэлігійнай дыскрымінацыі закладзеныя ўжо ў прэамбуле, якая, па сьцьвярджэньнях распрацоўшчыкаў, проста капіюецца з Канстытуцыі. Але ў Канстытуцыі 1996 году гэтая фраза гучыць так: "Узаемаадносіны дзяржавы і рэлігійных арганізацыяў рэгулююцца законам з улікам іх уплыву на фармаваньне духоўных, культурных і дзяржаўных традыцыяў беларускага народу" (арт. 16, ч.2), а ў Законе: "...вызначае прававыя асновы стварэньня і дзейнасьці рэлігійных арганізацыяў з улікам іх уплыву на фармаваньне духоўных, культурных і дзяржаўных традыцыяў беларускага народу". Яшчэ раз адчуйце розьніцу.



фота IREX/ProMEDIA

Новы закон пазбаўляе вернікаў асноўных правоў: права на свабоду слова (згодна арт. 28 ч.2, толькі "органы кіраваньня рэлігійных аб'яднаньняў маюць права ствараць сродкі масавай інфармацыі"), на свабоду сходаў (згодна арт. 26 "рэлігійныя абрады, рытуалы, цырымоніі пры неабходнасьці могуць праводзіцца па месцы жыхарства грамадзянаў па іх просьбе пры ўмове захаваньня правоў агульнага жыхарства і грамадзкага парадку, калі яны ня носяць масавага і сыстэматычнага характару"), канстытуцыйнае права на свабоду распаўсюду сваіх перакананьняў, уводзіцца рэлігійная цэнзура (арт. 27: "Імпартаваць і распаўсюджваць рэлігійную літаратуру, друкаваныя, аўдыё-, відэаматэрыялы рэлігійныя аб'яднаньні могуць толькі пасьля правядзеньня рэлігіязнаўчай экспэртызы").

Павелічэньне патрэбнай колькасьці заснавальнікаў (арт. 14, ч. 2 "Рэлігійная грамада ўтвараецца па ініцыятыве ня менш за 20 грамадзянаў Рэспублікі Беларусь") прывядзе да закрыцьця велізарнай колькасьці прыходаў ва ўсіх канфэсіях. У асноўным гэта будзе тычыцца тых маленькіх вясковых суполак, дзе сярэдні ўзрост вернікаў вагаецца ад 65 да 80 гадоў. Гэта ўскладняецца яшчэ і тым, што сьвятар рэлігійнага аб'яднаньня нават зрэдку ня будзе мець права наведваць такіх старых (арт. 15 ч. 3 "Дзейнасьць рэспубліканскага рэлігійнага аб'яднаньня распаўсюджваецца на тэрыторыю рэлігійных суполак, якія ўваходзяць у яго").

Гэта толькі невялікая частка таго, што выклікала неразуменьне рэлігійных арганізацыяў (апрача РПЦ) і абумовіла сур'ёзны адкат ад дэмакратычных прынцыпаў у часы савецкага мінулага. Улада да такой ступені ня ўпэўненая, што гэта ёй сыдзе з рук, што нават падрыхтоўка і прыняцьце Закону праходзілі ў вялікай тайне і зь дзікай сьпешкай. Гэта, па словах аднаго з чыноўнікаў, якія прагучалі ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, зьвязана з тым, што "общественное мнение по данному законопроекту еще не сформировалось".

Падрыхтоўка да зьменаў рэлігійнага заканадаўства пачалася яшчэ ў 1996 годзе, але прадстаўнікі рэлігійных аб'яднаньняў

выпадкова даведаліся пра гэта толькі напярэдадні яго паступлення ў Палату. Па гарачых сьлядах (у лістападзе 2001) быў праведзены "круглы стол" з удзелам усіх хрысьціянскіх канфэсіяў і зацікаўленых дзяржаўных органаў. Ні прадстаўнікі РПЦ, ні прадстаўнікі Камітэту па справах рэлігіяў не знайшлі часу прыйсьці на сустрэчу. Па выніках быў падрыхтаваны Зварот да прэзыдэнта, ураду і да дэпутатаў, у якім сьвятары прасілі агучыць працэс прыняцьця закону. Адказам стаўся ліст з профільнага камітэту, агульная сутнасьць якога зводзілася да "нецелесообразности широкого обсуждения законопроекта".

Адразу пасьля таго, як закон "Аб свабодзе сумленьня і рэлігійных аб'яднаньнях" быў унесены ў парадак дня вясновай чацьвертай сэсіі Палаты прадстаўнікоў, пачалася шырокая акцыя грамадзкага супрацьстаяньня. Толькі за красавік у розныя дзяржаўныя органы і дэпутатам было накіравана больш за 3000 зваротаў грамадзянаў з просьбай не разглядаць закон і вярнуць яго на дапрацоўку. З кожным месяцам колькасьць зваротаў павялічвалася, але рэакцыі не было. Афіцыйныя звароты рэлігійных арганізацыяў былі цалкам праігнараваныя.

Тым часам Камітэт па справах рэлігіяў стаў адкрыта выказвацца пра існаваньне ў краіне палітыкі стрымліваньня росту пратэстанцкіх суполак. А перад тым, як адбылося першае чытаньне закону ў ніжняй палаце парлямэнту, Мітрапаліт Філярэт запрасіў да сябе больш за 50 дэпутатаў. На гэтай сустрэчы народным абраньнікам быў паказаны фільм "Экспансия" (вытворчасьць - Беларускае тэлебачаньне), сумна вядомы па хлусьлівых і ідыятычных выпадах супраць неправаслаўных канфэсіяў. Вынікам усяго гэтага сталася тое, што ўжо 30 траўня Закон "Аб свабодзе сумленьня і рэлігійных аб'яднаньнях" быў прыняты ў першым чытаньні.

Ад пачатку чэрвеня грамадзянамі розных рэлігійных канфэсіяў пры падтрымцы Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў была створана грамадзянская ініцыятыва "За свабоднае веравызнаньне", якая 24 чэрвеня ў памяшканьні Нямецкага адукацыйнага цэнтру правяла грамадзкія слуханьні, на якія былі запрошаныя дэпутаты, распрацоўшчыкі закону, прадстаўнікі рэлігійных арганізацыяў. На жаль, прадстаўнікі Камітэту аказаліся пасьлядоўнымі і завочна назвалі тых, хто мусіў сабрацца ў IBB, "балаболами и крикунами", пакінуўшы свае месцы ў залі вольнымі. Па выніках слуханьняў быў распрацаваны і падпісаны 69 удзельнікамі зварот да прэзыдэнта, парлямэнту і ўраду з просьбай прыпыніць прыняцьце закону і выслухаць думку канфэсіяў.

26 чэрвеня, у дзень прыняцьця закону "Аб свабодзе сумленьня і рэлігійных аб'яднаньнях" у другім чытаньні, прадстаўнікі ініцыятывы распаўсюдзілі гэты зварот сярод дэпутатаў - гэта выклікала бурную рэакцыю ў Авальнай залі, якая дайшла да сур'ёзных слоўных і фізычных баталіяў. На гэткім эмацыйным фоне дэпутаты вырашылі перанесьці слуханьні на восень. Але ўжо назаўтра група дэпутатаў, сабраўшы неабходныя подпісы, змагла "перакана́ць" спадара Канаплёва ў тым, што законапраект трэба разглядаць зараз жа. Гэта было з посьпехам зроблена. Перад пачаткам "абмеркаваньня" дэпутат Абрамава ў знак пратэсту пакінула Авальную залю, папярэдне патлумачыўшы калегам, што Палата цалкам кіруемая, і дэпутатка ня будзе браць удзел у такім фарсе, але гатовая падзяліць зь іншымі дэпутатамі адказнасьць за надыходзячыя сацыяльныя страсеньні, бо не змагла пераканаць абранцаў народу не прымаць закон зараз.

Але Савет Рэспублікі, які ўжо на наступны дзень меў скандальны закон на руках, так і не пасьпеў яго адобрыць.

Што ж тады гэта было? Нагадаю, 26 чэрвеня ў Палаце лік быў "43:60" на карысьць супрацiўнікаў закону. Гэтыя лічбы не задаволілі сьпікера сп. Папова, які чатыры разы спрабаваў перагаласаваць - не атрымалася. Але ўжо 27 чэрвеня лік рэзка памяняўся - "84:2" на карысьць прыняцьця закону ў гэтую самую хвіліну. Тая ж лічба была пры галасаваньні за сам закон. Рэзкія перапады настрояў? Назіральнікі тлумачаць гэта ў іншым, больш празаічным сьвятле: папросту раніцай 27 чэрвеня ў Палату вярнуўся Ўладзімер Канаплёў, галоўны палатачны ідэоляг дзяржаўна-царкоўнай рэформы, які асабіста паабяцаў Мітрапаліту прыняць закон "Аб свабодзе сумленьня і рэлігійных аб'яднаньнях" усімі праўдамі і... Вы ж ведаеце, што абяцаньне для джэнтэльмэна - закон: другое чытаньне аказалася гладкім і хуткім.

Што будзе ўвосень? Пакуль шляхоў развіцьця сытуацыі два: закон будзе адпраўлены Саветам рэспублікі на дапрацоўку альбо ўступіць у сілу. Калі адбудзецца апошняе, тысячы вернікаў апынуцца па-за законам, і мы вернемся назад, у старыя добрыя часы, калі казалі "вернік", а мелі на ўвазе "злачынца", калі казалі "атэіст", а мелі на ўвазе "праваслаўны". Адзіная надзея на Бога.





# ВЭВЭВЭ. МАДЭМ. БАЙ

## Гарадзенцы рызыкуюць памахаць ручкай таннаму інтэрнэту

Янка Воран

***У траўні інтэрнэт-цэнтар "Мадэм" адкрыў сваю новую пляцоўку ў памяшканьні Гарадзенскай абласной бібліятэкі імя Карскага. На новай бібліятэчнай інтэрнэт-пляцоўцы для карыстальнікаў арганізацыя ўсталявала пяць новенькіх "сэлеронаў". Унікальнасьць сытуацыі ня толькі ў тым, што ў якасьці фундатара выступіла грамадзкая арганізацыя: бібліятэка імя Карскага стала апошняй у рэспубліцы з абласных, якая ў рэшце рэшт таксама далучылася да сусьветнага павуціньня. Тым часам над ініцыятарамі і ажыцьцяўляльнікамі адукацыйнай акцыі, аб'яднаньнем "Мадэм", навісла пагроза закрыцьця.***

Інтэрнэт-цэнтар здымае памяшканьне бібліятэкі на падставе дамовы аб супрацоўніцтве. Паводле яе, "Мадэм" замест арэнднай платы прадастаўляе тры гадзіны бясплатнага доступу ў інтэрнэт для бібліятэкі. У гэты час для супрацоўнікаў бібліятэкі зноў жа "Мадэм" і зноў жа задарма праводзіць трэнінгі па аваладаньні асновамі працы ў інтэрнэце. Апроч гэтага, па словах кіраўнічкі грамадзкай арганізацыі Валянціны Суворынай, арганізацыя плянуе дапамагчы бібліятэцы стварыць сайт і актывізаваць ейны электронны каталог.

Дырэктарка абласной бібліятэкі Лідзія Мальцава мяркуе, што пасьля таго, як курс навучаньня пройдуць усе супрацоўнікі бібліятэкі, бясплатным інтэрнэтам, магчыма, змогуць карыстацца і асобныя яе чытачы. Але гэта толькі "магчыма", і як будзе праходзіць адбор такіх чытачоў, дырэктарка яшчэ ня ведае. Ды й будзе гэта відавочна ня хутка: у бібліятэцы працуе больш за сотню чалавек, а на трэнінгах штотыдзень займаюцца толькі па чатыры чалавекі.

Даць ацэнку дзейнасьці "Мадэма" ў сьценах бібліятэкі спадарыня Мальцава пакуль не сьпяшаецца.

- Рана яшчэ казаць нешта. Дамова аб супрацоўніцтве падпісаная пакуль на год. Паглядзім там, як яно будзе, - гаворыць яна.

Трэба адзначыць, што на дадзеным этапе з чытачамі бібліятэкі інтэрнэт-цэнтар зьвязаны больш-менш. Білет чытача не дае права карыстаньня рэсурсамі інтэрнэт-пляцоўкі. У бібліятэчнай філіі дзейнічае такі ж самы прынцып карыстаньня інтэрнэтам, як і ў астатніх філіях "Мадэма": усе карыстальнікі інтэрнэту аўтаматычна запісваюцца ў сябры арганізацыі. Інтэрнэт абыходзіцца ім у 10 тысячаў рублёў штомесяц (займацца можна мінімум па 5 гадзінаў на тыдзень). Школьнікам на летнія канікулы зробленая зьніжка ўдвая. Інтэрнэт, безумоўна, танны. У той самы час на "Белпаку" штомесячнае задавальненне палазіць па сетцы каштавала б пад 30 тысячаў рублёў. Таму карыстальнікі новай інтэрнэт-пляцоўкі відавочна задаволеныя.

- Танна, хутка і галоўнае - зручна! - кажа Зьміцер, адзін зь сяброў "Мадэма".

Зараз кіраўніцтва "Мадэма" актыўна распрацоўвае ідэю пашырэньня сфэры дзейнасьці ня толькі на цэнтар рэгіёну, але і на ўсю Гарадзенскую вобласьць. Яшчэ год таму цэнтар распачаў працэдуру перарэгістрацыі, якая дазволіла б яму мець іншыя падраздзяленьні. У сакавіку гэтага году "Мадэм" адкрыў сваю філію ў Ваўкавыскай гарадзкой бібліятэцы і цягам году плянуе атабарыцца ў Смаргоні, Лідзе і Слоніме.

Па словах спадарыні Суворынай, пры стварэньні новай пляцоўкі ў гарадзенскай бібліятэцы яе арганізацыя кіравалася жаданьнем пашырыць ільготнае карыстаньне інтэрнэтам для гарадзенскай моладзі і разгрузіць сваю асноўную базу, якая месьціцца ў памяшканьні Гарадзенскага мэдычнага ўнівэрсытэту. Там цэнтар мае 24 машыны. Кожны месяц імі карыстаецца да 90 чалавек, што відавочна перагружае інтэрнэт-пляцоўку.

Арганізацыя расьце, шырыцца і разьвіваецца далей, з чым яе можна было б толькі павіншаваць. Калі б не адно "але", зь якім большасьць беларускіх НДА сутыкаецца пастаянна. Напрыканцы траўня за нямэтавае выкарыстаньне памяшканьня мэдычнай установы "Мадэм" атрымаў штраф - больш за 800 тысячаў рублёў. Нагодай для такіх мераў стала адна з апошніх пастановаў прэзыдэнта Беларусі, паводле якой мэдычныя ўстановы маюць права займацца выключна мэдычнай. Праўда, так і не зразумела, чаму аштрафавалі менавіта арганізацыю. Спадарыня Суворына даць які-небудзь камэнтар і праліць сьвятло на гэтую справу катэгарычна адмовілася:

- Гэта справа палітычная... Я баюся зачапіць якога-небудзь чыноўніка...Усе камэнтары толькі пасьля таго, як я разьбяруся са штрафам.

Відавочна адно: цяпер "Мадэм" кінуў сілы не на адукацыю "імбрыкаў", а на збор сродкаў, каб выплаціць штраф. Тым часам на інтэрнэт-пляцоўцы, што месьціцца ў абласной бібліятэцы, сёньня працуе больш за 20 чалавек. Нават пасьля навучаньня ўсіх супрацоўнікаў месца ў інтэрнэце для 48 тысячаў абанэнтаў установы будзе яўна не хапаць. А на адкрыцьцё самастойнай інтэрнэт-пляцоўкі бібліятэка сродкаў ня мае, і чакаць іх няма адкуль. Кола замкнулася... Так што гарадзенскім чытачам даводзіцца пакуль толькі чакаць і спадзявацца на тое, што "Мадэм" усё ж не прыкрыюць.

# Інструкцыя па выжываньні

## што рабіць, калі на ваш офіс напалі

Юры Чавусаў

**Па ацэнках некаторых экспэртаў, апошнім часам рэйтынгі ТБ-праграмаў, якія асьвятляюць крымінальную тэматыку, зьніжаюцца. Цяжка патлумачыць, з чым гэта зьвязана, але можна адназначна меркаваць, што рэйтынгі панізіліся ў тым ліку за кошт прадстаўнікоў беларускага "трэцяга сэктару". Бадай што ніводная бэтэшная "Зона Х" не параўнаецца са штодзёнымі рэаліямі, якія пагражаюць айчынным няўрадавым арганізацыям. Для нас актуалізуецца тэрмін "прафэсійная рызыка ў "трэцім сэктары".**

Толькі за апошні год вобшукі і разнастайныя праверкі з выняткамі аргтэхнікі і кампутарнага абсталяваньня рабіліся ў менскіх офісах Задзіночаньня беларускіх студэнтаў і Моладзі АГП, у моладзевым цэнтры "Гарт" і ГА "Грамадзянскія Ініцыятывы" (Гомель), гарадзенскім аб'яднаньні "Ратуша", рэдакцыях незалежных газэтаў "Шклоўскія навіны" (Шклоў), "Вольны Горад" (Крычаў), "Беларускі Ўсход" (Хоцімскі раён), "Наша Свабода" і "Народная Воля". У ільвінай долі выпадкаў сканфіскаванае абсталяваньне не было вернутае.

Падставы для такіх дзеяньняў былі самыя розныя, напрыклад, у згаданых гомельскіх выпадках - пастанова сьледчага на правядзеньне вобшуку па справе, якая ідавочна ня тычылася НДА. Складаецца ўражаньне, што кімсьці распрацавана пара-тройка стратэгіяў па перасьледзе непажаданых асобаў: спачатку пад выглядам сьледчых дзеяньняў па нейкай справе цягаюць на допыты сябраў арганізацыі ці праводзяць вобшук, а потым, калі дастатковая колькасьць матэрыялаў сабраная, распачынаецца крымінальны перасьлед сябраў арганізацыі ці працэдура ліквідацыі НДА. Прыкладна так разгортваліся падзеі ў справе гарадзенскай газэты "Пагоня".

Пад выглядам праверкі пашпартнага рэжыму (гэтае словазлучэньне на слыху, але ніякімі актамі заканадаўства такое працэсуальнае дзеяньне не прадугледжваецца) міліцыя наведвалася па месцы пражываньня лідэра гомельскіх "Грамадзянскіх Ініцыятываў" Віктара Карніенкі, прадстаўніка ПЦ "Вясна" ў Кобрыне Станіслава Чарняўскага, прадстаўніка ПЦ "Вясна" ў Сьветлагорску Віктара Раманішкі.

Падчас прэзыдэнцкай кампаніі неаднаразова рабіліся супрацьзаконныя дагляды аўтамабіляў актывістаў штабаў кандыдатаў з наступнай канфіскацыяй знойдзеных агітацыйных матэрыялаў. Праўда, такія дзеяньні наўрад ці можна назваць канфіскацыяй: падчас іх не складаліся нават пратаколы.

Шэраг непрыемнасьцяў вянчае ці ня самая вялікая, якая нясе небясьпеку ня толькі маёмасьці арганізацыі і асабістай свабодзе яе сябраў, але і іх здароўю і нават жыцьцю. Гаворка вядзецца пра крымінальны напад.

### ЯК АБАРАНІЦЬ ШТАБ-КВАТЭРУ АРГАНІЗАЦЫІ

За апошні год ад крадзяжоў і нападаў крымінальнікаў найбольш пацярпела незалежная прэса: "Дзень" (двойчы), аршанская "Куцейны", магілёўская "Дэ-факто", маладзечанская "Рэгіянальная газэта" і рэдакцыя газэты "Вольнае Глыбокае". Адбыўся пагром у офісе Свабоднага прафсаюзу Менскага трактарнага заводу. Быў абрабаваны офіс берасьцейскага аддзяленьня ПЦ "Вясна" і прадстаўніцтва міжнароднага грамадзкага аб'яднаньня "Місія дапамогі зьняволеным". У апошнім выпадку скрадзеную кампутарную тэхніку выносілі праз прахадную, дзе пастаянна знаходзіцца вартаўнік.

Як гэта ні банальна, але бясьпека офіса залежыць ад саміх сябраў арганізацыі. Напрыклад, калі офіс знаходзіцца на першым ці другім паверсе, пакідаць яго на ноч без вартаўніка нельга. Інакш вы зробіцеся прыемнай мішэньню для злачынцаў: яны ведаюць, што рабаўніцтва грамадзкай арганізацыі - бясьпечная і выгодная справа. Нават сам факт таго, што на офісе заўжды нехта знаходзіцца, ужо прадухіліць напад, бо на адкрытыя гвалтоўныя дзеяньні, хай сабе і ў адносінах да сябраў арганізацыяў, злачынцы наўрад ці пойдуць. Незалежна ад таго, ці ёсьць на сядзібе начны вартаўнік, на вокны першага ці другога паверху абавязкова трэба ўсталяваць краты.

Таксама трэба вызначыцца зь "дзьвярной" палітыкай арганізацыі. Калі на офіс заўжды заходзяць незнаёмыя асобы, вы безумоўна рызыкуеце. Лепей за ўсё папярэдне дамаўляцца пра сустрэчы ды інфармаваць пра іх сябраў арганізацыі ці наогул усталяваць дамафон.

Разглядайце гэта як аксіёму: ваш офіс лепш за ўсё абароніць ад міліцэйскага нападу мабільны тэлефон. Ён дазваляе ня толькі зьвязацца з журналістамі (эфэктным будзе прамы эфір на радыё), але і выклікаць кіраўніцтва арганізацыі, адвакатаў. Вядома, можна скарыстацца і звычайным тэлефонам, але гэтай магчымасьці вас будзе няцяжка пазбавіць, перарэзаўшы тэлефонны дрот. Падчас вобшуку сьледчы мае права забараніць прысутным пакідаць памяшканьне і рабіць тэлефанаваньні.

Калі размаўляць пра тэхнічны бок абароны офіса, можна параіць выкарыстоўваць дазволеныя законам сродкі, якія не патрабуюць рэгістрацыі і адмысловага дазволу. Маюцца на ўвазе разнастайныя электрашокеры. Яны дапамогуць у выпадку нападу злачынцаў, але выкарыстоўваць іх супраць міліцыі трэба толькі тады, калі дзеяньні міліцыянтаў на сто адсоткаў незаконныя, гвалтоўныя, і наступствы супраціву (канкрэтна, прыцягненьне вас да крымінальнай адказнасьці па арт. 363 Крымінальнага кодэксу "Супраціў супрацоўніку міліцыі", які прадугледжвае ў якасьці пакараньня да пяці год пазбаўленьня волі) меншыя за наступствы падпарадкаваньня патрабаваньням міліцыянтаў. Газавая зброя, згодна зь існым палажэньнем, патрабуе адмысловага дазволу, які выдаецца пасьля заканчэньня двухтыднёвых курсаў.

Але супрацьстаяць супрацоўнікам праваахоўных органаў найлепш прававым шляхам.

Як мы ўжо пісалі, калі офіс незарэгістраваны альбо зарэгістраваны арганізацыя месьціцца на прыватнай кватэры, падставай для пранікненьня туды міліцыянтаў можа быць толькі адпаведная пастанова сьледчага ці пракурора на правядзеньне вобшуку ці дагляду памяшканьня (абавязкова падпісваюцца пракурорам) ці выняткі. Калі такой пастановы няма, а міліцыянты патрабуюць адчыніць дзьверы "для праверкі пашпартнага рэжыму" альбо "для правядзеньня дагляду памяшканьня", "для прадухіленьня злачынства", - уладальнік памяшканьня мае права не пускаць іх. Наш крымінальна-працэсуальны кодэкс дазваляе правядзеньне вобшуку ці дагляду памяшканьня і бяз санкцыі пракурора, але толькі пры наяўнасьці неадкладных абставінаў. Якога кшталту павінны быць гэтыя абставіны, закон не ўдакладняе. Практыка палітычных справаў дэманструе, што калі вы адмовіцеся дапусьціць міліцыянтаў бяз санкцыі пракурора, ламіцца гвалтоўным шляхам яны ня будуць. Пры гэтым мы б параілі ў любым выпадку спасылацца на арт. 29 Канстытуцыі, які гарантуе недатыкальнасьць жытла. Можна патрабаваць выклікаць уласьніка памяшканьня: згодна з ч. 8 арт. 204 Крымінальна-працэсуальнага кодэксу, ён мае права прысутнічаць пры вобшуку. Такім чынам можна пацягнуць час. Калі сядзіба месьціцца на прыватнай кватэры, вартаўнік можа адмовіцца пускаць міліцыянтаў, сказаўшы: "Гаспадар сьпіць" ці "Гаспадара няма, хутка прыйдзе".

Тое, што вашая арганізацыя ня мае ніякага дачыненьня да крымінальнай справы, у межах якой праводзіцца вобшук, ня мае аніякага значэньня. Можна правесьці вобшук у штаб-кватэры любой беларускай арганізацыі, напрыклад, па справе крадзяжу лядоўні дзе-небудзь у Хоцімску - мэтазгоднасьць гэтага вырашаецца сьледчым і пракуратурай згодна зь іхнімі ўласнымі перакананьнямі.

Пры вобшуку, нават калі ён праводзіцца неадкладна, абавязкова павінны прысутнічаць ня менш за два панятыя. Яны павінныя бачыць усе сьледчыя дзеяньні. Гэта значыць, што калі вобшук адбываецца адначасова ў некалькіх пакоях, у кожным пакоі побач са сьледчым павінен знаходзіцца паняты.

Памятайце, што перад пачаткам працэдуры вобшуку ці вынятку ўсім удзельнікам сьледчага дзеяньня павінны зачытвацца іх правы.

Абавязкова трэба ўважліва чытаць пратакол вобшуку і ўносіць у яго свае заўвагі, напрыклад, пра парушэньні парадку правядзеньня працэдуры. Так, можна запісаць, што прысутнічалі невядомыя асобы (часьцяком гэта супрацоўнікі КДБ, якія ня хочуць афішаваць сваю датычнасьць да справы), што панятыя ня бачылі ўсіх дзеяньняў па вобшуку (у выніку




сьледчыя ці апэратыўнікі могуць "знайсьці" зброю ці наркотыкі), што вам не патлумачылі вашыя правы (і таму вы ня мелі магчымасьці іх абараняць). Вядома, што гэта не перашкаджае вобшуку, але гэтым вы дапаможаце адвакату падчас магчымага суду. Памятайце, што заўвагі трэба рабіць на арыгінале пратаколу, а не на ягонай копіі, якая застаецца ў вас. Апошнюю вам абавязаны пакінуць. Трэба сачыць за тым, каб у пратакол уносіліся ўсе сканфіскаваныя прадметы з адзначэньнем індывідуальных прыкметаў: нумару, маркі, памеру.

Раім вам ніколі не адмаўляцца ад падпісаньня пратаколу, нават калі вы лічыце, што вобшук цалкам незаконны. Пратакол усё адно застанецца сапраўдным, і потым будзе прасьцей уносіць у яго папраўкі. Лепей падпішыце кожную старонку з адзначэньнем сваіх заўвагаў. Ніколі не пагаджайцеся выкласьці свае заўвагі на асобным аркушы - ён потым можа лёгка "згубіцца".

Калі вобшук праводзіцца па юрыдычным адрасе зарэгістраванай арганізацыі, а вы хочаце перашкодзіць канфіскацыі абсталяваньня (часьцей за ўсё гэтая канфіскацыя робіцца на падставе сумнавядомага Дэкрэту №8), то можна параіць заявіць пра тое, што, напрыклад, кампутар належыць не арганізацыі, а вам асабіста. У якасьці доказу прад'явіце дамову пра перадачу гэтага кампутара вам у карыстаньне. У скрайнім выпадку можна абняць гэты кампутар і не выпускаць яго з рук ці нават разьбіць яго - калі яго забяруць, вы яго больш ня ўбачыце. Па месцы знаходжаньня зарэгістраванай арганізацыі пажадана не захоўваць пабочных прадметаў, бо іх можна разглядаць як праяву нестатутнай дзейнасьці арганізацыі. Напрыклад, адабраная падчас вобшуку дыскета са сьпісамі ўдзельнікаў мінулагодняй кампаніі "Незалежнае назіраньне", якая належала адназму зь сябраў гомельскіх "Грамадзянскіх Ініцыятываў", дазволіла прыцягнуць кіраўніка гэтай арганізацыі да адказнасьці за парушэньне ч. 3 п. 4 Дэкрэту №8 (выкарыстаньне замежнай фінансавай дапамогі на забароненыя мэты) і сканфіскаваць усе кампутары арганізацыі.

Асобна трэба сказаць, што судовы выканаўца таксама мае права пранікаць у памяшканьне для правядзеньня рэчасьпісу маёмасьці, але ён абавязкова павінен мець належным чынам афармлены выканаўчы ліст, выдадзены па судовым ці іншым рашэньні. Калі вы адмовіцеся дапускаць судовага выканаўцу ў памяшканьне, ён пакліча на дапамогу міліцыянтаў, але для гэтага патрэбны час.

## ЯК АБАРАНІЦЬ СЯБРАЎ АРГАНІЗАЦЫІ

У сьнежні мінулага году быў учынены ўзброены напад на менскі офіс Задзіночаньня беларускіх студэнтаў. Два чалавекі, адзін зь якіх быў у масцы і пальчатках, другі - з нажом і разводным ключом у руках, уварваліся на сядзібу ЗБС. Невядомыя моцна зьбілі некалькі чалавек, усіх прысутных паклалі на падлогу, забралі кампутар, мадэм, пэйджэр, тэлефон. Таксама забралі ўсе дакумэнты, што тычацца дзейнасьці арганізацыі, і ключы ад сядзібы. Крымінальнікі адчувалі сябе дастаткова ўпэўнена, знаходзіліся на сядзібе каля дваццаці хвілінаў, а потым без хваляваньняў ішлі па вуліцы паўз РУУС, трымаючы ў руках нарабаванае. Калі на месца здарэньня была выкліканая міліцыя, то яе больш зацікавіла дзейнасьць ЗБС, а не абставіны нападу. Малаверагодна, што злачынцаў знойдуць.




За апошні час ніводная справа пра крадзеж альбо рабаўніцтва, калі ахвярай была НДА, не была раскрытая, злачынцы не былі знойдзеныя. Таму няма нічога дзіўнага, што злачынцы, якія пазамінулым годам рабілі ўзброены налёт на штаб-кватэру Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), нават не паруліўшыся пра прыкрыцьцё твараў, адкрыта казалі, што пры любых абставінах застануцца непакаранымі. Паказальна, што аб'ектам асаблівай увагі злачынцаў заўжды зьяўляюцца носьбіты інфармацыі, дзе адлюстраваная дзейнасьць арганізацыі (папяровыя дакумэнты, кампутаровыя вінчэстэры і дыскеты).

Калі праваахоўныя органы ня могуць забясьпечыць правапарадак, паўстае пытаньне: а якім чынам мы, звычайныя грамадзяне, можам аказаць супраціў злачынцам? Ці маем мы права, абараняючы сваю годнасьць, сваё здароўе, маёмасьць сваёй арганізацыі, нанесьці шкоду злачынцам?

Гэтыя пытаньні вырашаюцца шостай главой Крымінальнага кодэксу "Абставіны, якія выключаюць злачыннасьць дзеяньня". Дадзеная глава пералічвае выпадкі, пры якіх дзеяньне, якое мае зьнешнія прыкметы злачынства, злачынствам не прызнаецца. Прычына гэтага ў тым, што такія дзеяньні накіраваныя не на шкоду грамадзтву, а наадварот, на грамадзка-карысныя мэты: абарону правоў і законных інтарэсаў грамадзянаў, абарону ўласнасьці, абарону дзяржаўных інтарэсаў ці затрыманьне злачынцы. Такім чынам, да абставінаў, якія выключаюць злачыннасьць дзеяньня, адносяцца:

- *неабходная абарона;*
- *крайняя неабходнасьць;*
- *затрыманьне злачынцы;*
- *памылковыя неабходная абарона, крайняя неабходнасьць, затрыманьне злачынцы;*
- *знаходжаньне сярод злачыннай групоўкі па спэцыяльным заданьні праваахоўных органаў;*
- *абгрунтаваная рызыка;*
- *выкананьне загаду ці распараджэньня.*

У нашым выпадку актуальныя тыя з абставінаў, якія могуць паўстаць падчас абароны памяшканьня, у якім месьціцца НДА, ад рабаўніцтва і іншых гвалтоўных дзеяньняў.

Неабходная абарона традыцыйна займае асобнае месца ў крымінальным праве. Права на неабходную абарону - натуральнае права кожнага чалавека незалежна ад фізычнай моцы, полу ці ўзросту абараняцца ад злачыннага замаху. Пры гэтым абараняць можна ня толькі сваё ўласнае жыцьцё, здароўе, правы ці маёмасьць, але і здароўе, маёмасьць іншых грамадзянаў, інтарэсы дзяржавы. Гэтае права ёсьць у людзей незалежна ад магчымасьці пазьбегнуць замаху іншым чынам (напрыклад, ахоўнік офіса мае магчымасьць зьбегчы ад рабаўніка, але і мае права нанесьці рабаўніку шкоду, бо будзе такім чынам перашкаджаць яго ным злачынным намерам). Таксама не пазбаўляе людзей права на неабходную абарону і наяўнасьць магчымасьці зьвярнуцца па дапамогу ў органы міліцыі. Такім чынам, ахоўнік офіса мае права прычыніць шкоду нападаючым. Але пры гэтым нельга пераходзіць межаў неабходнай абароны. Такі пераход межаў будзе тады, калі ахоўнік офіса яўна для сябе будзе выкарыстоўваць неадпаведныя нападу сродкі і прычыніць рабаўніку сьмерць альбо цяжкія цялесныя пашкоджаньні - за гэта ён панясе крымінальную адказнасьць. Але калі ён пры гэтым прычыніць толькі лёгкія цялесныя пашкоджаньні, адказнасьці ён не падлягае.

Калі ж паўстае стан неабходнай абароны? Для гэтага патрэбная наяўнасьць шасьці прыкметаў, тры зь якіх адносяцца да нападу (замаху), тры - да абароны.

*1. замах павінен быць небясьпечным, гэта значыць, ён павінен усьпрымацца асобай, якая абараняецца, як злачынны замах;*
*2. замах павінен быць наяўным - прычыненьне шкоды дазваляецца толькі тады, калі дзеяньне нападу працягваецца;*
*3. замах павінен успрымацца абаронцам як рэальны. Напрыклад, калі рабаўнікі пагражаюць незараджаным ці цацачным пісталетам, а вы гэтага ня ведаеце, ад іх дазваляецца абараняцца так, як быццам бы яны ўзброеныя баявой зброяй;*
*4. абарона павінна прыносіць шкоду толькі нападаючаму, а ня іншым асобам (калі шкода наносіцца іншым асобам, паўстае стан крайняй неабходнасьці);*
*5. абарона павінна быць адпаведнай, але гэтая адпаведнасьць адзначаецца з пункту гледжаньня абаронцы. Дазваляецца выкарыстоўваць зброю, але толькі не дапускаючы перавышэньня межаў неабходнай абароны. Калі абаронца лічыць, што абараніцца ад нападу ён можа выключна выкарыстоўваючы зброю, - такія дзеяньні будуць правамернымі;*
*6. абарона павінна быць своечасовай. Не дазваляецца "прэвэнтыўная" абарона: асоба, якая, каб абараніць маёмасьць ад рабаўнікоў, прыхавала на лецішчы атручаную гарэлку, рызыкуе быць прыцягнутай да адказнасьці за забойства.*

Ад неабходнай абароны трэба адрозьніваць крайнюю неабходнасьць, калі шкода прычыняецца не пры абароне ад нападу, а пры абароне ад "неадушаўлёнай" небясьпекі (напрыклад, выклікаючы пажарных, можна зламаць дзьверы да суседзяў, каб знайсьці тэлефон) ці калі шкода наносіцца не злачынцу, а іншай асобе (ратуючыся ад рабаўніка, ахоўнік офіса можа разьбіць акно і нанесьці шкоду маёмасьці самой арганізацыі). Прычыненьне такой шкоды таксама не зьяўляецца злачынствам.

Прычыненьне шкоды пры затрыманьні злачынцы таксама зьяўляецца грамадзка-карысным дзеяньнем і таму не адносіцца да злачынстваў. Больш за тое, Крымінальна-працэсуальны кодэкс гарантуе ўсім грамадзянам права на захоп злачынцы, нягледзячы на тое, церпіць гэтая асоба ад дадзенага злачынства ці не. Гэтае права ўсталяванае заканадаўствам ня толькі ў мэтах абароны грамадзянаў, але і дзеля рэалізацыі прынцыпу неадхільнасьці пакараньня. Пры гэтым прычыненьне шкоды пры затрыманьні злачынцы толькі тады будзе правамерным, калі выконваюцца адпаведныя крытэры.

**Уночы з 2 на 3 чэрвеня ў Мар'інай Горцы адбылася спроба абрабаваць офіс асьветніцкага таварыства "Беларуская Хатка". Як паведаміў старшыня арганізацыі Алесь Васьковіч, спроба абрабаваць "Беларускую Хатку" праваліласа, бо ў гэтую ноч ён асабіста начаваў у офісе. Рабаўнікі спрабавалі нейкім прадметам выламаць замкі ў дзьвярах. Па словах спадара, адзін замок яны ўжо выламалі, а другі не пасьпелі. Рабаўнікам удалося ўцячы зь месца злачынства на белым аўтамабілі "Волга". За тры гады існаваньня мар'інагорскага асьветніцкага таварыства "Беларуская Хатка" гэта ўжо трэцяя спроба абрабаваць офіс. Ранейшыя спробы ажыцьцяўлялі прадстаўнікі нэанацысцскіх груповак РНЕ і "скінхэды".**

Па-першае, падставай для затрыманьня павінна быць злачынства, хоць злачынцам затрыманую асобу можна назваць толькі ўмоўна, бо пастановы суду, відома, няма. Такім чынам, гвалтоўныя дзеяньні па затрыманьні магчымыя толькі тады, калі маюцца відавочныя прыкметы злачынства. Напрыклад, калі бачыце, як незнаёмы ў цывільным выносіць кампутар з вашага офіса, вы маеце падставы лічыць яго злачынцам і затрымаць. Але калі ён прад'яўляе пасьведчаньне судовага выканаўцы і выканаўчы ліст, вы ўжо даведваецеся, што ён не злачынца і затрымліваць яго надалей ня маеце права.

Па-другое, затрыманьне дазваляецца толькі тады, калі сам затрыманы імкнецца пазьбегнуць адказнасьці.

Шкода, якая прычыняецца затрыманаму, павінна адпавядаць небясьпецы злачынства і быць адзіным сродкам забесьпячэньня дастаўленьня злачынцы ў праваахоўныя органы.

# НА СХОД, УСЕNGOШНЫ СХОД!

## БЕЛАРУСКІЯ ІЛЮЗІІ І РЭАЛІІ НА ФОНЕ ФОРУМУ ГРАМАДЗКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ УКРАІНЫ

*Напачатку лета постсавецкую "трэцясэктарную" прастору, якая на ўсе спробы кантактаў прамаўляла голасам аўтаадказчыка "Офіс зачынены - усе пайшлі ў адпачынак", - хоць і зьлёгку, але ўсё-ткі страсянула. Нагода для гэтага была больш чым адпаведная: 21-22 чэрвеня ў Кіеве прайшоў Форум грамадзкіх арганізацыяў Украіны "Стратэгія супольнага дыялёгу", у якім апрача некалькіх сотняў прадстаўнікоў мясцовых НДА бралі ўдзел прадстаўнікі заходніх арганізацыяў, фундацыяў, амбасадар ЗША на Ўкраіне, кіраўнікі фракцыяў і дэпутаты Вярхоўнай Рады ды іншыя ўкраінскія і замежныя top-пэрсоны.*

Форум "Стратэгія супольнага дыялёгу" стаўся своеасаблівым працягам лютаўскага "Супольнасьць перад выбарамі". Тады яго ўдзельнікамі стала блізу 300 грамадзкіх арганізацыяў, якія зьдзяйсьнялі маніторынг практычна ўсіх бакоў выбарчай кампаніі. На думку ўдзельнікаў I Форуму, "дзейнасьць грамадзкіх арганізацыяў падчас выбараў давяла, што грамадзкасьць здольная ўплываць на грамадзкія працэсы, зьдзяйсьняць кантроль за дзеяньнямі ўладаў, стымуляваць працэсы дэмакратызацыі грамадзтва".

Калі экс-савецкіх партнэраў кіеўскі Форум "Стратэгія супольнага дыялёгу" толькі зьлёгку ўскалыхнуў, то цягам траўня-чэрвеня ў зьвяз зь меркаваным мерапрыемствам украінскія арганізацыі трэсла ліхаманка канфліктаў і скандалаў, якія па сваім размаху, "мэдыягенічнасьці" і наступствах маглі пасупернічаць з самім Форумам.

На звычайныя пры арганізацыі мерапрыемстваў такога маштабу закіды пра "грантасасаньні", неадпаведнасьць складу ўдзельнікаў па колькасных і якасных парамэтрах можна нават і ня ўзгадваць. Нашмат важнейшым быў грамадзка-палітычны пэйзаж, на фоне якога ладзіўся Форум - вясновыя выбары ў парлямэнт і мясцовыя саветы.

Патэтычнае "Вибори пройшли. Суспільство зробило свій вибір", агучанае ў якасьці эпіграфу да запрашэньня на Форум безыменным аргкамітэтам, пэўная частка ўкраінскіх НДА ўспрыняла прынамсі з сарказмам. Падчас інтэрнэт-дыскусіі на сайце Форуму Тамара Трацэвіч, кіраўнік Рады Цэнтру правоў чалавека "Древо життя" (Харкаў), заявіла: "Мы, постсавецкае насельніцтва, мелі досьвед, як улада, асноўная каштоўнасьць якой - хмель уладараньня, доступ да эксклюзіўнага дабрабыту, - бесьперашкодна (з боку НДА) выкарыстоўваючы адмінрэсурс (нашыя з вамі неатрыманыя паслугі, заробкі, пенсіі), па-ягнячы пераконвала насельніцтва (ды й грамаду таксама) у сваіх бацькоўскіх пачуцьцях, у тым, што сучасны казёл на капусту ну проста алергію мае. Таму менавіта яму варта даверыць лабіяваньне інтарэсаў народу".

Пытаньне, што рабіць на Форуме (ці з самім Форумам), якога кшталту праблемы мусяць быць вырашаныя, досыць актыўна абмяркоўвалася пасьля зьяўленьня першай заявы аргкамітэту Форуму. Паказальнай у гэтым сэнсе можа быць думка спн. Трацэвіч: "Зараз прыйшоў час прааналізаваць СВАЮ РОЛЮ ("кушать подано") у выбарах, зрабіць высновы і нарэшце вызначыць, куды ідзем. Хацела сказаць - вядзем людзей, але згадала статыстыку: па дадзеных Інстытуту сацыялёгіі ПАН Украіны, сёньня 2,4% апытаных у краіне давяраюць міністрам, 3,9% - народным дэпутатам, 2,7% - старшыням абладміністрацыяў, 1,2% - лідэрам палітычных партыяў, а пра грамадзкія арганізацыі - ні слова".

Складаная сытуацыя, у якой апынуліся ўкраінскія НДА пасьля выбараў, абцяжваецца абрыдлымі за дзесяць год незалежнасьці апэляцыямі да эфэмэрнага панятку "грамадзянская супольнасьць", якая так і не паўстала і напачатку новага стагодзьдзя. Гэта нагадвае акуляры ў лапах небезьвядомага па байцы клясыка прымата. Варта выкінуць, ды шкада - а раптам спатрэбяцца? Плюс добра вядомы беларускім НДА страх украінскіх калегаў быць гвалтоўна аб'яднанымі ў чыіхсьці інтарэсах.

Шырокі розгалас пасьля зьяўленьня першай, досыць скандальнай заявы аргкамітэту Форуму вымусіў яго сяброў - прадстаўнікоў фундацыяў "Відкрите суспільство", "Демократичні ініціативи", "Європа XXI", Фонду рэгіянальных ініцыятываў, Кааліцыі "Свобода вибору", прадстаўнікоў Украінскага незалежнага цэнтру палітычных дасьледаваньняў, арганізацыі "Незалежна асоціація мовників", Камітэту выбарцаў Украіны, Камітэту "Рівність можливостей" - падрыхтаваць новы зварот.


Карлас Паскуаль, амбасадар ЗША на Ўкраіне

У ім арганізатары вымушаныя былі прызнаць, што некаторыя прапановы ініцыятараў (асабліва што тычыцца да Грамадзянскага парлямэнту як адной з магчымасьцяў самаарганізацыі трэцяга сэктару) былі катэгарычна не ўспрынятыя пэўнай часткай арганізацыяў. Таму былі прапанаваныя два погляды на задачы Форуму:

*1. апошні патрэбны для агалошаньня праблемаў НДА, а гэта: адстойваньне сваіх інтарэсаў, артэкуляваньне праблемаў арганізацыяў, што датычацца недасканаласьці заканадаўства, фінансаваньне, ступень уплыву НДА і ўзаемадзеяньне з уладамі, інфармаваньне пра дзейнасьць арганізацыяў, праблемы прыцягненьня людзей у грамадзкія арганізацыі;*
*2. на Форуме мусіць адбыцца абмеркаваньне супольных праблемаў і ролі НДА ў іх вырашэньні.*

"Мэтай Форуму ня ёсьць аб'яднаньне НДА ў фармальную структуру, а выяўленьне магчымасьцяў уплыву НДА на вырашэньне значных супольных праблемаў і выпрацоўка эфэктыўных формаў супрацы грамадзкіх арганізацыяў", - заканчваўся зварот.

Лішне казаць, што сытуацыя ў беларускім і ўкраінскім "трэцім сэктары" шмат у чым падобная. Розныя вагавыя катэгорыі і ўмовы працы сталі падмуркам нашых ілюзіяў у бачаньні разьвіцьця "трэцяга сэктару" паўднёвай суседкі. Бадай што досьвед II Форуму ўкраінскіх НДА, як, між іншым, і I Форуму расейскіх, на добры лад можа зрабіцца паказальным для нас. На добры лад?..

**Ян Міхевіч**

## РЭЗАЛЮЦЫЯ ФОРУМУ ГРАМАДЗКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ УКРАІНЫ

*Кіеў, 21-22 чэрвеня 2002 году*

***Мы, удзельнікі Форуму грамадзкіх арганізацыяў, ставім за мэту кансалідаваць і каардынаваць нашыя намаганьні, скіраваныя на пабудову грамадзкай супольнасьці на Ўкраіне, забесьпячэньне правоў ды свабодаў грамадзянаў.***

Форум рэкамэндуе ўкраінскім НДА засяродзіць працу ў наступных кірунках:
- *Ахова правоў чалавека праз эфэктыўнае выкарыстаньне мэханізмаў адсочваньня парушэньня правоў і абмежаваньняў дзейнасьці НДА і грамадзкіх абаронцаў;*
- *Правядзеньне грамадзкіх экспэртызаў, якія тычацца дзейснага заканадаўства ў сфэры СМІ, Канцэпцыі інфармацыйнай бясьпекі; празрыстасьць уласнасьці, заснаваньня і інвэставаньня ў СМІ;*
- *Падрыхтоўка рэкамэндацыяў, якія тычацца разьвіцьця грамадзкага абмеркаваньня;*
- *Разьвіцьцё мэханізмаў адказнасьці й справаздачнасьці ўлады перад грамадзянамі і НДА;*
- *Асьвета насельніцтва, якая тычыцца паўнамоцтваў уладных інстытуцыяў і магчымасьцяў уплыву на іхныя рашэньні;*
- *Удзел НДА ў працы профільных камітэтаў Вярхоўнай Рады Ўкраіны;*
- *Забесьпячэньне шырокай інфармацыйнай падтрымкі НДА ў пытаньнях заканадаўства і легальных магчымасьцяў НДА;*
- *Фармаваньне інфармацыйна-камунікацыйнага асяродку для трэцяга сэктару шляхам інтэграцыі сьпісаў рассылак і стварэньня супольнай інфармацыйнай прасторы; стварэньне "гарачай лініі" і кансультацыйнага цэнтру для НДА;*
- *Прапагандаваньне прынцыпаў збалансаванага разьвіцьця і дэмакратычных прынцыпаў, неабходных для гэтага, спрыяньне супольнай працы розных сэктараў грамадзтва ў пераходзе да сталага разьвіцьця;*
- *Распрацоўка мэханізмаў удзелу НДА ў разьмеркаваньні бюджэтных коштаў на конкурснай аснове дзеля выкананьня сацыяльна значных праектаў і праграмаў;*
- *Каардынацыя працы НДА пры падрыхтоўцы да прэзыдэнцкіх выбараў 2004 году.*

Форум вырашыў абраць Аргкамітэт і паставіць перад ім дзьве задачы:
(1) падрыхтаваць наступны Форум НДА;
(2) распрацаваць разам зь іншымі працоўнымі групамі праект Канцэпцыі самаарганізацыі няўрадавых арганізацыяў.

# КУЛЬТУРА НЯЗГОДЫ // КУЛЬТУРА НЕЗГОДИ

***Сэргій Чэрнэнка***
***"ТЕЛЕКРИТИКА"***

*"Одно из условий той откровенности и прямоты, которых требует от нас время, - не принимать несогласного за врага."*
Валеры Лабаноўскі

Вынесеныя ў эпіграф словы нашага Вялікага трэнэра, на мой погляд, дакладна характарызуюць галоўныя мэты прадстаўнічага сходу, які адбыўся ва Украінскім доме: выпрацаваць у супольнасьці здольнасьць да самаарганізацыі, сьвядомага і крытычнага стаўленьня да рэчаіснасьці, наладзіць канструктыўны дыялёг супольнасьці і ўладаў, безь якога недастаткова разварушыцца на дэмакратызацыю ўкраінскай дзяржавы.

Сучасны ровень разьвіцьця ўкраінскага "трэцяга сэктару" пакуль што, на жаль, не дае падставаў сьцьвярджаць, што на Украіне рэальна сфармавалася грамадзкая супольнасьць. І гэта ганіць самаадданую працу вялікай колькасьці разумных і энэргічных людзей, якія працуюць больш чым у дваццаці тысячах зарэгістраваных грамадзкіх арганізацыяў.


Алег Біларус. Фракцыя Блёку Юліі Цімашэнкі, Вярхоўная Рада Украіны

Можна налічыць нямала прычынаў такога становішча. Пачынаючы з асаблівасьцяў нашага палітычнага строю (вядзецца, вядома, не пра рытуальныя формы, а пра рэальны мэханізм прыняцьця палітычных рашэньняў) і заканчваючы эканамічнымі праблемамі.

Але ініцыятары Форуму спрабавалі заахвоціць дэлегатаў перш за ўсё да аналізу ўнутраных праблемаў НДА. Аддаўшы даніну зробленаму, у тым ліку і падчас апошняй выбарчай кампаніі, Форум засяродзіў увагу на тым, каб распрацаваць такія формы самаарганізацыі грамадзкага руху, якія б зрабілі яго сур'ёзным і ўплывовым удзельнікам працэсу фармаваньня ўкраінскай супольнасьці.

Ключавой ідэяй Форуму можна назваць агучаную старшынём Камітэту "Рівність можливостей" Аляксандрам Чэкмышавым ідэю стварэньня грамадзкага парлямэнту.

Вялося не пра сьляпое капіяваньне структурнай пабудовы той жа Вярхоўнай Рады, а хутчэй пра своеасаблівую "мяккую" кааліцыю грамадзкіх арганізацыяў, аб'яднаных агульнымі мэтамі. Для многіх НДА, якія зараз спрабуюць самастойна вырашыць свае праблемы, грамадзкі парлямэнт можа зрабіцца і інфармацыйна-мэтадычным ды кансультатыўным цэнтрам, месцам для пашырэньня кантактаў і супрацы, дзе можна было б аваладаць сучаснымі тэхналёгіямі дзейнасьці.. А галоўнае, такая кааліцыя дала б магчымасьць кансалідаваць намаганьні, інтэлектуальны ды матэрыяльны патэнцыял многіх арганізацыяў і, адначасова, стымуляваць шырокае абмеркаваньне грамадзкасьцю па найбольш балючых праблемах.

На Форуме, між іншым, ужо былі рэалізаваныя такія мадэлі абмеркаваньня - у форме паседжаньняў працоўных групаў, дзе разглядаліся самыя розныя праблемы: ад праваабароны насельніцтва да значэньня СМІ ў станаўленьні грамадзянскай супольнасьці. У групах абіраліся прадстаўнікі ў аргкамітэт наступнага Форуму.

Яго мэта - запрапанаваць плян практычных дзеяньняў, дзякуючы якім было б магчыма рэалізаваць найгалоўнейшую мэту - запусьціць мэханізм узаемадзеяньня паміж грамадзтвам і ўладаю, данесьці напрацаваныя НДА прапазыцыі і рэкамэндацыі да дзяржаўных чыноўнікаў, народных дэпутатаў, міністраў - усіх тых, хто адказвае за іх рэалізацыю.

Дзеля справядлівасьці варта адзначыць, што ў лістападзе мінулага году падобны грамадзкі Форум адбываўся ў Расеі - практычна аналягічны па форме і дэклараваных мэтах, хіба што ладзіўся ў больш пампезным Крамлёўскім палацы зьездаў. Пра вынікі яго працы меркаваць цяжка, але, зрэшты, хто перашкаджае ўкраінскаму варыянту быць больш эфэктыўным? Па вялікім рахунку, посьпех ці няўдача гэтай пазытыўнай задумы цалкам залежыць ад яго ініцыятараў ды выканаўцаў. А досьвед расейцаў лішні раз дэманструе, што галоўнай пагрозай для ідэі грамадзкага парлямэнту ёсьць празьмерная палітызацыя і, акром таго, прага палітычных гульцоў выкарыстаць мажлівасьці НДА для сваіх "вузкаўжывальных" мэтаў. Здолее ці ня здолее ўкраінскі "трэці сэктар" пазьбегнуць гэтай небясьпекі - мы даведаемся ўжо бліжэйшым часам.





# ад "НАМ МАЛА!" да "МЫ ВАРТЫЯ БОЛЬШАГА!"

## 5 КРОКАЎ БЕЛАРУСКАГА ФАНДРЭЙЗЫНГУ

**Улад Вялічка,**
*выканаўчы дырэктар*
*ГА "Адукацыйны цэнтар "ПОСТ"*

Калі ў размовах пра беларускі "трэці сэктар" у дачыненьні да яго ўжываецца слова "праблема", адно зь першых, пра што ўзгадвае кожны - недахоп фінансавых сродкаў, неабходных для нармальнага існаваньня і дзейнасьці арганізацыі. Нікому ня трэба тлумачыць, у якое становішча, у тым ліку і фінансавае, загнала грамадзкія арганізацыі дзяржаўная палітыка. Беларускія ГА амаль што пазбаўленыя магчымасьці атрымліваць рэсурсы на сваю дзейнасьць з шырокага кола крыніцаў: дзяржаўныя сродкі, фінансавая дапамога з боку бізнэсу, камэрцыйная дзейнасьць так і застаюцца патэнцыйнымі, але не зрэалізаванымі крыніцамі самазабесьпячэньня. Менавіта таму амаль адзінае, чым застаецца карыстацца - гэта гранты міжнародных і замежных арганізацыяў. Але і тут раз-пораз гучаць заявы аб недастатковым памеры дапамогі. Часьцей за ўсё гэта зьвязваюць зь невялікай доляй фінансавых сродкаў, якія прадастаўляюцца грантадаўцамі і зьяўляюцца "дасягальнымі" для грамадзкіх арганізацыяў Беларусі. Але наколькі гэта сапраўды адпавядае рэчаіснасьці?

З аднаго боку, колькасьць новых конкурсаў і фінансавых лініяў, пра якія было абвешчана за апошнія 9 месяцаў па прэзыдэнцкіх выбарах, значна павялічылася ў параўнаньні з папярэдняй сытуацыяй (некалькі спаборніцтваў Эўракамісіі, мікра-гранты Сусьветнага Банку, новы конкурс Каунтэрпарту, праграмы двухбаковага супрацоўніцтва, што фінансуюцца ўрадамі Швэцыі, Нямеччыны, рэгулярна дзейсныя праграмы USAID, амбасадаў Брытаніі, Нідэрляндаў і інш.). Разам з тым, колькасьць "прэтэндэнтаў" на гэтыя рэсурсы, дзякуючы ўсім вядомым прычынам і абставінам, за апошні час ня надта вырасла.

Здаецца, што праблема палягае ня толькі і ня столькі ў недахопе прапанаваных фінансавых сродкаў, як у адсутнасьці ў большасьці беларускіх грамадзкіх арганізацыяў і "трэцяга сэктару" ўвогуле доўгатэрміновай стратэгіі і навыкаў здабываньня сродкаў, неабходных для эфэктыўнай дзейнасьці. Мала хто "зазірае ў будучыню" далей чым на 1-2 гады наперад, выбар кірункаў дзейнасьці вялікай часткі арганізацыяў знаходзіцца ў залежнасьці ад інтарэсаў і прыярытэтаў донараў, канкурэнтныя адносіны ўсё яшчэ прэвалююць, не даючы нармальна разьвівацца эфэктыўнаму ўзаемадзеяньню і супрацоўніцтву. Якія ідэі і мадэлі можа прапанаваць грамадзтву такі "трэці сэктар", які сам пакуль што далёкі ад узорнасьці?

Для зьмены сытуацыі да лепшага ў сфэры фінансавага забесьпячэньня арганізацыяў і іх дзейнасьці неабходна ўжо зараз зрабіць шэраг сыстэмных крокаў наперад. Як гэта ні дзіўна, але большасьць гэтых крокаў тычыцца зусім не бухгальтарскіх і фінансавых акалічнасьцяў, а палягае ў некаторых сумежных сфэрах, што забясьпечваюць жыцьцяздольнасьць арганізацыяў, але на сёньняшні момант далёкія ад патрэбнага стану разьвіцьця, а менавіта:

**1. Імідж грамадзкіх арганізацыяў.** На жаль, той імідж беларускіх ГА, які зараз існуе ў вачах рэальных і патэнцыйных донараў (трэба адзначыць, што гэты панятак значна шырэйшы, чым проста "грантадаўцы"!), не дапамагае, а хутчэй перашкаджае атрымліваць ад іх адэкватную фінансавую падтрымку. І ў гэтым вінаватыя перш за ўсё мы самі! Большасьць міжнародных донараў разглядае беларускі "трэці сэктар" як абмежаваную, нескаардынаваную і пакуль малаэфэктыўную сілу, якая шчэ ня ў хуткім часе стане фінансава самастойнай.

Ці задавальняе нас такая сытуацыя? Калі не, то перш за ўсё варта было б зьмяніць умоўны слоган сучасных беларускіх НДА ў адрас донара "Нам мала!" на больш прывабны і пэрспэктыўны "Мы вартыя большага!" А гэта значыць, што трэба прыкласьці адпаведныя намаганьні для таго, каб жаданае адпавядала рэчаіснасьці: задэкляраваць агульныя (узгодненыя!) інтарэсы і пляны "трэцяга сэктару", стварыць каардынацыйныя мэханізмы, значна палепшыць сыстэму PR-працы, і галоўнае - дасягнуць якасна іншага ўзроўню грамадзкіх эфэктаў ад працы кожнай асобнай арганізацыі.

Хацелася б таксама адзначыць, што ў межах гэтага артыкула разглядаецца толькі адзін бок праблемы іміджу грамадзкіх арганізацыяў, а разам з тым праблема зьяўляецца значна больш шырокай і сур'ёзнай. Немагчыма разглядаць пытаньне іміджу ГА сярод донараў у адрыве ад пытаньня таго ж іміджу ў вачах звычайных грамадзя-

наў Беларусі. Але гэтая тэма заслугоўвае асобнага аналізу.

**2. Узаемаадносіны з мэтавымі групамі.** Ні для каго не сакрэт, што зараз "трэці сэктар" - як нейкае "гетта" ў беларускім грамадзтве. Разам з усім вядомымі неспрыяльнымі ўмовамі існаваньня адной з прычынаў таго, што мы там апынуліся, зьяўляецца нашае нежаданьне альбо негатоўнасьць пакідаць "зону камфорту" - рамкі, створаныя для нас дзяржавай - зноў і зноў працуючы з абмежаваным колам добра вядомых людзей. Ці маем мы шанцы зьмяніць сытуацыю ў грамадзтве да лепшага, працуючы такім чынам?




Здаецца, ужо зараз значная колькасьць беларускіх ГА зразумела неабходнасьць ажыцьцяўленьня "выхаду з гетта" і працы з шырокім колам насельніцтва, нават калі яно не падзяляе дэкляруемых НДА каштоўнасьцяў. Толькі такім шляхам можна дасягнуць нейкай крытычнай масы людзей, прагных да сацыяльных пераменаў.

Менавіта фактар "выхаду з гетта" будзе вырашальным і пры атрыманьні ад донараў буйнейшых памераў фінансаваньня. Трэба ўлічваць, што галоўнай мэтай іх падтрымкі зьяўляюцца сур'ёзныя пазытыўныя зьмены ў беларускім грамадзтве, а разьвіцьцё грамадзкага сэктару выступае як сродак дасягненьня гэтай мэты.

**3. Супрацоўніцтва арганізацыяў.** На жаль, гэты аспэкт можна з поўным правам назваць "ахілесавай пятой" беларускіх НДА: пасьля працяглага пэрыяду сварак і падзелаў сэгмэнтаў дзейнасьці, ГА толькі пачалі спрабаваць будаваць рэальнае сталае і эфэктыўнае партнэрства паміж сабой. Самае складанае, што прычыны праблемаў у гэтай сфэры адносяцца ня толькі да фактараў дзейнасьці (мэты, сфэры дзейнасьці, мэтавыя групы, пляны), але і псыхалягічных фактараў (узаемны недавер, небясьпека страціць магчымасьць атрыманьня рэсурсаў і інш.). Здаецца, і шляхі выхаду з сытуацыі павінны быць адпаведнымі: ажыцьцяўленьне сумесных дзеяньняў з агульнай адказнасьцю, здольных паказаць моцныя бакі арганізацыяў-партнэраў, падрыхтоўка і рэалізацыя сумесных праектаў, павелічэньне колькасьці сэмінараў, канфэрэнцыяў, форумаў грамадзкіх арганізацыяў, маючых на мэце камунікацыю, абмеркаваньне агульных праблемаў і шляхоў выхаду зь іх. Эфэктыўнае партнэрства можа значна дапамагчы дасягнуць сінэргетычнага эфэкту і ў пытаньні здабываньня сродкаў (узаемная дапамога кадравымі, тэхнічнымі і матэрыяльнымі рэсурсамі, лябіяваньне агульных фінансавых інтарэсаў групаў партнэрскіх ГА на розных роўнях, магчымасьць сумесна заявіцца і атрымаць макра-фінансаваньне пад буйныя праекты), і прыклады гэтаму ёсьць ужо зараз.

**4. Кадравая палітыка.** На сёньняшні дзень становіцца ўсё больш відавочным, што беларускія грамадзкія аб'яднаньні з адносна працяглай гісторыяй, але ўсё тым жа "аматарскім" прынцыпам працы, сутыкаюцца зь вялікім колам праблемаў адміністратыўна-фінансавага характару. Задача "зьмяніць сябе", прыстасавацца да новых умоваў рэчаіснасьці для большасьці зь іх выглядае невырашальнай. Вынікі арганізацыйных аналізаў, праведзеных у межах беларуска-швэдзкай праграмы партнэрства ГА, сьведчаць, што найбольшую ўстойлівасьць і лепшыя пэрспэктывы разьвіцьця маюць тыя грамадзкія аб'яднаньні, якія ў свой час паклапаціліся аб прафэсійным мэнэджмэнце. Пад "прафэсійным мэнэджмэнтам" тут маюцца на ўвазе супрацоўнікі (не абавязкова з адпаведнай адукацыяй), асноўная (а часам і адзіная) задача якіх - забесьпячэньне доўгатэрміновай пэрспэктывы арганізацыі. Менавіта "прафэсіяналы" ў трэцім сэктары могуць зрабіцца тым рэсурсам, які дапаможа якасна зьмяніць спосаб пабудовы працы і стварыць у тым ліку і новыя фінансавыя магчымасьці.

**5. Фінансавая палітыка.** Да гэтага часу тэрмін "фінансавая палітыка" застаецца цяжкаўжывальным у дачыненьні да большай часткі беларускіх грамадзкіх арганізацыяў. Асноўныя прычыны гэтага палягаюць у рамкавых умовах існаваньня арганізацыяў, большасьць зь якіх траціць час на выжываньне, латаньне дзірак, а не на сыстэмнае развіцьцё. Але разам з тым ня трэба хавацца за фактар неспрыяльных умоваў. Падчас правядзеньня ў гэтым годзе сэрыі Форумаў для грамадзкіх арганізацыяў Беларусі пад эгідай Сусьветнага Банку было даволі сумна бачыць, што асноўная маса нашых ГА разумее (!) фандрэйзынг як напісаньне заявак у розныя фонды і атрыманьне грантаў. Ня дзіва, калі ўлічваць, што, згодна дадзеным розных дасьледаваньняў, доля фінансаў у арганізацыях, атрыманых такім чынам, дасягае 90-95%. Але давайце паспрабуем самі сабе адказаць на пытаньне: "Што мы зрабілі дзеля таго, каб у нашай арганізацыі зьявіліся фінансавыя рэсурсы, акрамя грантавых сродкаў?" Пасьпяховай можна лічыць сытуацыю, калі адказаў на пытаньне будзе больш за адзін.

Разам з тым, нават у існуючых неспрыяльных умовах для большасьці арганізацыяў ёсьць пэўныя нерэалізаваныя магчымасьці для разьвіцьця: сацыяльнае прадпрымальніцтва (пра яго чытайце ў мінулым нумары "Бюлетэню"), пошук сродкаў у прадстаўнікоў (асабліва мясцовых) бізнэс-структураў, дзяржаўных установаў, супольнасьці, атрыманьне заказаў ад іх на выкананьне некаторых паслугаў, асабліва ў сацыяльнай сфэры і г.д. І ўсё гэта ня казка нават сёньня!

Такім чынам, хацелася б яшчэ раз зьвярнуць увагу на працэс здабываньня рэсурсаў і адзначыць, што добры фандрэйзэр - гэта ня той, хто здольны атрымліваць буйныя фінансавыя сродкі, а той, хто можа зрабіць гэты працэс сплянаваным, доўгатэрміновым і забясьпечыць найвышэйшую эфэктыўнасьць іх выкарыстаньня як для сябе, так і для донараў і мэтавых групаў.





# ПЕРШЫЯ КРОКІ ПАСЬЛЯ ДЗЯРЖАЎНАЙ РЭГІСТРАЦЫІ

*Вольга Смалянка,*
*ГА "Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў"*

**1.** Пасьля атрыманьня дакумэнту пра дзяржаўную рэгістрацыю грамадзкае аб'яднаньне (ГА) у 15-дзённы тэрмін абавязанае зарэгістравацца ў інспэкцыі Міністэрства па падатках і зборах (далей - інспэкцыя МПЗ) па месцы свайго знаходжаньня (**Згодна Кодэксу Рэспублікі Беларусь пра адміністратыўныя парушэньні, парушэньне падаткаплацельшчыкамі тэрмінаў пастаноўкі на ўлік у дзяржаўных падатковых органах пацягне накладаньне штрафу ў памеры ад 1 да 10 мінімальных заробкаў*) і для гэтага ў 10-дзённы тэрмін падаць у інспэкцыю МПЗ заяву пра наданьне яму ўліковага нумару (**Палажэньне пра Дзяржаўныя рэестры падаткаплацельшчыкаў Рэспублікі Беларусь, зацьверджанае Пастановай Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь 22.02.1994 № 92 (у рэдакцыі пастанова Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь 17.08.2000 № 1282)*). Узор заявы пра наданьне ўліковага нумару падаткаплацельшчыка (УНП) можна атрымаць на месцы ў інспэкцыі МПЗ.

Акрамя таго, для пастаноўкі на ўлік у інспэкцыю МПЗ да заявы прыкладаюцца наступныя дакумэнты:
- копія статуту, завераная натарыяльна;
- копія пасьведчаньня пра рэгістрацыю, завераная натарыяльна;
- дадзеныя пра наяўнасьць юрыдычнага адрасу (гэта можа быць копія гарантыйнага ліста, які падаваўся ў рэгіструючыя органы, ці дамова арэнды (бязвыплатнага карыстаньня);
- дадзеныя пра ініцыятараў стварэньня ГА (запоўніце анкету па ўзоры інспэкцыі МПЗ);
- пратакол (выпіска з пратаколу) пра выбраньне кіраўніка арганізацыі і загад пра прызначэньне бухгальтара (**У адпаведнасьці з Законам Рэспублікі Беларусь ад 18 кастрычніка 1994 г. N 3321-XII "Аб бухгальтарскім уліку і справаздачнасьці" (са зьменамі і дапаўненьнямі па стане на 25 чэрвеня 2001 г.) у любым ГА мусіць быць галоўны бухгальтар, пры адсутнасьці ў штаце пасады галоўнага - бухгальтар, які аказвае паслугі па вядзеньні бухгальтарскага ўліку і справаздачнасьці, ці спэцыяліст-бухгальтар, які зьяўляецца індывідуальным прадпрымальнікам*). На пасаду бухгальтара прызначаецца асоба, якая мае вышэйшую спэцыяльную адукацыю, а ў выключных выпадках - асоба, якая ня мае такой адукацыі пры наяўнасьці спэцыяльнай адукацыі і стажу працы па спэцыяльнасьці бухгальтара ня менш за 5 год. Неабходна памятаць, што загад пра прыём на працу бухгальтара падаецца ў інспэкцыю МПЗ у выпадку, калі з бухгальтарам заключаецца працоўная дамова. Калі бухгальтар будзе выконваць свае абавязкі на грамадзкіх пачатках, то прадастаўляецца загад ці пратакол кампэтэнтнага органа пра накладаньне функцыяў бухгальтара на грамадзкіх пачатках.

Да гэтых дакумэнтаў прыкладаецца таксама тэчка-хуткасшывальнік.

Уліковы нумар падаткаплацельшчыка надаецца арганізацыі цягам 10 дзён. ГА выдаецца пасьведчаньне пра наданьне яму УНП.

Адрасы і тэлефоны інспэкцыяў МПЗ у Менску:
*Маскоўскі раён: пр-т Дзяржынскага 10, тэл. 220-40-53*
*Партызанскі р-н: вул. З. Бядулі 1, тэл. 236-70-10*
*Кастрычніцкі р-н: вул. Чкалава 6, тэл. 224-10-44*
*Першамайскі р-н: вул. Сядых 12, тэл. 216-05-36*
*Савецкі р-н: вул. Казлова 7, тэл. 284-89-05*
*Цэнтральны р-н: зав. Камунальны 3, тэл. 234-11-41*
*Завадзкі р-н: вул. Мічурына 7, тэл. 246-36-82*
*Ленінскі р-н: вул. Маякоўскага 83, тэл. 221-56-25*
*Фрунзэнскі р-н: Інспэкцыя № 1, вул. Якубоўскага 54а, тэл. 257-76-00*
*Інспэкцыя № 2 пр. Пушкіна 11, тэл. 207 16 78*

**2.** Для адкрыцьця рахунку ў банку варта зьвярнуцца ў падатковую інспэкцыю па месцы знаходжаньня юрыдычнага адрасу аб'яднаньня з заявай пра выдачу дублікатнага паведамленьня пра наданьне УНП. На кожны від рахунку (разьліковы, валютны і інш.) варта атрымаць асобны дублікат. За выдачу аднаго дублікату бярэцца збор у памеры 3 мінімальных заробкаў (калі ГА не займаецца прадпрымальніцкай дзейнасьцю, то выдача дублікатаў паведамленьняў пра наданьне УНП адбываецца без узыцьця платы (**Палажэньне пра Дзяржаўны рэестар падаткаплацельшчыкаў Рэспублікі Беларусь, зацьв. Пастановай Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь 22.02.1994 № 92 (у рэдакцыі пастановы Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь 17.08.2000 № 1282)*). Для атрыманьня дублікату падаюцца наступныя дакумэнты:
- заява;
- квітанцыя пра ўплату збору (у неабходных выпадках).

Дублікат выдаецца цягам 10 дзён.

**3.** Атрымаць код Агульнадзяржаўнага клясыфікатара прадпрыемстваў і арганізацыяў (АКПА). Для гэтага ў адпаведнае гарадзкое (абласное) Упраўленьне статыстыкі і аналізу прадастаўляюцца наступныя дакумэнты:
- копія пасьведчаньня пра дзяржаўную рэгістрацыю;
- арыгінал статуту і пасьведчаньня пра рэгістрацыю;
- копія паведамленьня пра наданьне УНП.

ГА па атрыманьні вышэйпералічаных дакумэнтаў Упраўленьнем статыстыкі і аналізу выдаецца інфармацыйны ліст з указаньнем нададзенага інфармацыйнага коду. Адрас Упраўленьня статыстыкі і аналізу ў Менску: вул. Захарава, 42, пакой 203, тэл.: 236-44-53.

**4.** У 10-дзённы тэрмін з дня дзяржаўнай рэгістрацыі зарэгістравацца ў якасьці плацельшчыка страхавых унёскаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь у раённых (гарадзкіх) аддзелах, абласных і Менскага гарадзкога ўпраўленьня Фонду па месцы знаходжаньня юрыдычнага адрасу арганізацыі (**Інструкцыя пра парадак рэгістрацыі (перарэгістрацыі) і зьняцьця з уліку плацельшчыкаў абавязковых страхавых унёскаў у*

*органах Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны насельніцтва ад 30.03.2001 № 1/2).*

Для пастаноўкі на ўлік трэба:

- заява пра рэгістрацыю (узор можна атрымаць на месцы);
- копія пасьведчаньня аб дзяржаўнай рэгістрацыі, завераная натарыяльна або органам Фонду;
- копія інфармацыйнага ліста з указаньнем нададзенага ідэнтыфікацыйнага коду;
- копія паведамленьня пра наданьне УНП.

Датай рэгістрацыі плацельшчыка ў органе Фонду зьяўляецца дзень прадастаўленьня ГА заявы пра рэгістрацыю з усімі неабходнымі дакумэнтамі. ГА органамі Фонду выдаецца паведамленьне плацельшчыку.

Пасьля рэгістрацыі ў органах Фонду на аснове заявы пра выдачу даведкі ў банк (форма заявы на месцы) плацельшчыку выдаюцца даведкі для прадастаўленьня ў банк.

Адрасы і тэлефоны раённых аддзелаў Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва ў Менску:
*Маскоўскі раён: 2-і завулак Люксэмбург, 8 , тэл. 213-65-08*
*Партызанскі р-н: вул. Першамайская, 17, тэл. 285-28-51*
*Кастрычніцкі р-н: вул Чкалава, 6, тэл. 229-30-47*
*Першамайскі р-н: вул. Калініна, 19, тэл. 285-67-74*
*Савецкі р-н: вул. Казлова, 7, тэл. 284-89-05*
*Цэнтральны р-н: Гарадзкі вал, 8, тэл. 226-41-47*
*Завадзкі р-н: вул. Ангарская, 7, тэл. 242-71-13*
*Ленінскі р-н: Партызанскі пр., 15, тэл. 213-14-97*
*Фрунзэнскі р-н: вул. Даватара, 8, тэл. 209-40-60*

**5.** Атрымаць дазвол пашпартна-візавай службы раённага ўпраўленьня ўнутраных справаў (РУУС) на выраб пячаткі па месцы знаходжаньня юрыдычнага адрасу.

Для гэтага неабходна:

*А.* Узгадніць эскіз пячаткі (**Пячатка мусіць строга адпавядаць патрабаваньням дзейснага заканадаўства: Інструкцыі аб парадку адкрыцьця і функцыянаваньня штэмпельна-гравёрных прадпрыемстваў (участкаў), вырабу, уліку, захаваньня і зьнішчэньня пячатках і штампаў, зацьв. Пастановай Міністэрства ўнутраных справаў краіны. Гл. **Выпіску***) у рэгіструючым органе.

Для ўзгадненьня эскізу пячаткі ў рэгіструючы орган падаюцца наступныя дакумэнты:

- заява ў адвольнай форме;
- эскіз пячаткі (3 асобнікі);
- пратакол кампэтэнтнага органа пра зацьверджаньне эскізу пячаткі. За ўзгадненьне эскізу простай пячаткі круглай формы бярэцца збор у памеры адной базавай велічыні.

*В.* Для атрыманьня дазволу ў РУУС падаюцца наступныя дакумэнты:

- пісьмовая заява (хадайніцтва) з указаньнем аснаваньняў вырабу пячаткаў, іх колькасьці і віду, а таксама прозьвішча, ініцыялаў, нумару і сэрыі пашпарту асобы, прызначанай адказнай за атрыманьне дазволу на выраб пячаткаў;
- копія пасьведчаньняў пра рэгістрацыю;
- копія статуту;
- апісаньне і эскіз пячаткі, падпісаныя кіраўніком (2 асобнікі) і завераныя рэгіструючым органам;
- арыгінал статуту і пасьведчаньня пра рэгістрацыю.

Адрасы і тэлефоны РУУС у Менску:
*Маскоўскі р-н: вул. Грушаўская, 9, тэл. 229-46-08*
*Партызанскі р-н: зав. Стаханаўскі, 5, тэл. 230-81-78*
*Кастрычніцкі р-н: вул. Сьвярдлова, 24а, тэл. 224-89-51*
*Першамайскі р-н: вул. К. Чорнага 27а, тэл. 266-97-31*
*Савецкі р-н: зав. Я. Коласа 3, тэл. 232-15-49*
*Фрунзэнскі р-н: 4 Загарадны зав. 85, тэл. 228-29-72*
*Цэнтральны р-н: вул. Арлоўская 68-1, тэл. 213-77-13*
*Завадзкі р-н: вул. Кабушкіна 36, тэл. 240-06-77*
*Ленінскі р-н: вул. Ракасоўскага 42, тэл. 248-99-61*

**6.** Вырабіць пячатку (кошт вар'юецца ў залежнасьці ад месца вырабу ад $5 і вышэй).

**7.** Даць інфармацыю пра ГА ў раённыя аддзяленьні Дзяржаўнага фонду садзейнічаньня занятасьці:

- месцазнаходжаньне ГА;
- інфармацыя пра вакантныя пасады (пры іх наяўнасьці).

**8.** Адкрыць рахунак у банку.

Для адкрыцьця рахунку ў банку падаюцца наступныя дакумэнты:

- заява пра адкрыцьцё разьліковага рахунку;
- 2 карткі з узорам подпісаў і адбітку пячаткі (адна завераная натарыяльна);
- пасьведчаньне пра рэгістрацыю (копія, завераная натарыяльна ці органам, які выдаў дакумэнт);
- выпіска з пратаколу заснавальчага мерапрыемства пра стварэньне ГА (копія, завераная натарыяльна ці органам, які выдаў дакумэнт);
- статут (копія, завераная натарыяльна ці органам, які зарэгістраваў статут) з пазнакай пра рэгістрацыю аб'яднаньня;
- дакумэнт, які пацьвярджае рэгістрацыю ў дзяржаўнай падатковай інспэкцыі ў якасьці падаткаплацельшчыка (дублікат УНП);
- даведка дзяржаўнай падатковай інспэкцыі пра ўнясеньне кіраўніка і галоўнага бухгальтара ў рэестар дзяржаўнай рэгістрацыі (арыгінал);
- інфармацыйны ліст органа дзяржаўнай статыстыкі з указаньнем ідэнтыфікацыйнага коду (ксэракопія);
- даведка пра рэгістрацыю ў органах Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны (арыгінал);
- арыгінал Статуту для адзнакі ў ім пра тое, што адкрыты рахунак ва ўстанове банку.

Для адкрыцьця валютнага рахунку ў тым жа банку, дзе адкрыты разьліковы рахунак, падаюцца толькі наступныя дакумэнты:

- заява пра адкрыцьцё рахунку;
- дублікат паведамленьня пра наданьне УНП.

З банкам заключаецца дамова на разьліковабанкаўскае абслугоўваньне, адзін асобнік дамовы застаецца ў банку, другі - у ГА.

Пасьля адкрыцьця рахунку ГА неабходна паведаміць у інспэкцыю Міністэрства па падатках і зборах нумар гэтага рахунку, а таксама назву і код банку, у якім ён адкрыты.

Рэкамэндуем ГА адразу пасьля дзяржаўнай рэгістрацыі зьвярнуць увагу на вядзеньне справаводзтва (**За парушэньне патрабаваньняў заканадаўства пра справаводзтва службовыя асобы ГА нясуць адказнасьць, прадугледжаную артыкуламі 89/1, 89/2, 89/3, 89/4, 167/7 Кодэксу Рэспублікі Беларусь аб адміністратыўных правапарушэньнях*). У мэтах правільнай арганізацыі і вядзеньня справаводзтва ГА можа заключыць дамову пра супрацоўніцтва з Нацыянальным архівам Беларусі. У дамове пра супрацоўніцтва абгаворваюцца правы, адказнасьць, тэрмін дзеяньня дамовы, тэрміны захоўваньня і перадачы дакумэнтаў на дзяржаўнае захаваньне.

***Калі ў вас узьніклі пытаньні, юрысты "Незалежнага таварыства прававых дасьледаваньняў" з радасьцю дапамогуць вам:***
***(017) 236 55 17, 285 39 99***
***islr@infonet.by***

## ВЫПИСКА

УТВЕРЖДЕНО
Постановлением
Министерства внутренних дел Республики Беларусь
25.09.2000 № 157

### ИНСТРУКЦИЯ

о порядке открытия и функционирования штемпельно-граверных предприятий (участков), изготовления, учета, хранения и уничтожения печатей и штампов

Глава 7. Порядок изготовления печатей и штампов, их описание

48. Изображение Государственного герба Республики Беларусь на печатях должно строго соответствовать его описанию, изложенному в нормативных правовых актах Республики Беларусь, регламентирующих установленный порядок изготовления и использования изображения Государственного герба Республики Беларусь.

49. Печать с изображением Государственного герба Республики Беларусь представляет собой металлическое, каучуковое, полимерное изделие круглой формы диаметром 43-45 миллиметров (для центральных органов власти и управления) или 40-42 миллиметра (для учреждений и организаций). В центре печати помещается изображение Государственного герба Республики Беларусь, а по ее окружности - "Республика Беларусь", полное наименование органа, учреждения на белорусском или русском языках. Размер изображения Государственного герба Республики Беларусь может изменяться в зависимости от ширины окружающей надписи, но должен быть не менее 15 миллиметров.

50. Простая печать представляет собой металлическое, каучуковое, полимерное изделие круглой формы без изображения Государственного герба Республики Беларусь. По окружности указывается: "Республика Беларусь" *), юридический адрес (город или район), а в центре - полное наименование учреждения, предприятия, организации либо эмблема согласно требованиям пункта 51 Инструкции*.

51. Печати с эмблемами (символическими или графическими изображениями) могут быть изготовлены только в том случае, если эмблема зарегистрирована в установленном порядке и имеется ее описание в уставе или положении об учреждении, предприятии, организации.

52. Изображение Государственного герба Республики Беларусь помещается на угловых штампах государственных предприятий, организаций и учреждений республиканского и местного подчинения, под ним - наименование министерства, главного управления (управления) и наименование учреждения, предприятия, организации.

53. Текст, изображаемый на угловом штампе министерства, другого республиканского органа государственного управления, предприятия, учреждения, организации, должен соответствовать тексту, изображенному на печати субъекта хозяйствования. Если угловой штамп изготавливается на двух языках, то слева пишется текст на белорусском языке, а справа - на русском. Юридический адрес и другие реквизиты на штампе указываются на одном языке.

54. Все виды печатей и штампов должны изготавливаться по установленным стандартам в соответствии с технологией предприятия и не должны превышать следующих размеров:

54.1. печать круглой формы с текстом на одном языке: 38-40 миллиметров;
54.2. печать круглой формы с текстом на двух языках: 40-45 миллиметров;
54.3. угловой штамп: 45 на 75 миллиметров.

55. Овальный штамп изготавливается предприятием по образцам (эскизам) заказчика, при этом разница между размерами сторон (ширина, высота) не должна быть менее 20 миллиметров.

56. Описание текста печатей и штампов должно строго соответствовать официальному наименованию юридического лица, определенному в документах, указанных в подпунктах 38.2, 38.4 Инструкции. Не допускаются в тексте печатей и штампов такие сокращения организационно-правовых форм юридического лица, как ООО, ОДО, ЗАО, УП, ИП, СП и так далее.

57. Официальные названия государственных органов, юридических лиц в тексте печатей и штампов выполняются на белорусском и (или) русском языках. В наименования юридических лиц не могут включаться слова и символы иных алфавитов. Разрешается изготовление печатей на белорусском и русском языках. При этом все реквизиты указываются на двух языках.

58. Юридическим и физическим лицам запрещается размещать заказы на изготовление печатей и штампов на предприятиях, находящихся за пределами территории Республики Беларусь.

59. Технологический процесс изготовления печатей и штампов может быть основан на применении современных средств компьютерной, лазерной техники с использованием шрифтов, графики, средств защиты.

---

**) Порядок включения в наименование юридического лица указаний на официальное полное или сокращенное название Республики Беларусь определен Указом Президента Республики Беларусь от 7 апреля 2000 г. № 172 "Об использовании названия Республики Беларусь юридическими лицами" (Национальный реестр правовых актов Республики Беларусь, 2000 г., № 36, 1/1154).*

ГА "Дыярыюш" глыбока смуткуе з нагоды заўчаснай сьмерці спадара **Уладзімера Кармілкіна** і выказвае спачуваньні родным і блізкім памерлага.

Сябры Асамблеі НДА спачуваюць спадарыні Ірыне Жыхар з нагоды заўчаснай сьмерці ейнага **айчыма**.

